

Лепшыя гумарысты пачатку адыходзячага стагоддзя пісалі пра тое, «як гэта робіцца»: у фельетонах і гумарэсках сусветна вядомых еўрапейскіх і амерыканскіх аўтараў высмейвалася «тэхналогія вырабу» кінафільмаў, спектакляў, газет...

Пажартавалі, рассмяшылі, але і — расказалі чытачу пра маленькія таямніцы куліс і вялікія магчымасці лінатыпа. Прычым расказалі так, што і сёння любая падобная тэма загадзя ўяўляецца блізкай, як, напрыклад, будні пасяўной кампаніі або клопаты ўчастковага інспектара міліцыі. Ва ўсякім выпадку, нават старшыя школьнікі (паводле нашых назіранняў) думаюць, што ведаюць «як гэта робіцца». Як робіцца газета, кніга, а таксама, між іншым, наш часопіс.

Не, сябар-чытач, наўрад ці ведаеш ты тое, пра што, на рэдагаваць на дысплеі камп'ютэра, паступяць на «ўзбраенне» лазерныя прынтэры... У «Беларусі» выдатная мелаваная папера. Дарэчы, айчынная. Паступае да нас з Карукаўскай фабрыкі. Гэта ў Чарнігаўскай вобласці. А ўвогуле разам з «Беларуссю» кожны месяц адсюль выходзяць у свет каля 40 назваў часопісаў. Як цэнтральных, так і рэспубліканскіх, вядома. Яшчэ робім за год 19 мільёнаў экземпляраў кніг у цвёрдым пераплёце, штосутачна друкуем каля 6 мільёнаў экземпляраў газет.

— Але не ўсе выданні выглядаюць прыгажунамі...

— Безумоўна! Па розных прычынах...

— З добрай паперай цяжка?

— Так, гэта дэфіцыт у краіне востры. І мы ў гэтым сэнсе ў Саюзе не выключэнне. Не пестуны.

# ПРАЗ ЛАБІРЫНТЫ —



● На здымках: галоўны тэхнолаг Леў Тэуш — не «кабінетны» кіраўнік; наборшчыца Любоў Шышло і яе вучаніца Наталля Кулій; наборшчыца Наталля Паташка; Ірына Дробыш закончыла мантаж тэксту; у друкарскім аддзяленні; аператар колерападзельніка Аляксандр Шпакоўскі.

Фота Г. АНАТОЛЬЕВА.

жаль, многія журналісты краіны і самі маюць пакуль вельмі цьмянае ўяўленне. Таму прымі запрашэнне на экскурсію ў домквартал Друку. Спадзяёмся, не пашкадуеш. Хоць нам трэба будзе, удакладнім адразу, не ўсміхацца, а — здзіўляцца.

Такім чынам, давайце прасочым увесь той шлях (па лабірынтах Вытворчасці), што праходзяць нумары «Беларусі» перш чым «выйсці ў свет», апынуцца перад вамі.

Аднак спачатку цікава і карысна паслухаць галоўнага тэхнолага Льва Тэуша:

— У нас цяпер сучаснае абсталяванне. Электронны набор, колерападзел, фотаформы тэксту... Ну, вы гэта ўсё зараз убачыце. І звярніце там увагу: няма бруду, няма шуму. У перспектыве тэксты можна будзе

— Вы задаволены, калі падае ці абмяжоўваецца тыраж якога-небудзь выдання?

— Не! Паліграфісты не зацікаўлены ў зніжэнні тыражоў.

Пасля такога дыялога ідзём знаёміцца з людзьмі, якія і робяць з макетаў, фотаздымкаў і тоўстых папак з матэрыяламі чарговыя тысячы экземпляраў «Беларусі».

Шлях — нязблізкі. Без праважатага ва ўсім хітрасплеценні калідораў (калі, вядома, ты тут навічок) няцяжка і заблудзіцца...

Фотанаборны ўчастак. Тут — адны жанчыны, праца якіх аддалена нагадвае работу машыністак. Сюды паступаюць з рэдакцыі (на стандартных пісчапапяровых аркушах) усе тэксты нумара. Іх разбіраюць Любоў Шышло, Наталля Кулій, Ядвіга Бандаровіч, Алена Варанько, Святлана Сяргейчык.

За змену кожная «кадзіруе» на перфастужцы 80 тысяч знакаў. Гэта прыкладна 40 машынапісных старонак.

«Змеі» перфастужак прапаўзаюць праз апарат, у якім адбываецца паўторнае нараджэнне «літарнага» тэксту. Але ўжо не на паперы — а на празры-







# «У СВЕТ»!

ФОТАРЭПАРТАЖ

стых плёнках і «ў шрыфце». Фотанабор і па цяперашнім часе прымушае «чалавека з вуліцы» замерці ў здзіўленні.

Наступны ўчастак — участак мантажу тэксту. Бо плёнкі з роўнымі слупкамі слоў — гэта ўсяго толькі як бы вялікія аркушы фотапаперы, на якіх надрукаваны адразу некалькі здымкаў. Іх трэба разрэзаць. Плёнкі рэжуць і строга па макету выклейваюць. Усё! Са сталоў Ірыны Дробыш, Галіны Шалай, Святланы Даніленкі, Ніны Міцкевіч і Ядвігі Прорвіч можна збіраць гатовыя (праўда, пакуль у адным экземпляры і ўсё яшчэ празрыстыя) старонкі бліжэйшага нумара «Беларусі».

З тэкстам мы, здаецца, крыху разабраліся... Але часопіс жа ілюстраваны! Дзе і хто «чаруе» над слайдамі і малюнкамі?

Зноў доўгі пераход па паверхах і калідорах. Шукаем участак колерападзелу. Знайшлі і сустрэлі там пакуль першага за ўсю «экскурсію» мужчыну.

Тут таксама была чысціня і цішыня. Мяккім святлом мігалі лямпачкі на нейкай машыне. Высветлілася, што гэта і ёсць колерападзельнік, а Шпакоўскі — яго апаратар.

Тут усе каляровыя малюнкі і слайды павялічваюцца да неабходных (па макету) памераў і рыхтуюцца для перадачы «ў друк». Як адбываецца працэс?

— Вельмі проста,— тлумачыць Аляксандр Уладзіміравіч.— У апараце ёсць лазер. Ён «піша» колер, а лазерам кіруе колерны вылічальнік.

Калі гатовы і тэкст і ілюстрацыі — чарга за друкарскім аддзяленнем. Вось яго нескладана адшукаць — па грукату. Машыны, якія працуюць тут, праўду кажучы, не гордасць стваральнікаў паліграфічнай тэхнікі. Больш дакладна, ужо не гордасць. Але і яны яшчэ па-свойму прыгожыя. Гэтыя волаты робяць сваю справу з упартасцю дарожнага катка. І вельмі хутка гатовыя друкаваныя аркушы збіраюцца ў вельмі цяжкія «кубікі». З «пачкаў» друкаваных аркушаў-блізнят і «сшываюць» экземпляры «Беларусі».

Наш часопіс, як правіла, друкуюць усяго два, затое выдатныя, майстры — Міхаіл Мякінка і Ігар Шчарбуноў. На гэта ў іх затрачваецца не больш як тры рабочыя дні. Дарэчы, аркушы вось гэтага экземпляра «Беларусі» яны трымалі ў руках усяго праз некалькі дзён пасля Дня друку.

**АД АЎТАРАЎ. Мы ведаем, што ў «Беларусі» шмат юных чытачоў, якія хутка здадуць школьныя экзамены. Менавіта для іх мы даведаліся ў галоўнага тэхнолага Л. Тэуша: у Мінску ёсць вучылішча (ПТВ-32) паліграфістаў. Тэхнікумы — у Ленінградзе і ў Маскве. Інстытуты — у Маскве і ў Львове. Рызыкніце (у каго, вядома, ёсць жаданне) — і вы хутка зразумееце, чаму паліграфісты рэдка мяняюць прафесію.**

**Валерый ЛАПІН.**



## ЛЮДЗІ ВЫХОДЗЯЦЬ НА ПЛОШЧУ...




Сёлета спаўняецца 100 гадоў з таго часу, калі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі ўпершыню святкавалі Першамай. Свята гэтае нарадзілася як дзень салідарнасці пралетарыяў усяго свету. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі Першамай стаў у нашай краіне, па сутнасці, дзяржаўным святам, бо мэты і інтарэсы рабочага — самага перадавога — класа лічыліся галоўнымі. Прынамсі, гэта заўсёды абвяшчалася на лозунгах святочнага кумача. Зараз мы аддаём перавагу агульначалавечым вартасцям, што прадугледжвае выяўленне памкненняў усіх класаў і нават «праслойкі» паміж імі. І разам са зменамі, якія адбываюцца ў нашай краіне ў працэсе перабудовы, іначай пачынаюць выглядаць святочныя мітынгі і маніфестацыі. Менш стала параднасці і рапартаў аб працоўных дасягненнях, больш свядомага волевыяўлення людзей. Гэта адзнака часу, якая не можа не радаваць.

Мітынг, які вы бачыце на здымку,— не першамайскі. Ён адбыўся на галоўнай плошчы рэспублікі напярэдадні першых сапраўды дэмакратычных выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы Беларусі. Адметнасць гэтага мітынгу: ён быў скліканы аргкамітэтам Беларускага народнага фронту і іншымі «нефармальнымі» грамадскімі арганізацыямі, аднак прысутнічалі і выступілі на ім першыя кіраўнікі нашай рэспублікі. Гэты раз яны не ўзвышаліся над натоўпам людзей на высачэзнай трыбуне, не падкрэслівалі, што «выйшлі з народу». Тут яны былі сярод народу. У літаральным сэнсе. І кожны ўдзельнік мітынгу меў магчымасць выказацца з адной «кропкі» на плошчы, праз адзін мікрафон...

Вось і на сцягах, што лунаюць над сённяшнімі мітынгамі, з чырвоным колерам сімвалічна спалучаюцца іншыя. Гэтыя фарбы нібы адлюстроўваюць і спектр палітычны — плюралізм думак, і колеры вясёлкі. І складаюць святло новага дня над нашай зямлёй, на якой мы ўсе разам імкнёмся наладзіць вольную стваральную працу. Якраз тую, да якой шмат гадоў заклікаюць першамайскія лозунгі.

Людзі выходзяць на плошчу са старымі і новымі лозунгамі і сцягамі, за якімі адна спрадвечная надзея на лепшае, вартае чалавека, жыццё. Народ робіць свой выбар.

Як ПАДНЯЦЬ ролю Саветаў народных дэпутатаў у сацыяльна-эканамічным адраджэнні вёскі? З кожным днём гэта надзвычай важнае пытанне набывае ўсё большую вастрыню і актуальнасць.

Рашэннем сакавіцкага (1989 г.) Пленума ЦК КПСС адначасова з развіццём калгасаў і саўгасаў прадугледжана далейшае развіццё арэндных калектываў, кааператываў, індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Сёння ажыццяўляецца грунтоўная перабудова і ўдасканаленне вытворча-эканамічных сувязей у розных звеннях аграпрамысловага комплексу рэспублікі. Разам з тым новыя цяжкасці, якія ўзніклі за апошні час на шляху перабудовы вытворчых і сацыяльных адносін на вёсцы, абумоўлены, на мой погляд, адсутнасцю больш-менш пазітыўных змен у дзейнасці Саветаў. Калі сказаць дакладней, функцыі мясцовых Саветаў засталіся ранейшымі, як і ў гады сумна вядомага ўсім застою.

Па-ранейшаму сацыяльную палітыку на месцах вызначае раённы орган народнай улады, а мясцовым Саветам, якія ў адрозненне ад гаспадарак не маюць у дастатковай колькасці грашовых і матэрыяльных сродкаў, застаецца роля выканаўцаў. Карацей кажучы, мясцовыя Саветы сёння практычна не ўключыліся ў тыя пазітыўныя перамены, якія адбываюцца ў эканамічнай і гаспадарчай дзейнасці многіх калгасаў і саўгасаў, і па-ранейшаму сур'ёзна не ўплываюць на свядомасць людзей, а значыць і на сацыяльнае адраджэнне вёскі.

Возьмем, да прыкладу, пытанне аб арэндзе. На першы погляд, асаблівых прычын для хвалявання тут няма. Практычна ў кожным раёне працуюць арэндныя калектывы і асобныя арандатары. Пры жаданні, у РАПА можна атрымаць змястоўную інфармацыю аб іх дзейнасці, з канкрэтнымі выкладкамі, прыкладамі, пераканаўчымі лічбамі, разлікамі і паказчыкамі. Словам, арэндныя адносіны на вёсцы, нягледзячы на адчувальныя цяжкасці з фінансаваннем, забеспячэннем тэхнікай, будаўнічымі матэрыяламі, адсутнасцю дакладнай сістэмы ў падрыхтоўцы кадраў арандатараў і цэлага шэрагу іншых жыццёва важных праблем, паступова і ўсё больш упэўнена набіраюць сілу. Тым не менш, ужо сёння добра бачна, што рухавік арэнды, як след не набраўшы патрэбнай колькасці абаротаў, пачаў працаваць з перабоямі. Спытаеце — чаму?

Адразу, бадай, не адкажаш. Ды толькі, мне здаецца, што галоўнай перашкодай на шляху арэнды з'яўляецца пытанне аб уласнасці. Сутнасць яго ў тым, што калгасы і саўгасы, якія юрыдычна не з'яўляюцца ўласнікамі зямлі (як вядома, зямля — уласнасць дзяржавы), на практыцы манапольна валодаюць ёй і, па сутнасці, ажыццяўляюць дыктат над арандатарам. З «хуткаспелага» фермера гаспадаркі здзіраюць тры скуры ў выглядзе падаткаў за арэнду зямлі, тэхнікі, памяшканняў, за іншыя паслугі. Дарэчы, самі калгасы і саўгасы, валодаючы зямлёй і эксплуатуючы яе (спадзяюся, што чытач даруе мне гэты не зусім тактоўны выраз), не плацяць дзяржаве за такую вось «прывілею» ніводнай капейкі. А арандатары павінны плаціць!?

Прычым не дзяржаве ў асобе мясцовых Саветаў, а калгасу або саўгасу!

Больш таго — гаспадаркі купляюць прадукцыю ў арандатараў па цэнах, якія значна ніжэйшыя за цэны рэалізацыі. Хіба ж гэта не дыктат?..

Такім чынам, сёння мы стаім перад рэальнай з'явай, сутнасць якой заключаецца ў тым, што калгасы і саўгасы, не маючы юрыдычнага права на валоданне зямлёй, на практыцы захапілі ў свае рукі гэтыя функцыі, адсунуўшы на другі план мясцовыя Саветы.

Не толькі на вёсцы, але і на ўсіх іншых прыступках адміністрацыйна-каманднай лесвіцы, пачынаючы раёнам і заканчваючы рэспубліканскім і саюзным узроўнямі, агульнанародная ўласнасць на зямлю трансфармавалася ва ўласнасць міністэрстваў і ведамстваў. Менавіта ў гэтым парадоксе нашага часу і, магчыма, сістэмы ў цэлым, як мне ўяўляецца, караняцца прычыны адарванасці селяніна (і не толькі яго аднаго!) ад сродкаў вытворчасці, а Саветаў — ад рэальнай і дзейснай улады.

Ды і ці шмат можа зрабіць для людзей сельсавет, які не мае ў дастатковай колькасці ні грашовых і матэрыяльных сродкаў, ні адпаведных службаў і спецыялістаў? Калі нават яго старшыня, і той за кожным цвікам бегае ў калгасную кантору. Як ні круці, а ў калгасе ёсць і цэмент, і цэгла, і грошы, і тыя ж цвікі. Таму часцей за ўсё на тэрыторыі свайго Савета вяскоўцы моляцца аднаму богу. Спадзяюся, што вы ўжо самі здагадаліся — каму. Вядома — старшыні калгаса!

Ва ўмовах адраджэння прававой дзяржавы вельмі важна, каб і калгас і асобны селянін мелі аднолькавыя правы на валоданне зямлёй.

На мой погляд, заканадаўчая перадача зямлі Саветам не толькі з юрыдычнага, але і з эканамічнага боку гледжання паставіць кожную гаспадарку ў роўныя ўмовы з арандатарам. Тады і калгас, і асобны арандатар заключаць з мясцовым Саветам дагавор, якім будуць прадугледжаны тэрміны арэнды, памер падатку на зямлю, узаемныя абавязацельствы па рацыянальным выкарыстанні сродкаў вытворчасці і шэраг іншых умоў. У такім разе значныя грашовыя сродкі ў выглядзе рэнтавых адлікаў, а таксама частка грошай, атрыманых ад вытворчасці і продажу прадукцыі, у першую чаргу будуць пералічвацца на рахунак мясцовага Савета, і толькі потым — на раённы, абласны і рэспубліканскі ўзроўні. Такім чынам, кожны мясцовы Савет, набыўшы неабходныя грашовыя сродкі, зможа належным чынам паклапаціцца аб умовах працы і адпачынку вяскоўцаў, аб нямоглых старых і інвалідах, а таксама выдаткаваць грошы на будаўніцтва дарогі, клуба і г. д.

**ГАЛОЎНАЯ РОЛЯ** ў абнаўленні існуючых і адраджэнні старых, на доўгія гады пакінутых без чалавечай увагі, вёсак, як і раней, належыць будаўніцтву. Няма слоў — аб'ёмы капітальных укладанняў у сацыяльную сферу на вёсцы за апошнія гады адчувальна павялічыліся. Калі ў адзінаццатай пяцігодцы ў калгасах і саўгасах рэспублікі пабудавана 6 млн. кв. м. жылля, дзіцячых садоў і ясляў — на 44 тысячы месц, клубаў і дамоў культуры — на 33 тысячы месц, то ўжо за чатыры гады бягучай пяцігодкі гэтыя паказчыкі практычна перакрыты. Але зроблена пакуль што вельмі і вельмі недастаткова, каб карэнным чынам палепшыць тут дэмаграфічную сітуацыю.

Як вядома, пераважную большасць вясковых мігрантаў складае моладзь. Вёска па-ранейшаму старэе. У шэрагу раёнаў рэспублікі ўжо сёння колькасць нябожчыкаў значна перавышае колькасць дзяцей, якія штогод нараджаюцца на свет. Сацыёлагі сцвярджаюць, што большасць юнакоў і дзяўчат пакідаюць бацькаўскія вёскі, бо не задаволены ўмовамі працы, быту і адпачынку. Зазначу, што паляпшэнне ўмоў арганізацыі працы ў раслінаводстве і жывёлагадоўлі яшчэ адстае ад росту ўзроўню адукацыі, кваліфікацыі, а значыць — і ад запатрабаванняў вясковых працаўнікоў. Хлеб вясковага працаўніка-шчыруна ва ўсе часы не быў лёгкім. І сёння ягоная праца, зрабіўшыся больш дынамічнай і прадукцыйнай, дзякуючы дапамозе разнастайных машын і механізмаў, усё яшчэ патрабуе значных фізічных намаганняў і галоўнае — часу.

Калі верыць падлікам сацыёлагаў, то кожны вясковы працаўнік каля 2000 гадзін на працягу года шчыруе на грамадскім палетку, а яшчэ 800 гадзін «трэніруецца» на сваім падворку. Няма ніякіх сумненняў у тым, што гэтая сярэдне-арыфметычная гадавая лічба — 2800 гадзін, менавіта тых, набрыняных салёным сялянскім потам гадзін, якія кожны працаздольны вяскоўвец аддае роднай зямлі, куды большая за працоўны час ягонага родзіча ў горадзе — рабочага: токара, слесара і г. д.

І нягледзячы на тое, што сярэдні заробак вяскоўца за апошні час значна павялічыўся і складае прыкладна 95 % ад заробку гарадскога рабочага, радасных эмоцый асабіста ў мяне гэты факт не выклікае, бо дадзеная «роўнасць» толь-

# НЯЛЁГКІ КРОК



# ДА АДРАДЖЭННЯ

Зміцер МАРОЗАЎ



кі адносная. А дасягнута яна за кошт павелічэння працаздольнасці працоўнага дня зноў жа — селяніна!

Так-так, паважаны чытач. Я не памыліўся. Вось і арэнда на цяперашнім, як гавораць эканамісты-аграрнікі, пераходным этапе (гэтыя б словы ды богу ў вушы!) пры ўсіх сваіх плюсах і мінусах вольнага часу вясковаму працаўніку не прыбавіла.

Калі раней селянін быў сляпым выканаўцам волі спецыялістаў і кіраўніка гаспадаркі, то, стаўшы арандатарам, ён добраахвотна ўзваліў сабе на плечы функцыі забеспячэнца. Але ж і гэта яшчэ не ўсё. Напрацаваўшыся на полі або адбаярыўшы светлавы дзень на ферме, набегаўшыся па розных канторах і базах у пошуках патрэбнай тэхнікі, арандатар вымушаны яшчэ перад сном падлічыць, што зроблена за дзень, якія страты, а якія набыткі, спланаваць справы на наступны дзень, і на тыдзень, на месяц, а часам і на цэлы год. Як бачым, на сон сучаснаму «фермеру» застаецца лічаныя гадзіны. Словам, тут не да прыгожых раманаў!

Відаць, доўга яшчэ «духоўны» хлеб будуць есці пісьменнікі, філосафы, публіцысты, наогул,— інтэлігенцыя. І нічога тут не зменіш. Такія ўжо рэаліі вясковага жыцця. На сваім агранамічным вопыце магу засведчыць: калі ў полі перастойвае збажына і на дол градам сыплюцца крамяныя зярняты (людзі кажуць — жыта плача), а камбайны ў гэты час з-за адсутнасці патрэбных запчастак нерухома стаяць у гаражы,— тут не да мастацкіх абагульненняў і філасофскіх развагаб карысці сялянскай працы і любові да зямлі. Звычайна ў такія хвіліны галаву, нібыта сталёвым свярдзёлкам, свідруе толькі адна думка: дзе адшукаць, як дастаць або выбіць тыя дэфіцытныя запчасткі, каб выратаваць хлеб. Скажу шчыра: даводзілася, часам і самому, як тое жыта ў полі, плакаць ад свайго бяссілля, крыўды і непамернай злосці на тых «адказна-безадказных» асоб, якія на мае турботы рэагавалі своеасабліва: «Ну і што з таго, што камбайны стаяць? Няхай пастаяць. Ты ў нас не адзін такі. Усім запчасткі трэба! Можаш і пачакаць». Вось так!..

Прайшоўшы пяць своеасаблівых хлебаробскіх кругоў,— ад сяўбы да жніва, змяніўшы дрогкі матацыкл агранома на «ўтульнае» крэсла ў аграпроме, тым не менш я маю маральнае права сказаць сваё слова пра хлеб, аб тым, што набалела. У рэшце рэшт, без зямнога хлеба і хлеб духоўны нікому, відаць, не спатрэбіцца б.

Нельга сёння замоўчваць і тое, якую шкоду прынёс вёсцы штучны, я б сказаў, кабінетна-бюракратычны падзел нашых вёсак і сёл на перспектыўныя і неперспектыўныя. Створана некалькі дзесяткаў «фасадных» гаспадарак, дзякуючы тым капітальным укладанням, якія павінны былі б дайсці да больш слабых калгасаў і саўгасаў. На жаль, гэтага не адбылося. У выніку — згублены, дакладней сказаць,— загублены, падрэзаны пад самы радаводны корань сотні хутароў, невялікіх вёсачак і нават вялікіх сёл. Дзякуючы менавіта вось такому «падзелу» за апошнія дзесяцігоддзі на Беларусі сышло у нябыт кожнае чацвёртае сяло, значна скарацілася агульная колькасць вясковых жыхароў.

Засмучае і трывожыць тое, што і сёння гэты працэс мае ўстойлівы характар. Толькі з 1970 года колькасць калгаснікаў і рабочых саўгасаў працаздольнага ўзросту скарацілася на 700 тысяч чалавек. Калі б за гэты час на вёсцы адпаведна ўзрасла прадукцыйнасць працы, то асаблівых падстаў для трывогі ні ў кога, бадай, і не было б. На жаль, жаданай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі за апошнія два дзесяцігоддзі тут не адбылося.

Па-ранейшаму навука адстае ад патрэб аграпрамысловай вытворчасці, а вось далейшае павелічэнне дэфіцыту рабочых рук на вёсцы працягваецца. Калі верыць статыстыцы, сёння ў рэспубліцы налічваецца каля 60 тысяч пакінутых, забытых людзьмі хат. Для большасці з іх патрабуецца грунтоўны рамонт. Таму тыя 20 кв. м. агульнай жыллёвай плошчы, якія сёння выпадаюць на аднаго сярэднестатыстычнага вяскоўца, наўрад ці азначаюць, што ён жыве ў больш спрыяльных умовах, чым гараджанін. Жыццё сцвярджае адваротнае. Адмінусаваўшы ад жыллёвага фонду на вёсцы тыя астылыя без чалавечага цяпла хаты, мы выявім, што памер кватэры вяскоўца зменшыцца амаль удвая — да 11 кв. м.

Паводле звестак Дзяржкамстата рэспублікі ў 1987 годзе на аднаго гарадскога жыхара прыходзілася 14,9 кв. м агульнай жыллёвай плошчы. Так што, вяскоўцу ў дадзенай сітуацыі пахваліцца няма чым.

Прыплюсуем сюды яшчэ дзесяткі тысяч вясковых сем'яў, якія з нецярпеннем чакаюць сваёй чаргі на атрыманне кватэры...

Адным словам, будаўнікам спаць у шапку няма калі. Тым не менш, будаўніцтва на вёсцы не набрала належных тэмпаў. Безумоўна, ёсць тут і аб'ектыўныя прычыны. Трагедыя Чарнобыля, землятрус у Арменіі яшчэ больш абвастрылі дэфіцыт будаўнічых матэрыялаў. І ўсё ж нават народнае гора, нават стыхія не могуць апраўдаць маруды і непаваротлівасці «Белсельбуда», іншых будаўнічых аб'яднанняў і арганізацый. Для многіх з іх, як і ў добрыя старыя часы, вёска з'яўляецца бязмежнай будаўнічай пляцоўкай, куды можна з выгадай для сябе загацiць дзяржаўныя сродкі і практычна не адказваць за дрэнную якасць работ, за гэтак званы «даўгабуд», за няўменне арганізаваць належным чынам справу.

**АПОШНІМ ЧАСАМ** хуткімі тэмпамі ў рэспубліцы развіваецца калектыўнае садаводства і агародніцтва. Толькі за чатыры гады бягучай пяцігодкі колькасць членаў садовых таварыстваў павялічылася больш як на 50 тысяч. Штогод пад дачныя пасёлкі, якія ў народзе з гумарам ахрысцілі «Шанхаямі», адводзяцца тысячы гектараў зямлі. Нярэдка на гэтыя мэты адразаюцца значныя кавалкі ўрадлівых ворыўных зямель ад севазваротаў гаспадарак. У адрозненне ад шматлікіх хутароў і паміраючых вёсак дачныя пасёлкі забяспечаны вадой, як правіла, да іх падведзены газ, электрычнасць, асфальтаваныя дарогі. Безумоўна, на ўсё гэта дзяржавай выдаткоўваецца значная частка грашовых і матэрыяльна-тэхнічных сродкаў. Я не супраць дачнікаў. Наадварот, гатовы зняць шапку перад кожным такім шчыруном, які, атрымаўшы некалькі сотак хмызу, за гады самааддана́й, мазольнай працы ператварыў іх у такую «фаззнду», якой мог бы пазайздросціць, скажам, галандскі або амерыканскі фермер. Ёсць у сучаснага дачніка і свежыя агурочкі з памідорчыкамі, і буйныя, сакавітыя клубніцы, і крамяныя наліўныя яблычкі, і сопкая, разварыстая бульба. Адным словам, сапраўдная гараджаніна-шчыруна на Камароўцы не сустрэнеш — ён цалкам жыве са сваёй «базы». І ўсё ж галандскі фермер яму наўрад ці пазайздросціць. Спытаеце — чаму? Ды маштабы не тыя! Як гэта ні дзіўна, але менавіта маштабамі і вызначаецца дзейнасць і мэты заходняга фермера і нашага дачніка. Валодаючы некалькімі дзесяткамі, а часам і сотнямі гектараў зямлі, з дапамогай навейшай тэхнікі і механізмаў «іхні» фермер імкнецца атрымаць прадукцыі як мага больш, каб своечасова збыць яе на рынку, і тым самым задаволіць попыт сваіх шматлікіх суайчыннікаў. А грашовымі прыбыткамі ён здолее распарадзіцца з выгадай для сябе! Частку грошай пусціць на набыццё новай тэхнікі, яшчэ адну частку адвядзе на выплату за паслугі, не забудзе ён таксама прыдбаць новы аўтамабіль для сына або вясельнае плацце для дачкі і шмат чаго іншага для патрэб сям'і і сваёй гаспадаркі.

У адрозненне ад фермера інтарэсы нашага дачніка куды вузейшыя. І абмежаваны яны памерам некалькіх сотак той «шанхайскай» зямлі. Таму і дбае ён толькі аб тым, як накарміць сябе і сваю сям'ю. Па сённяшнім часе і гэта няблага. Калі б кожны гараджанін змог забяспечыць сябе гароднінай, ягадамі і фруктамі, можа б і вясковец уздыхнуў з палёгкай. Але, калі глядзець на справу па-дзяржаўнаму, арыентацыя на стварэнне садова-агародніцкіх таварыстваў не можа вырашыць шматлікія праблемы, звязаныя з вырошчваннем і забеспячэннем людзей сельскагаспадарчай прадукцыяй, іншымі прадуктамі харчавання. Мне ўяўляецца, што адначасова з развіццём калектыўнага садаводства і агародніцтва, трэба ўсё ж большую частку грашовых і матэрыяльных рэсурсаў накіроўваць на сацыяльныя патрэбы шматлікіх глыбінных, напалову пустых вёсачак і пасёлкаў. Адрадзіўшы ў іх надзею да жыцця, можна будзе вярнуць да зямлі і селяніна. А ён,— наш селянін, калі яму дазволяць стаць сапраўдным гаспадаром,— здолее не горш за «іхняга» фермера паклапаціцца не толькі аб уласнай сям'і, але і аб сваіх шматлікіх родзічах і знаёмых у горадзе, у тым ліку і аб дачніках. Дарэчы, многія гараджане, асабліва людзі перадпенсійнага ўзросту, жадаюць прыдбаць на вёсцы пустыя хаты. Але, каб пераўтрасці хатнюю гаспадарку, давесці яе да ладу, патрэбны немалыя грошы, будаўнічыя матэрыялы. Куды такі перасяленец звычайна ідзе за дапамогай? Вядома, у сельсавет! Што можа сёння сельсавет, мы ўжо ведаем. У калгасе таксама лішняй цагліны не выпрасіш, пакуль старшыня не ўпэўніцца ў шчырасці намераў перасяленца. А час ідзе. Дарагі час! І добра, калі ў чалавека хопіць настойлівасці і цярплівасці давесці задуманае да ладу.

А калі не хопіць? У такім разе ён махае на ўсё рукой і зрываецца з вясковага котлішча, цяпер ужо назаўсёды. Міграцыя гараджан у вёску — з'ява рэальная, і, на мой погляд, з кожным годам яна будзе пашырацца. Асобнымі пастановамі, рашэннямі, інструкцыямі гэту праблему не вырашыць. Трэба, відаць, падумаць аб сацыяльнай праграме ў адносінах да былых гараджан, якія пажадалі жыць у вёсцы. Толькі тады, калі ўсе гэтыя праблемы будуць вырашаны ў комплексе і замацаваны законам, перасяленец набудзе наяве статус вясковага жыхара, хутчэй адновіць былыя сувязі з роднай зямлёй, хутчэй паразумеецца з людзьмі.

**ЯК ВЯДОМА**, хлебаробскі вопыт назапашваўся дзесяткамі, сотнямі папярэдніх пакаленняў. З кожным новым стагоддзем яго развіццё адпаведна спрыяла ўзбагачэнню духоўнай культуры селяніна. І наадварот — чым багацейшы духоўны свет вясковага працаўніка, тым на больш высокім узроўні знаходзіцца вытворча-тэхнічныя адносіны і працэсы, дзякуючы якім ён увесь час удасканальваецца як майстра сваёй справы. Разам з тым, сёння часцей можна пачуць размовы пра культуру ў земляробстве, жывёлагадоўлі, эканоміцы, чым пра маральна-этычныя ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Духоўна збеднены працаўнік не вырасціць поўнага, важкага коласа, не аблашчыць па-бацькоўску шчыра і клапатліва родную зямлю, не выхавае ў сваіх дзяцей павагу і любоў да хлебаробскай працы. Вось чаму, не абудзіўшы ў душы кожнага вяскоўца (асабліва ў моладзі) інтарэсу да культурнай спадчыны свайго народа, не ўзбагаціўшы яе сучаснымі дасягненнямі культуры іншых народаў, а таксама перадавой творчай думкі, нельга разлічваць на значны крок у сацыяльна-эканамічным развіцці вёскі не толькі ў бліжэйшыя гады, але і на больш значную перспектыву. Тым не менш, доўгі час у асобных кіраўнікоў ад культуры існавала даволі ўстойлівае меркаванне: навошта будаваць клубы на вёсцы, калі іх і без таго шмат. У сярэднім на кожную гаспадарку прыходзіцца два клубы. І ўсё ж, калі не лічыць некалькіх дзесяткаў сучасных палацаў і дамоў культуры, то, паклаўшы руку на сэрца, можна зазначыць, што больш чым палова культурна-асветных установ на вёсцы ўяўляюць сабой старыя хаціны, дзе ўзімку звычайна стаіць халадэча, бо паліва хапае толькі на тое, каб абагрэць кантору і сельсавет.

Па-ранейшаму большасць вёсак не маюць пунктаў медыцынскага і бытавога абслугоўвання, а ў кожнай трэцяй — адсутнічае крама. Толькі 22 працэнты вясковых дарог асфальтаваны. Разлікі паказваюць, што для ажыццяўлення сацыяльных пераўтварэнняў, якія б цалкам задаволілі вяскоўца, пры сённяшніх тэмпах будаўніцтва спатрэбіцца не менш як тры дзесяцігоддзі. Тэрмін, як бачым, немалы, а чалавек чакаць не будзе. Тым больш, что колькасць вясковага насельніцтва за

тыя трыццаць гадоў можа значна скараціцца і мы атрымаем ужо на Беларусі другое Нечарназем'е.

Прадухіліць такую вось, далікатна кажучы, незайздросную «перспектыву» можна некалькімі шляхамі. Але, як мне ўяўляецца, найбольш перспектыўныя і рэальныя з іх два. Па-першае, трэба як мага хутчэй ліквідаваць існуючыя дыспрапорцыі паміж вытворчай і сацыяльнай сферай на вёсцы. Ва ўмовах адчувальнага дэфіцыту рабочай сілы, зыходным пунктам у паспяховым вырашэнні сацыяльных праблем на вёсцы з'яўляецца найперш за ўсё паслядоўнае і дынамічнае развіццё і інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці на аснове гаспадарчага разліку, арэнды і кааперацыі ў цеснай садружнасці з дасягненнямі навукі і перадавой практыкі.

Значную частку грашовых сродкаў для сацыяльна-эканамічнага адраджэння вёскі можна таксама атрымаць, стварыўшы належныя ўмовы для далейшага пашырэння сеткі і сферы дзейнасці падсобных промыслаў. Паспяховае ажыццяўленне гэтых мер дазволіць у бліжэйшыя гады выдаткаваць 2—2,5 мільярда рублёў на сацыяльныя патрэбы вяскоўцаў. Але нават такая буйная па сённяшнім часе сума складае толькі палову тых 4,5—5 мільярдаў рублёў, якія неабходна знайсці для вёскі неадкладна, бо заўтра гэтыя грошы ёй могуць наогул не спатрэбіцца.

Як вядома, мільярды рублёў на дарозе не валяюцца. Дык дзе ўсё ж знайсці грошы?

Сёння з усіх высокіх трыбун, у тым ліку і з трыбуны з'езда народных дэпутатаў нашай краіны, даволі часта гучыць афарызм: «Адраджэнне вёскі — усенародная задача!». Дык вось, калі адраджэнне вёскі з'яўляецца сапраўды задачай усенароднай, то астатнія 2,5 мільярда рублёў для патрэб вясковага сацкультбыту, відаць, давядзецца адарваць ад тых сродкаў, якія выдаткоўваюцца на сацыяльнае развіццё гарадоў і прамысловых цэнтраў. Гэтыя меры дазволяць значна зменшыць міграцыйныя працэсы «сяло — горад» і, безумоўна, паспрыяюць хутчэйшаму амаладжэнню нашых сёл.

Другі шлях, на мой погляд, заключаецца ў тым, што неабходна спыніць нераўнамернае сацыяльна-эканамічнае развіццё асобных раёнаў і гаспадарак. Толькі, калі ласка, не падумайце, што я тут агітую за ўраўнілаўку, якая шырока практыкавалася яшчэ зусім нядаўна, напрыклад, у тыя ж «застольна-застойныя часы». Наадварот, я — за найбольш поўнае ажыццяўленне на практыцы прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці, за сацыяльную аднароднасць нашага грамадства. Тым больш, што менавіта практыкай пацверджана, што паслядоўнае ўкладанне сродкаў у развіццё сацыяльнай сферы гаспадарак з нізкім узроўнем забеспячэння дае прырост валавой прадукцыі ў 4—4,5 раза большы ў параўнанні з адпаведнымі ўкладаннямі сродкаў у гаспадаркі, якія маюць звышнарматыўнае забеспячэнне.

**ТАКІМ ЧЫНАМ,** мы падышлі да асноўнага, бадай, самага набалелага і надзённага пытання. Хто ж павінен ускласці на свае плечы галоўную адказнасць за сацыяльна-эканамічнае адраджэнне нашых сёл?

Як вядома, у пастанове Савета Міністраў СССР «Аб праграме сацыяльнага развіцця сяла» гэта надзвычай важная і адказная задача даручана цэламу шэрагу адпаведных міністэрстваў і ведамстваў. На першы погляд, усё заканамерна: хто больш паклапоціцца — аб дабрабыце вёскі, якой, як кажуць, ад зямных спраў і клопатаў няма калі атрэсці рукі? А трэба ж яшчэ будаваць, меліяраваць, рабіць электрыфікацыю і газіфікацыю, пракладваць асфальтаваныя дарогі!.. Не ведаю, як у каго, а ў мяне асабіста на гэты конт міжволі ўзнікаюць прыкрыя сумненні. Справа ў тым, што і па сённяшні дзень вёска для кожнага з тых шматлікіх міністэрстваў і ведамстваў — як чужое дзіця для фанафэрыстай нянькі. Прычым нянек шмат. Кожная з іх на даволі неблагім прафесійным узроўні робіць сваю справу. Адна нянька — спавівае дзіця, другая — люляе, трэцяя суцешвае, чацвёртая... Словам, у адсутнасці клопату іх не папракнеш. Толькі дзіця (вёска) усё роўна нешчаслівае, бо яму нестае галоўнага — цеплыні і ласкі роднай маці. Вось чаму мяне ўвесь час хвалююць адны і тыя ж пытанні: ці будзе якая-небудзь карысць ад той пастановы? Ці не загáцяць напалову ўхаластую і ў наступнай пяцігодцы міністэрствы і ведамствы мільярды народных грошай у меліярацыю і ў славуты «даўгабуд», у бетанаваныя палацы для жывёлы і ў скляпаныя на хуткую руку катэджы, якія ўзімку з усіх бакоў прадзімаюцца сцюдзёнымі завейнымі вятрамі?

Магу гэта засведчыць не з чужых слоў, а з уласнага вопыту, бо сам, працуючы ў калгасе, два гады жыў у такім вось «катэджы-маразільніку». Увосень і вясной у памяшканні вільготна і сыра, узімку — іней на сценах, холад — хоць ваўкоў ганяй. А тут яшчэ малое... Калі б не электракаларыфер — можна было б зусім «даць дуба»! Як прыгадаю тое «жыццё-быццё», міжволі дрыжыкі бягуць па скуры. Словам, не толькі будаўнікі, але і большасць іншых міністэрстваў і ведамстваў не зацікаўлены яшчэ ў сапраўднай па-брацку бескарыслівай дапамозе вёсцы, а Мінбыткамунгас наогул туды яшчэ не прыйшоў.

Дык дзе ж выйсце? Хто стане вёсцы роднай маці, замяніўшы тых шматлікіх «нянек»? Не ведаю, як каму, а мне ўяўляецца, што такую ролю паспяхова могуць выканаць толькі Саветы народных дэпутатаў. Менавіта сельсавет, а не чужароднае ведамства, добра ведае ўсе праблемы кожнай, нават самай далёкай, вёсачкі, кожнага вясковага двара. Толькі мясцовыя ўлады, разумеючы інтарэсы і запатрабаванні людзей, могуць беспамылкова вызначыць, дзе будаваць дарогу або жывёлагадоўчы комплекс, якое балота асушыць, а дзе, наадварот,— выкапаць вадаём для гадоўлі рыбы. Менавіта мясцовы Савет можа ашчадна, параіўшыся з людзьмі і з выгадай для людзей, размяркоўваць народныя грошы. Ды і самі вяскоўцы будуць берагчы кожны рубель, кожную цаглiну, найперш клапоцячыся не аб колькасці, а аб якасці.

Безумоўна, у новых умовах Саветам неабходна будзе карэнным чынам перагледзець свае функцыі. Відаць, давядзецца таксама, калі можна так сказаць, зрабіць кадравае ўмацаванне органаў народнай улады на месцах, стварыць адпаведныя службы, якія б маглі вырашаць пытанні сацыяльнай інфраструктуры на тэрыторыі вясковага савета. Дарэчы, пры сённяшнім стане вытворча-эканамічных адносін на вёсцы менавіта тэрыторыя гарантуе сацыяльны мінімум для людзей, якія на ёй жывуць. Калі сказаць дакладней, у якасці такога гаранта служыць своеасаблівы тандэм: мясцовы савет — гаспадарка. І гэта заканамерна, бо ні далёкія ад запатрабаванняў вёскі міністэрствы і ведамствы, і нават ні райвыканкам не паклапоцяцца аб вяскоўцах так, як гэта зробяць яны самі.

**НЕ РАЁННЫ, А МЯСЦОВЫ** Савет павінен фарміраваць і ажыццяўляць на практыцы сацыяльную палітыку ў людным сяле і маленькім пасёлку, мець поўную фінансавую самастойнасць. Разам з тым, на мой погляд, заканадаўча перадаўшы шматлікія функцыі па сацыяльнаму адраджэнню вёскі ў рукі мясцовых Саветаў, трэба абавязкова захаваць інтарэсы ведамства да гэтага пытання. Я маю на ўвазе інтарэсы калгасаў і саўгасаў. Інакш можа здарыцца, што арэндныя калектывы, кааператывы, асобныя арандатары, тыя ж калгасы і саўгасы, атрымаўшы ў арэнду зямлю ад свайго Савета і набыўшы поўную гаспадарчую самастойнасць, пагоняцца толькі за высокімі ўраджаямі, тонамі, літрамі, прыбыткамі і незнарок «забудуць» пра гразкую дарогу, махнуць рукой на адсутнасць клуба ў глыбіннай вёсцы, не пажадаюць выдаткоўваць грошы на рамонт школы.

Акт перадачы ўлады Саветам не проста даніна модзе, а сур'ёзны палітычны крок, ад якога будзе залежаць, у якім стане ўсе мы апынёмся літаральна праз некалькі гадоў.

Таму, каб адрадзіць вёску, вярнуць селяніна да зямлі, у тым ліку і тых гараджан, якія яшчэ не страцілі да канца сувязі з бацькаўшчынай, патрэбна выпрацаваць шырокую сацыяльную праграму ў комплексе з законамі аб зямлі і землекарыстанні, аб арэндзе і ўласнасці. Над вырашэннем гэтых пытанняў сёння працуе вышэйшы орган народнай улады краіны. І зноў, як у тыя рэвалюцыйныя, азораныя геніем Правадыра гады, па ўсёй краіне гучыць надзённы лозунг: «Уся ўлада — Саветам!». Рэвалюцыя працягваецца.

**Гэты артыкул быў здадзены ў набор яшчэ да таго, як былі прыняты шэраг законаў, у прыватнасці, законы аб зямлі, аб арэндзе, аб уласнасці, але пытанні, узнятыя аўтарам артыкула, не згубілі сваёй надзённасці.**

НЕЗАБЫЎНАЕ

# БРЫГАДА «ДЗІМА»

У сакавіку 1942 года група партызан пад камандаваннем старшага лейтэнанта Васіля Васільевіча Шчэрбіна, камісара Давіда Ільіча Кэймаха, радыста Валодзі Дружыніна была дэсантавана ў Віцебскай вобласці ў раёне Чашнікаў. У маі 1942 года з Віцебскай вобласці рэйдам прыйшлі ў Мінскую вобласць, Лагойскі раён (Янушкавіцкі сельсавет).

Група хутка расла: за час паходу — да 40 чалавек. Атрад! Партызаны былі добра ўзброены: Масква забяспечвала іх усім неабходным. Атрад назвалі «Дзіма». Каб не парушалася канспірацыя базы, камандаванне вырашыла арганізаваць аператыўны штаб у Янушкавічах.

У Янушкавічах за дамбай на беразе возера стаяў дом, да якога і падышлі партызаны. Дзверы адчыніў мужчына. Павіталіся.

— Заходзьце,— запрасіў гаспадар.

— Ці не змаглі б вы нам дапамагчы?— звярнуўся да гаспадара камандзір дыверсійнай групы Трашкоў.— Падвязіце нас да Берзды. Мы нясём цяжкі груз. Ён непадалёку ад вашай хаты.

— Пайду запрагаць,— сказаў гаспадар і выйшаў на двор.

Гаспадыня тым часам паставіла на стол малако, хлеб.

— Ешце, ешце. Вы ж не ад матачкі родная.

Трашкоў стаў есці. А гаспадыня непрыкметным рухам рукі падсоўвала лустачкі хлеба бліжэй да яго.

— Гатова,— паклікаў гаспадар, Пётр Емяльянавіч Вярбіцкі.

Так завязалася знаёмства з добрымі людзьмі. І партызаны паехалі.

Увосень 1942 года атрад вырас у брыгаду «Дзіма». У верасні 1942 года камбрыг Шчэрбін загінуў. Брыгаду ўзначаліў камісар Кэймах.

...Супраць прапановы Трашкова размясціцца ў хаце сям'і Вярбіцкіх пярэчанняў у камандавання не было. З лістапада 1942 года ўсе аператыўныя пытанні вырашаліся ў доме Вярбіцкіх.

Пры падрыхтоўцы аперацыі па знішчэнні В. Кубэ на базе брыгады ў лесе была заказана міна з гадзіннікавым механізмам.

— На досвітку ў верасні сорак трэцяга,— успамінае П. Трашкоў, які жыве цяпер у Гродне,— я ўручыў М. Б. Осіпавай міну, навучыў, як ставіць на баявы ўзвод, як лепш замініраваць ложак ката В. Кубэ. Мы з памочнікам камандзіра брыгады М. П. Фёдарава Сяргеем Хрэнавым знайшлі надзейны спосаб даставкі міны ў Мінск.

У доме Вярбіцкіх праходзілі нарады каманднага саставу. Тыя, хто ўступаў у атрад, тут прымалі прысягу, адсюль накіроўваліся сувязныя і разведчыкі на заданні.

Сын Вярбіцкіх Ванюша ўступіў у партызанскі атрад і ваяваў да злучэння з арміяй.

Пасля Перамогі праз кожныя пяць гадоў партызаны брыгады «Дзіма» з'язджаюцца на ўрачыстыя сустрэчы ў Рудню.

Цяпер на месцы дома Вярбіцкіх стаіць фінскі дом, у якім школьны музей «Баявой і працоўнай славы». Побач устаноўлен мемарыяльны знак з надпісам: «Тут, у доме Вярбіцкай Ф. А., у 1943 г. была перададзена міна Герою Савецкага Саюза Осіпавай М. Б. для выканання прыгавору над катам беларускага народа Кубэ».

**Дзіна ПЕТРАЧЭНКА.**



ЗЕМЛЯКІ

# Звычайныя ветэраны

Чатыры гады ваяваў на Вялікай Айчыннай баец Мікалай Герасіменка, і стольکі ж прайшла па франтавых дарогах баец Галіна Сільчанка. Ён быў артылерыстам, яна — армейскім поварам, варыла кашу і разносіла яе па акопах. У вольны час мыла салдацкія порткі. У абаіх была непрэстыжная і цяжкая работа, а шанцаў выжыць амаль не было. Але яны ваявалі, дакладней сказаць, працавалі сумленна і ўпарта рухаліся на Берлін: Мікалай — з паўночнага боку, Галіна — з паўднёвага. Яны ішлі і не думалі, дзе сустрэнуць сваю смерць, часцей марылі, як сустрэнуць нашу Перамогу. А перамогу яны прадчувалі і маглі, вядома, выпадкова сустрэцца на якой-небудзь берлінскай маставой, але... Цяжка паранена была Галіна Сільчанка. Прапаў без весткі паранены баец Мікалай Герасіменка: дома на яго атрымалі казённую паперу.

Магчыма, не раз перакрыжоўваліся іх дарогі, але лёс наканаваў сустрэцца гэтым людзям на радзіме, у Карме, і пражыць тут усё астатняе жыццё. Я не бяруся вызначаць, якое яно было: шчаслівае ці гаротнае, лёгкае ці цяжкае. Гэтага яны і самі не ведаюць. «На вяку наварыш у гляку»,— пры выпадку скажа Мікалай Герасіменка і сумна ўсміхнецца Галіна.

Канечне, я мог сфатаграфаваць іншых ветэранаў, з больш прыгожым лёсам і мноствам узнагарод. (Свае баявыя медалі Герасіменка аддаў калісьці дзецям на блёсны. Чужым. Сваіх з Галінай яны не нажылі.) Напрыклад, генерала пры поўным парадзе, з кнігай уласных успамінаў, сярод дзяцей і ўнукаў. Альбо палкоўніка, які ўмее гучна гаварыць пра вайну, беспамылкова называючы арміі і франты, дарогі, па якіх наступаў, гарады і вёскі, якія вызваляў. Пры жаданні знойдзеш такіх людзей і ў маленькай, забруджанай радыенуклідамі Карме. Але маімі героямі сталі гэтыя мала каму вядомыя, сціплыя людзі, якія не ўмеюць прыгожа гаварыць і плакаць на трыбуне ў Дзень Перамогі. Зраненыя і змучаныя вайной, назаўсёды прапахлыя порахам і дымам, яе радавыя.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

# СА СВЯТАМ!

У культурнае жыццё, у духоўны побыт нашага народа ўваходзіць яшчэ адно прыгожае свята — Свята славянскага пісьменства і славянскіх культур. Уваходзіць — каб стаць добрай трывалай традыцыяй, якая будзе сведчыць пра нашу цікавасць да багаццяў сваёй культуры і культуры братніх славянскіх народаў, да гісторыі, мастацтва і літаратуры славянства. І не проста сведчыць, але і спрыяць асваенню гэтых багаццяў, спрыяць таму, каб духоўная творчасць працоўных актыўна развівалася далей. Яно задумана і будзе адзначацца як свята Роднага слова, свята Кнігі, свята Школы і наогул Асветы, а таму яно будзе і святам Дабра і Красы, святам Праўды і Справядлівасці, святам Розуму і Мудрасці. Гаварыць пра высокае прызначэнне чалавека на зямлі будзе яго найпершай і галоўнай мэтай.

У нашай краіне першая спроба адзначыць гэта свята была зроблена пяць гадоў назад па ініцыятыве рускіх пісьменнікаў, рускай культурнай грамадскасці. Цэнтрам святкавання быў тады — у 1986 годзе — горад Мурманск. Затым сталіцамі Свята былі Волагда, Ноўгарад, Кіеў. Сёлета гэты гонар выпаў Беларусі, нашаму стольнаму Мінску. Датай правядзення Свята выбраны дзень 24 мая. У гэтым сэнсе мы далучаемся да нашых славянскіх пабрацімаў балгараў, якія ўжо шмат дзесяцігоддзяў святкуюць Дзень славянскай пісьменнасці і культуры менавіта 24 мая. Зрэшты, гэта вельмі прыгожы і зручны час на зыходзе вясны, асабліва калі ўлічыць, што ў падрыхтоўцы і правядзенні Свята самы актыўны ўдзел будуць прымаць студэнцтва, настаўніцтва і школьная моладзь.

Свята славянскага пісьменства і славянскіх культур створыць для ўсіх нас дадатковую магчымасць ва ўрачысты міг жыцця акінуць вокам гістарычны шлях славянскіх народаў ад старажытнасці да нашых дзён, выразней убачыць іх неацэнныя, духоўныя набыткі і сказаць гордае слова пра месца і ролю славянскай культуры ў гісторыі сусветнай цывілізацыі. Я напісаў **гордае** не выпадкова, бо гэта будзе слова пра культуру сапраўды вялікую, сапраўды дэмакратычную, глыбока народную ў сваіх вытоках і высокагуманістычную, чалавечную па ўсёй сваёй змястоўнай сутнасці. Гэта свята культуры, якую даўно прызнала, шануе і цэніць удзячнае чалавецтва — гэтак жа, як мы, славяне, шчыра паважаем культурныя дасягненні іншых, неславянскіх народаў, з якімі на векі вечныя рады жыць у міры і дружбе. Таму, натуральна, мы верым і спадзяёмся, што да гэтага свята будуць душэўна далучацца і людзі ўсіх іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларусі і ва ўсёй нашай разнамоўнай краіне.

Хочацца ад душы пажадаць усім вам, дарагія чытачы, стаць шчырымі прыхільнікамі і ўдзельнікамі нашага свята. Хай яно дапаможа кожнаму з вас мацней адчуць родную зямлю пад нагамі, больш упэўнена пачуцца грамадзянінам Бацькаўшчыны, лепш убачыць шырокія і ясныя гарызонты братэрства. Хай яно акрыляе і натхняе вас на добрыя, высакародныя справы. Са Святам!

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**



# СВЕДКІ.

## ДА СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА



шчэ старажытныя грэкі і рымляне бачылі ў гісторыі і люстра часу, і настаўніцу жыцця. Яна была для іх і найкаштоўнейшай крыніцай пазнання сваёй мінуўшчыны і своеасаблівай школай маральна-гістарычнага выхавання і ўдасканалення чалавека. Адлюстраваная ў народным гістарычным эпасе, у сагах і былінах, паданнях і песнях, аповесцях і паэмах, летапісах і хроніках, гісторыя на працягу многіх стагоддзяў служыла важным сродкам фарміравання нацыянальна-этнічнай самасвядомасці народа, захавання яго гістарычнай памяці, выхавання патрыятызму. Як паказвае шматвяковы вопыт чалавецтва, страта гэтых якасцяў, поруч са стратаю мовы, пагібельная для кожнага народа, для яго гістарычнага існавання.

Летапісанне на землях усходніх славян амаль гэткае ж даўняе, як і пісьменства. Першыя гістарычныя запісы пачалі весціся на Русі дзесьці ў першай палове XI ст. Магчыма, у тым жа стагоддзі, пры славутым князі Усяславе, зарадзілася летапісанне і ў старажытным Полацку, першай палітычнай і культурнай сталіцы нашых продкаў. На жаль, час не збярог нам ні Полацкага, ні іншых летапісаў, што складаліся на беларускіх землях у XI — XIII стст. Таму бадай адзінай крыніцай палітычнай гісторыі Белай Русі таго часу служыць сённа «Аповесць мінулых гадоў», Кіеўскі, Ноўгарадскі, Галіцка-Валынскі і іншыя старажытнарускія летапісы. У гэтых творах захаваліся самыя ранія, сапраўды унікальныя звесткі пра Полацк, Віцебск, Менск, Тураў, Бярэсце, Гародню, Наваградак і іншыя беларускія гарады, пра першыя княствы на тэрыторыі сучаснай Беларусі, пра полацкага князя Рагвалода і яго дачку Рагнеду, пра легендарнага Усяслава Чарадзея і бітву на Нямізе, пра іншыя драматычныя і трагічныя старонкі полацкай гісторыі.

Скупыя гэтыя звесткі, але і яны выразна паказваюць, наколькі багатая, своеасаблівая і самабытная беларуская гісторыя эпохі ранняга Сярэднявечча. Ужо ў тыя далёкія часы, настойліва змагаючыся за сваю палітычную незалежнасць, за дзяржаўны суверэнітэт, нашыя продкі імкнуліся самі тварыць сваю гісторыю.

Гэта бліскуча пацвердзілі падзеі наступнага перыяду, XIII — XV стст. У цяжкай, гераічнай барацьбе з іншаземнымі захопнікамі (татара-манголамі, нямецкімі крыжакамі і інш.), з уласнымі міжусобіцамі нашчадкі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў зразумелі гістарычную неабходнасць палітычнай кансалідацыі, больш цеснага ваенна-палітычнага яднання, этнічнага і культурнага адзінства. У гэтай мужнай барацьбе гартаваліся нашы продкі, нараджаўся асобны славянскі народ — беларусы. У нялёгкім змаганні і напружанай сумеснай працы з суседзямі літоўцамі закладваўся падмурак і ўзводзіўся будынак агульнай, адной з самых буйных у тагачаснай Еўропе дзяржавы — Вялікага княства Літоўска-Беларускага.

Гэтая дзяржава вырашала вельмі важныя не толькі палітычныя, але і культурна-гістарычныя задачы. Больш трох стагоддзяў (з сярэдзіны XIV да другой паловы XVII стст.) наша мова шанавалася ў гэтым княстве як агульнадзяржаўная, што садзейнічала актыўнаму развіццю тагачаснага беларускага пісьменства, выпрацоўцы дасканалай літаратурнай мовы. Сапраўднага росквіту дасягнула тады дзелавое пісьменства, якое на працягу стагоддзяў захоўвала плённую традыцыю літаратурнай творчасці на роднай мове. Да нашага часу дайшлі тысячы помнікаў дзелавой літаратуры на старабеларускай мове, большасць якіх сабрана ў так званай Літоўскай метрыцы (каля 600 тамоў). Асабліва трэба вылучыць агульнадзяржаўныя статуты 1529, 1566 і 1588 гг.— еўрапейскага ўзроўню помнікі літоўска-беларускага права эпохі Адраджэння. Меў рацыю Я. Карскі, калі сцвярджаў, што паводле багацця старога літаратурна-лінгвістычнага матэрыялу беларуская мова «займае першае месца пасля велікарускай».

Не дзіва, што эпоха існавання Вялікага княства Літоўска-Беларускага была перыядам найбольшага росквіту і беларускага летапісання. Не выпадкова таксама, што першыя агульнадзяржаўныя, паводле характару, летапісныя творы ўзніклі ў часы вялікага князя Вітаўта (1392—1430). Менавіта пры ім гэтая дзяржава дасягнула найбольшай магутнасці. Гэты дзейны князь, які ўвасабляў гістарычна неабходнае і з цяжкасцю дасягнутае палітычнае адзінства краіны, яе дзяржаўны суверэнітэт, і стаў галоўным героем першых беларуска-літоўскіх летапісаў.

# Нашай велічы

Найбольш значны і арыгінальны з гэтых твораў — «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» (каля 1430 г.), прысвечаны палітычнай гісторыі Літвы і Беларусі ад часоў Гедыміна да Вітаўта. Асабліва жыва і дэталёва выкладзена ў ім гісторыя жыцця і смерці бацькі Вітаўта князя Кейстута, які ў 1382 г. воляю князя Ягайлы быў задушаны ў Крэўскім замку. Хоць гэты твор храналагічна ахоплівае перыяд амаль за цэлае стагоддзе, у ім аднак няма ні адной даты, таму толькі ўмоўна яго можна назваць летапісам. Складзены з агульнадзяржаўных пазіцый, «Летапісец» фактычна пачаў новы этап у развіцці летапіснага жанру на Беларусі: у ім рашуча была пераадолена традыцыйная, пагадовая форма выкладу гісторыі, спалучаны асаблівасці дзелавога дакумента і помніка гістарычнай белетрыстыкі.

«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» разам з «Пахвалой Вітаўту» і скарочаным рускім летапісам склаў першы агульнадзяржаўны летапісны звод — Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., у якім мінулае Літвы і Беларусі выкладзена ва ўзаемасувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі і ў пераемнасці з гісторыяй Кіеўскай Русі. У гэтым летапісным помніку праводзіцца ідэя гістарычнай еднасці ўсходніх славян, абгрунтоўваецца гістарычная заканамернасць іх палітычнага аб'яднання ў Вялікім княстве Літоўска-Беларускім, асэнсоўваецца і раскрываецца важная гістарычная роля гэтай дзяржавы ва Усходняй Еўропе. Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. узнік у Смаленску ў асяроддзі мясцовага праваслаўнага духавенства, якое падтрымлівала аб'яднаўчую палітыку літоўска-беларускіх князёў на Русі.

Новы этап у гісторыі беларускага летапісання, як і беларускай літаратуры, пачаўся ў XVI ст. Тады, у эпоху Адраджэння, адбываўся актыўны працэс росту нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці народаў, узрасла цікавасць да свайго мінулага. Многія шукалі сабе славутых продкаў, гістарычных аргументаў для доказу свайго высокага паходжання, выдатнай ролі свайго роду, горада, народа ў гісторыі. Збіраліся і распаўсюджваліся розныя гістарычныя легенды і паданні, ствараліся велічныя, гераізаваныя гісторыі цэлых краін і народаў.

Тады ж, у часы Скарыны, была літаратурна апрацавана і ўнесена ў летапісы вядомая яшчэ з XV ст. легенда пра паходжанне літоўскіх князёў і шляхты ад рымскай знаці, атрымаўшы назву «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага». Выдуманая, поўная розных недакладнасцяў і супярэчнасцяў гэтая «Хроніка...» лашчыла слых не толькі патрыятычна настроенай літоўскай арыстакратыі, у асяроддзі якой і ўзнікла, але і часткі беларускай гербавай шляхты, якая зрасталася ў агульнадзяржаўны прывілеяваны клас, што ўсё больш і больш узвышаў сябе над людам паспалітым і дэнацыяналізаваўся.

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» завяршаецца паэтычным паданнем пра заснаванне князем Гедымінам Вільні. З цягам часу яна дапаўнялася рознымі гістарычнымі аповесцямі і апавяданнямі (напрыклад, пра паход літоўска-беларускага князя Альгерда на Маскву, пра караля Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл і інш.). Асабліва значна гэтая «Хроніка...» была дапоўнена і пашырана ў 30-я гг. XVI ст., найбольш матэрыяламі па гісторыі Літоўска-Беларускай дзяржавы другой паловы XIV — пачатку XVI стст., а таксама «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх» і іншымі арыгінальнымі творамі, запазычанымі з Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. З Галіцка-Валынскага летапісу складальнік новай беларуска-літоўскай «Хронікі...» выпісаў аповесць пра князёў Міндоўга і Войшалка. Так узнік самы поўны летапісны звод, які ў XIX ст. назвалі «Хронікай Быхаўца», па імені беларускага шляхціца А. Быхаўца з-пад Ваўкавыска, у якога вядомы гісторык Тодар Нарбут знайшоў адзіны яго спіс.

Шырокую і велічную панараму шматвяковай гістарычнай мінуўшчыны Літвы і Беларусі ад легендарных часоў і да эпохі Скарыны разгарнулі перад чытачом складальнікі «Хронікі Быхаўца». Каб задаволіць узрослую цікавасць сваіх суайчыннікаў да роднай гісторыі, абудзіць іх патрыятычныя пачуцці, узняць нацыянальную самасвядомасць і годнасць, храністы выкарысталі не толькі вядомыя пісьмовыя крыніцы, але і вусныя ўспаміны бывалых людзей, хавальнікаў гістарычнай памяці народа, розныя сямейныя і родавыя паданні. Яны імкнуліся захапіць не толькі тэмаю і зместам гаворкі, але і жывым, займальным апавяданнем пра мінулае. Шмат яркіх старонак гэтай «Хронікі...» прысвечана ваенна-патрыятычнай тэме, апісанню паходаў і бітваў, ратных учынкаў суайчыннікаў, іх рыцарскай доблесці і гераізму (апавяданні пра паходы Альгерда на Маскву, Ягайлы на Польшчу, Вітаўта на Смаленск і Пскоў, пра Грунвальдскую бітву з нямецкімі крыжакамі ў 1410 г., з татарамі пад Клецкам у 1506 г. і інш.).

Складзеная ў асяроддзі літоўска-беларускай патрыятычна настроенай шляхты, з агульнадзяржаўных пазіцый «Хроніка Быхаўца» адлюстравала багацце, складанасць і веліч мінулага літоўскага і беларускага народаў эпохі Сярэднявечча, гераічна-незалежны, вольналюбівы дух нашых продкаў, якія сваёю актыўнаю гістарычнаю дзейнасцю занялі годнае месца ў палітычным жыцці тагачаснай Еўропы як паўнапраўныя суб'екты яе гісторыі.

Пазней, у XVII—XVIII стст., агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне занепала ў сувязі з паступовай стратаю Вялікім княствам Літоўска-Беларускім палітычнай незалежнасці ў выніку Люблінскай уніі 1569 г. Аднак на Беларусі працягвалі складвацца мясцовыя летапісы і хронікі (Баркулабаўскі летапіс, Магілёўская хроніка і інш.), якія захавалі асноўныя жанравыя асаблівасці ранейшых летапісаў, іх свецкі характар. Багацце і арыгінальнасць зместу гэтых помнікаў, непаўторнасць літаратурнай формы даюць падставы вылучаць іх у асобную галіну еўрапейскай гістарыяграфіі. Беларуска-літоўскія летапісы XV—XVI стст. аказалі прыкметны ўплыў на польскую хранаграфію эпохі Адраджэння (М. Бельскі, М. Стрыйкоўскі, А. Гваніні), іх добра ведалі ў Расіі і на Украіне.

Гонар навуковага адкрыцця гэтых помнікаў належыць беларусу з Падляшша Ігнату Даніловічу, які ў 1823 г. апублікаваў у «Дзённіку Віленьскім» «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», знойдзены ў адным з рукапісаў бібліятэкі Супрасльскага манастыра. Доўгі час іх вывучалі і публікавалі пераважна польскія, рускія і ўкраінскія даследчыкі. Адносна нядаўна да грунтоўнага даследавання гэтых выдатных помнікаў беларускага пісьменства нарэшце падключыліся і беларускія вучоныя. Дзякуючы тытанічным намаганням Міколы Улашчыка было ажыццёўлена двухтомнае навуковае выданне асноўных летапісаў і хронік у вядомай серыі «Поўны збор рускіх летапісаў» (т. 32, 1975; т. 35, 1980). На парадку дня — пераклад гэтых твораў на сучасную беларускую мову і іх навукова-папулярнае выданне з шырокім каментарыем. Замацаваную навечна ў пісьмёнах шматвяковую гісторыю Беларускай зямлі павінны добра ведаць нашы суайчыннікі і ганарыцца ёю, бо без глыбокай гістарычнай памяці, як і без нацыянальных традыцый, без культурнай спадчыны і роднай мовы, немагчыма паўнакроўнае нацыянальнае Адраджэнне.

Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.

# ЯКІ МЫ МОЦНЫ ЯШЧЭ НАРОД,

## АБО Ф. СКАРЫНА НА ШЛЯХАХ ДА НАС



У апошнія год-два мы ўсе раптам адчулі, што не развучыліся думаць, што не па дне скрабём: ёсць у душах нацыянальная годнасць, жыве духоўнасць. Але адчулі і іншае: адным галава баліць за справу народа, а другім — хоць бы што: абы іх уласнасці, іх прывілеяў час не зачапіў. І радуе, што свежая настраёвасць прыйшла ў нашу перыёдыку, якую народ лічыў безнадзейна хворай лозунгавай «анеміяй»: «ЛіМ» бярэ вышыню лепшых газет нашай прэсы. «Полымя» засвяцілася, стала зыркім, «Маладосць» памаладзела, «Вожык» «пабравеў», «Беларусь» ачуняла. Як аказалася, усе мы ўмеем думаць ды і пісаць таксама.

А кнігі? Хто думаў, што народ дачакаецца цудоўнай кнігі Міколы Ермаловіча, які ўмее неардынарна мысліць і таму знайшоў свой шлях вырашэння важнейшай гістарычнай праблемы нашай мінуўшчыны — утварэння Вялікага княства Літоўскага, або, як адзін час называлі, Літоўска-Беларускага. Ён даў грунтоўныя падставы па-новаму перапісаць метрыку нашага народа. Нумары часопіса «Маладосць» з гістарычным нарысам Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь» у імгненне вока знікалі з вітрын кіёскаў. А кажуць, што ў нас беларускіх часопісаў не чытаюць!

І вось новая кніга «Тут мой народ». Хіба можна было думаць пра яе выхад некалькі гадоў назад? Нізашто. Першы найлепшы рэдактар тут жа адмёў бы яе з парога. І ўсё ж людзі верылі і спадзяваліся, што такі дзень надыдзе. Да гэтай шчаслівай часіны рыхтаваліся задоўга. Напрыклад, той жа Мікола Іванавіч Ермаловіч аддаў высакароднай справе работы над кнігай больш за чвэрць стагоддзя. Я не ведаю, колькі гадоў аддаў сваёй кнізе Аляксей Канстанцінавіч Каўка, ствараючы маштабную панараму духоўнага станаўлення і развіцця нашай нацыянальнай самасвядомасці, ля вытокаў якой стаяў Францыск Скарына. Шматгадовая мазольная праца закончана, і араты ў белым каўнерыку прынёс на наш стол кнігу-роздум, кнігу-эпапею пра радасці і драму беларусаў — «Тут мой народ». Яе аўтар Аляксей Каўка нібы да нас з неба зваліўся, ды якраз у той час, калі, кажучы словамі Каруся Каганца, «беларусы сталі прачыхацца», пайшлі ў наступ за сваё самазахаванне. Вось і кніга вельмі дарэчы: як мы дагэтуль дажылі і не змерлі. Алгебра нашага жыцця! Толькі самадур можа быць абыякавым да трагедыі свайго народа, а разумны разважа: «Дык жа выжылі...». Гэта самая паўнайменная кніга пра тых, хто нёс свой крыж на скрыжалях часоў, хто да апошняй крывінкі аддаў сябе справе служэння народу.

Як і М. Ермаловіч, А. Каўка знайшоў таксама неардынарны падыход да праблемы, толькі гэта ўжо датычыла Ф. Скарыны, яго ідэй у прасторы і часе. Зразумела, спачатку даследчык паказаў асобу першадрукара і асветніка, а пасля — у справах спадкаемцаў і ў іх памяці. І тут аўтара кнігі чакалі радасці адкрыцця і смутак расчараванняў. Скарына то знікаў на стагоддзі, то зноў аказваўся, як кажуць, «на стрыжні часу».

Кніга захапляючая, поўная дынамікі. Часам такое ўражанне агортвае, што нібы і тых «ямін» гісторыі не было, а ўсё ішло сваім цугам. Трэба аддаць тут належнае кампетэнтнасці аўтара, які змог пракласці «гасцінец» ад самога Францыска Скарыны аж у наш час. Праз пяць стагоддзяў! Упэўнены, што доўга будуць ездзіць гэтым Каўкавым «гасцінцам». Хадзем і мы ўслед за аўтарам тым «гасцінцам», на якім на кожнай вярсце падпільноўвала драма або і трагедыя тагачаснага падарожніка з духоўнай кайстрай.

А пачалося з самога асветніка. Ён першы вынес усе трывогі свайго веку, што засведчана і ў вялікім энцыклапедычным даведніку «Скарына і яго час»: гэта і друкаванне Бібліі, яе афармленне, пераклад, прадмовы. А жыццё гуманіста хіба не прыклад для пераймання? Друкар, мастак, пісьменнік, асветнік, лекар... Ён праз святое пісанне, праз кнігу кніг імкнуўся дайсці да людскіх душ, роднай моваю, сістэмай сваіх вобразаў, уласнай трактоўкай свае эпохі: «На горах земли тое и на полехъ выходять криници изъ земли» або «Да не почну тулятися за стады товаришев твоихъ». Хіба гэта не тагачасная, або, як мы зараз называем, старабеларуская мова? А ўжо зусім натуральна гучыць прыпавесць, або, як зараз укаранілася ў нашы галовы,— прытча, што зусім не ўласціва нашай мове. І як пасля гэтага язык у некага паварочваецца, каб даказваць, што Ф. Скарына не карыстаўся тагачаснай беларускай моваю! Хіба можна такому вялікаму асветніку адмовіць у праве называцца сынам сваёй зямлі!

Правільна піша Аляксей Каўка, што ад Ф. Скарыны «фактычна пачынаецца і замацаванне ў беларускім пісьменстве самога паняцця «радзіма» («айчына») як філасофска-этычнай катэгорыі». І на самай справе вялікі гуманіст дбаў пра тое, каб людзі жылі адной думай пра дабрабыт краю, пра яго духоўнае багацце, каб «люди посполитые, чтучи, могли лепш разумети».

Аўтар пераканаўча паказаў, якой трэба ўладаць сілай уздзеяння на дух народа, каб сваю Біблію зрабіць сучаснай і адэкватнай патрабаванням часу, што асабліва добра бачыцца ў параўнанні, напрыклад, з тагачаснай Астрожскай Бібліяй 1581 года. Францыск Скарына пра ўсё падумаў: пра чалавека, пра яго слова, пра дух народа. Перад ім быў вобраз сучасніка ва ўсіх яго праявах, захавальніка традыцый і творцы. Па-пісьменніцку мудра Ф. Скарына карыстаўся фальклорным скарбам, рацыянальна ўключаючы яго ў свае тэксты. Ён першы ў «Малой падарожнай кніжыцы» даў беларускія месяцы календара (верасень, лістапад, грудзень, просінец, стычань, люты, марец, квецень, май, чэрвець, ліпец, серпень). Афарыстычныя выказванні першадрукара: «Людем простым ест наука», «Людем мудрым — подивление» і зараз упрыгожваюць і радуюць і не трацяць сваёй сілы ўздзеяння.

Аляксей Каўка слушна заўважыў, што ў Ф. Скарыны не было прамых паслядоўнікаў, але ж менавіта гэты палачанін зрушыў з месца кніжную справу, а далей, ужо нават забываючыся, хто стаяў першы ля таго станка, новыя пакаленні друкароў множылі кнігі. А гэта хіба не працяг таго памятнага 1517 года? І няхай на тытульных лістах наступнікі не ставілі: «Памяці першадрукара Скарыны», але справа пачата і яна доўжыцца й сёння. Меў рацыю Максім Багдановіч, калі пісаў: «Усё гэта разам узятае вылучала Беларусь на адно з першых месц сярод культурнага славянства...»

Мы зараз можам толькі меркаваць: калі б ды каб, то што з гэтага выйшла б. Але гісторыі не перайначыш. Сапраўды, калі б традыцыі Скарыны, традыцыі Рэнесансу не былі гвалтоўна перапынены, а знайшлі сваё выяўленне на вышыні новай грамадскай спіралі, то напэўна і мы зараз былі б інакшымі, і напэўна б пра нас свет гаварыў з большай павагай. Зрэшты, і Язэп Воўк-Левановіч яшчэ ў 1926 годзе заўважыў: «Толькі палітычныя падзеі былі прычынаю таго трагічнага здарэння, што беларуская літаратурная мова, замест таго, каб рэфармавацца на здаровых асновах мінімум 200 гадоў таму назад, стала на шлях толькі ў нашы дні». Гэта павінен ведаць і разумець кожны беларус, каб правільна ацаніць нацыянальную сітуацыю ў Беларусі, якая склалася ўжо цяпер, на схіле дваццатага стагоддзя. Вінаватыя і моцна вінаватыя мы перад памяццю Францыска Скарыны, што не ўберaглі самай галоўнай спадчыны — мовы.

А працяг справы Ф. Скарыны жыў у духу стваральнасці Льва Сапегі, Андрэя Рымшы, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Мялеція Смятрыцкага, братоў Мамонічаў і шмат каго іншага. Найбольш рэльефна нацыянальны стымул стаў праяўляцца ў дзейнасці Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, братоў Тышкевічаў, Уладзіслава Сыракомлі, Кастуся Каліноўскага, Еўдакіма Раманава, Францішка Багушэвіча, Альгерда Абуховіча, Адама Гурыновіча, Янкі Лучыны, Каруся Каганца, Цёткі, Ядвігіна Ш., а потым Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Браніслава Тарашкевіча, Браніслава Эпімах-Шыпілы, Алеся Гаруна, братоў Луцкевічаў, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Дубоўкі і многіх іншых. А хіба не працяг Скарыны — жыццё і справы гоманаўцаў, нашаніўцаў?!

У кнізе «Тут мой народ» прасочваецца лінія беларускай нацыянальнай свядомасці, якая раней проста замоўчвалася або наўмысна скажалася. У гэтым ланцугу духоўнасці ад пакалення да пакалення стаяць і даўно знаёмыя дзеячы навукі, літаратуры і культуры, а таксама і тыя, хто замоўчваўся і знарок выключаўся з творчага працэсу беларускай інтэлігенцыі (браты Луцкевічы, А. Уласаў, В. Ластоўскі, А. Гарун, А. Станкевіч, Я. Лёсік, У. Ігнатоўскі, А. Смоліч, С. Некрашэвіч і іншыя), што страшэнна збядняла нашу духоўную спадчыну, бо ўсё падганялася пад пэўныя ўстаноўкі «вярхоўных ідэолагаў». І як тут не пагадзіцца з Львом Гумілёвым, які ў сваёй кнізе «Этнагенез і біясфера Зямлі» (1989 г., с. 161) піша: «Тэорыя гістарычнага матэрыялізму была створана спецыяльна дзеля таго, каб адлюстраваць прагрэсіўнае развіццё грамадства па спіралі, а зусім не дзеля таго, каб вытлумачыць змены дынастый, ваенныя поспехі, распаўсюджванне эпідэмічных захворванняў або нюансы рэлігійных канцэпцый».

Кніга Аляксея Канстанцінавіча Каўкі настолькі універсальная па сваёй задуме і выкананню, што часам задумваешся: а ці не ўзяць нам яе ў якасці курса беларусазнаўства, бо калі яшчэ з'явяцца кнігі такога ўзлёту думкі і пачуцця.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**


ерагартаўшы старонкі гісторыі сярэдневяковай Беларусі, лёгка перакanaцца, што слова «крэпасць» там сустракаецца, бадай, часцей за ўсе астатнія. І гэта не выпадкова. У тыя часы людзі мелі патрэбу ў абаронных збудаваннях, дзе маглі б адчуваць сябе ў бяспецы, абараняцца ад шматлікіх ворагаў. Карта Беларусі XVI стагоддзя спрэс усеяна зорачкамі, якія азначаюць умацаваныя замкі. Нашы продкі былі хлебаробамі і воінамі. Яны не давалі ў крыўду сваёй зямлі, будавалі нават цэрквы-крэпасці, якія нярэдка вытрымлівалі шматдзённыя аблогі.

І ўсё ж нават тады слова «крэпасць» пачало ўжывацца ў іншым, пераносным сэнсе. Не выпадкова скарыстаў яго ў значэнні «апора», «надзея» ў далёкім 1382 г. аўтар «Хронікі Польшчы» Я. Чарнкоўскі, назваўшы горад Полацк замкам або крэпасцю Белай Русі, упершыню, дарэчы, скарыстаўшы гэту назву зямлі крывічоў. Ён меў для гэтага ўсе падставы — Полацк на той час займеў адметнае становішча на Беларусі. Адзін з самых першых славянскіх гарадоў, ён ужо ў X стагоддзі становіцца сталіцай буйнога Полацкага княства, важным рамесным, гандлёвым, культурным і палітычным цэнтрам на зямлі ўсходніх славян. Нашы продкі асвойвалі ramёствы, гандлявалі з суседнімі краінамі, ваявалі з крыжакамі, адстойваючы сваю незалежнасць і правa на палітычную самастойнасць. Увайшоўшы ў 1307 г. у склад Вялікага княства Літоўскага, Полацкая зямля захавала аўтаномію, замацаваную вялікакняжацкімі граматамі — полацкімі прывілеямі, якія неаднаразова пацвярджаліся ў XIV, XV, XVI і XVII стагоддзях. З Полацкага княства пачалася гісторыя Белай Русі, існаванне беларусаў як самастойнай нацыі.



# КРЭПАСЦЬ БЕЛАЙ РУСІ

● Першы на Беларусі помнік мураванай архітэктуры — Полацкі Сафійскі сабор, пабудаваны ў XI—XII стст.

Дайшоўшыя да нас імёны першых полацкіх князёў — Рагвалода, Ізяслава, Усяслава — абраслі паданнямі, сталі асноватворнай часткай нацыянальнай літаратуры і мастацтва. Менавіта тут, у Полацку, у XII ст. жыла асветніца Ефрасіння Полацкая, працавалі дойлід Іаан і майстар-ювелір Лазар Богша, чыімі імёнамі мы ганарымся і сёння. Менавіта гэтаму гораду наканавана было стаць радзімай сусветна вядомага першадрукара і асветніка Францыска Скарыны.

Шматлікія турысты з усіх куткоў краіны і з-за мяжы сёння прыязджаюць у Полацк найперш таму, што гэта — горад-калыска Скарыны. Блукаючы па вузкіх вулках старога месца, яны імкнуцца ўбачыць яго такім, якім бачыў Скарына, ступіць нагой на камяні старога бруку, па якіх, магчыма, хадзіў некалі сын полацкага купца Лукі. Вось пабудаваны ў XI ст. пры князі Усяславе Брачыславічу Сафійскі сабор — жамчужына беларускай архітэктуры. Магчыма, тут не раз маліўся Францішак, прасіў Бога даць яму сілы спасцігнуць навуку, здабыць веды пра зямлю, на якой жыве. Слухаў званы Сафіі і поўніўся гордасцю за народ, які стварыў гэта хараство...



● Помнік архітэктуры агульнасаюзнага значэння — Спаса-Ефрасіннеўская царква.

А вось тварэнне дойліда Іаана — Спаса-Ефрасіннеўская царква, адзіны будынак, які захаваўся на месцы былога манастыра, дзе ў сваёй келлі жыла Ефрасіння Полацкая — днём вучыла дзяцей чытаць і пісаць, начамі перапісвала летапісы, маліла Бога, каб паслаў гэтаму гораду мір і дабрабыт на доўгія гады. Якое шчасце, што не зруйнавалі ў свой час гэты асколак памяці абыякавыя рукі герастратаў! Якое шчасце, што напластаванні тынку, алейных фарбаў у апошнія гады пачалі асыпацца і на сценах храма пакрысе адкрываецца старажытны роспіс, цуд з цудаў — фрэскі XII ст., узоры яркай і самабытнай школы манументальнага жывапісу, якая сфарміравалася на той час у Полацку. Напэўна ў гэтыя вывы святых, створаныя ў скупой, стрыманай колеравай гаме, не раз углядаўся Скарына, задумваўся над сэнсам жыцця і гэтак жа, як і мы, гадаў, хто ўвасоблены ў вобразе маладой манашкі на адным са слупоў. Ці не сама Ефрасіння Полацкая пазірае на нас з фрэскі старажытнага майстра?

А магчыма, Скарына ведаў, хто гэта маладая жанчына, чый воблік увекавечаны ў храме...

# Горад старажытны



Жыхары Полацка ведаюць айца Міхаіла не толькі як настаяцеля кафедральнага сабора, але і як вядомага ў рэспубліцы скарыніста. Яго двухтомная праца аб жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны рыхтуецца да друку.

Ніхто сёння дакладна не можа сказаць, пад якою зоркай 500 гадоў назад нарадзіўся ў горадзе над Палатою ў доме купца Лукі Скарыны хлопчык Францішак. Але пэўна ж была яна шчаслівай, бо жыццё гэты хлопчык пражыў незвычайнае, пакінуўшы нязгасны след у гісторыі свайго народа.

Сёння палачане разам з усёй планетай рыхтуюцца да юбілею славутага земляка. Стары горад, нібы ўвішная гаспадыня, імкнецца навесці чысціню, разгладжвае тысячагадовыя зморшчыны. Клопатаў хапае ўсім, асабліва рэстаўратарам, чыя прафесія найбольш распаўсюджаная ў горадзе-запаведніку. Апранулася ў рыштаванні былая брацкая школа, дзе ў верасні павінна адбыцца ўрачыстае адкрыццё Музея беларускага кнігадрукавання. «Толькі б паспець!» — гэта думка непакоіць не толькі тых, хто непасрэдна працуе на будоўлі, але і тых, хто забяспечвае яе неабходным матэрыялам — спецыяльнай цэглай, полацкай кафляй старажытнага ўзору, адмысловымі перакрыццямі. А гэта ва ўмовах сённяшняга дэфіцыту будаўнічых матэрыялаў зусім няпростая справа.

Але ж так хочацца зрабіць, каб усё выглядала, як у далёкім XVIII стагоддзі! І каб старажытная друкарня, над стварэннем якой сёння шчыруюць рэстаўратары, выглядала гэтак жа, як у часы Скарыны. Добра, што доктар Францыск аздабляў свае выданні гравюрамі, у якіх падрабязна паказваў працу тагачасных друкароў. Нібы ведаў, як пільна будуць углядацца ў іх нашчадкі.

Рупяцца і навукоўцы. Па ўсёй краіне збіраюць яны экспанаты для будучага музея, каб тэхніка і ўзоры беларускага кнігадрукавання былі прадстаўлены ў ім са старажытнасці да нашых дзён. Свой уклад у гэту справу ўносіць і навуковы супрацоўнік Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка Юлія Іонава.

А прырода, як кажуць, таксама ўносіць свае карэктывы. Наляцеў аднойчы рэдкі для гэтых мясцін шалёны вецер і сарваў адну са званіц Сафійскага сабора, маці беларускіх храмаў. Цяпер, сустракаючыся раніцаю, каб абмеркаваць апошнія навіны, полацкія бабулькі разважаюць найперш пра тое, ці паспеюць будаўнікі падняць званіцу, ці паклічуць іх, як некалі, на свята званы Сафіі.

Столькі спраў, што рук не хапае. «Гэй, асілкі Белай Русі! Адгукніцеся!» — так і хочацца крыкнуць прарабу рэканструкцыі брацкай школы Ігару Сідарэнку.

Можа пачуюць яго хлопцы з Народнага фронту і прыйдуць на дапамогу, як нашы продкі, талакою!



● Унікальныя фрэскі XII ст. захаваліся ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве.

Прайшоўшы па вуліцы Скарыны, пастаяўшы перад велічным помнікам першадрукару, міжволі задумваешся над тым, што палачане шануюць свой горад, ашчадна захоўваюць рэшткі старажытнай культуры, якія пакінуў нам час, вывучаюць багатыя традыцыі майстроў мінулага. У горадзе, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Скарыны, у памяшканні былой брацкай школы, неўзабаве адкрыецца першы на Беларусі музей кнігадрукавання, дзе будуць экспанавацца не толькі кнігі, выдадзеныя Скарынам, паказана тэхніка кнігадрукавання таго часу, але і прасочана культура друкарскай справы на Беларусі з часоў Скарыны да нашых дзён. І так хочацца верыць, што падзея гэта стане новай прыступкай па шляху адраджэння нашай духоўнасці, нацыянальнай мовы і культуры. Так хочацца спадзявацца, што Полацк, як у даўнія часы, адновіць сваё значэнне асяродка духоўнасці, ачага нацыянальнай культуры, стане, як некалі, «крэпасцю Белай Русі». Гэтаму, несумненна, будзе садзейнічаць прыняцце Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы і рашэнне адкрыць у Полацку свой драматычны тэатр, якому, хутчэй за ўсё, на думку грамадскасці, наканавана стаць тэатрам гістарычнай драмы. А палачане змогуць яшчэ больш ганарыцца сваім горадам, як ганарыўся ім Скарына, з пастаянствам і настойлівасцю адзначаючы ва ўсіх сваіх выданнях полацкае паходжанне: «Выложены доктором Франциском Скорининым сыном из славного города Полоцка».

**Людміла ЦІМАФЕЕВА.**
Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА і Уладзіміра ШУБЫ.



**ПОШНІЯ ГАДЫ НАШАГА** жыцця праходзяць пад добрым знакам самапазнання. Хто мы, адкуль прыйшлі, куды скіроўваемся далей? Жаданне дазнацца пра свае карані, разабрацца ў сваёй гісторыі — каб лепей зразумець сябе сённяшніх — характарызуе духоўны статус кожнага народа. Таму нядзіўна, што мінулае дзесяцігоддзе было асабліва плённым і для нашай нацыянальнай літаратуры ў асваенні розных пластоў нацыянальнай гісторыі. Зусім нядаўна галоўны рэдактар украінскага выдавецтва мастацкай літаратуры «Дніпро», добрая паэтка і перакладчыца, шчыры сябар беларускай літаратуры, Святлана Жолаб звярнулася да мяне з просьбай парэкамендаваць для іхняй выдавецкай серыі «Гісторыя роднага народа» творы нашых аўтараў, якія высвечвалі б праз беларускае мастацкае светабачанне падзеі амаль тысячагадовай даўнасці — так званы агульны, калыскавы перыяд усходніх славян, часы Кіеўскай Русі. Такое супрацоўніцтва і лагічнае, і заканамернае. Бо гістарычныя лёсы нашых народаў, блізкіх як тэрытарыяльна, так і духоўна, бясконца багатыя на супольныя радасці, болі і беды, паражэнні і перамогі. Веданне свайго мінулага нам дапаможа сёння быць моцнымі і мужнымі як ніколі — і менавіта ў еднасці і сяброўстве.

Пачатак культурных сувязяў беларускага і ўкраінскага народаў супадае з першымі іх самастойнымі крокамі ў свет шырокі. У часы Кіеўскай Русі агульнымі для братніх народаў былі быліны, гістарычныя песні. У 14—16 стст. узаемасувязі беларускай і ўкраінскай літаратур прасочваюцца ў летапісанні, у розных жанрах царкоўнага і свецкага пісьменства. У 16—17 стст. устанавіліся кантакты паміж культурнымі цэнтрамі Украіны (Кіеў, Астрог, Львоў) і Беларусі (Бярэсце, Полацк, Вільня), праваслаўнымі брацтвамі (магілёўскім і львоўскім, мінскім і кіеўскім і інш.). Спрыяльны ўплыў на ўкраінскае кнігадрукаванне і літаратуру зрабілі Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі. Многія выдатныя дзеячы канца 16 — пачатку 17 стст. (Стэфан і Лаўрэнцій Зізаніі, Мялецій Смятрыцкі, Андрэй Рымша, Логвін Карповіч, Сімяон Полацкі і інш.) зрабілі значны ўнёсак і ва ўкраінскую, і ў беларускую літаратуру. Развіццё асноўных літаратурных жанраў 17 стагоддзя адбывалася ва ўзаемасувязях братніх літаратур: украінскае вершаванне — пад уплывам паэзіі Сімяона Полацкага, беларуская палемічная проза, напрыклад, Логвіна Карповіча, Афанасія Філіповіча, — пад уплывам творчасці Івана Вышанскага, Захарыі Капысценскага, Гарасіма Смятрыцкага. У беларускі фальклор таго часу ўсё шырэй пранікала ўкраінская песенная творчасць, перш за ўсё казацкія і чумацкія песні. Адначасова і на Беларусі, і на Украіне пашыраліся духоўныя вершы і песні (псалмы і канты), калядкі і велікодныя вершы, панегірыкі, пазней — гістарычныя і лірычныя вершы, у 18 ст. — гумарыстычныя (у тым ліку бурлескныя) і сатырычныя вершаваныя творы.

Сапраўды, знаходзячыся ў межах адзінага Вялікага Княства Літоўскага, беларусы і ўкраінцы былі найцяснейшым чынам звязаны паміж сабою і палітычна, і культурна. Аднак у 17—18 стст. духоўная еднасць народаў была амаль поўнасцю перапынена. Езуіцкая палітыка Рэчы Паспалітай, што актыўна пачала праводзіцца пасля Люблінскай уніі 1569 г., шмат у чым дасягнула сваёй мэты: беларускае і ўкраінскае пісьменства прыходзіць у заняпад, мова — выгнана з дзяржаўнага ўжытку, культуры — раз'яднаны. Калі ж у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) Беларусь і Правабярэжная Украіна былі далучаны да Расіі, то пачалося не толькі нараджэнне новых беларускай і ўкраінскай літаратур, але і станаўленне, па сутнасці, новых літаратурных сувязей паміж двума братнімі народамі. Калі прыняць пад увагу тагачасную маладосць абедзвюх літаратур, то стане зразумелым, што гэтыя працэсы праходзілі нялёгка. Царызм перашкаджаў не толькі развіццю нацыянальнай свядомасці народаў, але і іх культурнаму збліжэнню. Самадзяржаўе, пісаў У. І. Ленін, «усё зрабіла для ўзаемаадчужэння народаў, такіх блізкіх і па мове, і па месцу жыхарства, і па характару, і па гісторыі». Так, усе пастановы пра забарону ўкраінскага друку механічна пераносіліся і на друк беларускі. Забараняючы «Беларускія расказы» Ф. Багушэвіча (рукапіс кнігі дагэтуль не адшуканы), цэнзары зноў жа баяліся: каб не прыхоўвалася ў «такого рода сочинениях тенденция, кроме «малорусской, создать еще и «белорусскую» литературу и таким образом разбить и ослабить литературное и национальное единство, а впоследствии этого и политическое могущество русского народа».

**У СУВЯЗІ З УСІМ** гэтым найбольш актуальнай задачай беларуска-ўкраінскіх сувязей 19 ст. была ліквідацыя духоўнага бар'ера, што аддзяляў адзін народ ад другога. Калі вызначыць асноўныя асаблівасці гэтых сувязей, то мінулае стагоддзе можна ахарактарызаваць як час беларуска-ўкраінскага агульнакультурнага ўзаемаазнаямлення, якое спрыяла нацыянальнаму самаўсведамленню кожнага з народаў.

Узаемаазнаямленне найбольш яскрава выявілася ў галіне гуманітарных навук — гісторыі, этнаграфіі, фалькларыстыкі і мовазнаўства. Асабліва ўзмацнілася ўвага да побыту, вуснай народнай творчасці ўкраінцаў і беларусаў у апошняе саракагоддзе 19 ст. Беларусазнаўцы цікавіліся працамі сваіх украінскіх калег, у сваю чаргу, украінцы сачылі за дасягненнямі даследчыкаў беларускай славеснасці. Так, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі, Е. Раманаў і іншыя вучоныя пісалі пра помнікі ўкраінскай пісьменнасці, культуры і літаратуры, рэцэнзавалі ў друку розныя навуковыя публікацыі, уключаючы і артыкулы, што тычыліся Украіны. М. Драгаманаў, А. Патабня, У. Гнацюк, разглядаючы тыя ці іншыя праблемы гісторыі, філасофіі, мовы, заўсёды выкарыстоўвалі беларускі матэрыял, уводзілі яго ў навуковы ўжытак. Акрамя таго, у 19 ст. пад уплывам «Энеіды» І. Катлярэўскага з'явіліся беларускія ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»; папулярнай была беларуская перапрацоўка балады П. Гулака-Артамоўскага «Твардоўскі», на Беларусі ставіліся п'есы І. Катлярэўскага, Г. Квіткі-Аснаўяненкі. У рэчышча агульнакультурнага ўзаемадзеяння народаў уліваюцца музычныя і мастацкія кантакты, упісваюцца тэатральныя сувязі. Пачынаючы з 60-х гг. 19 ст. выразны характар набывае вызваленчая сацыяльная і нацыянальная барацьба нашых народаў, а ў выніку гэтага ствараецца перадумова ўзмацнення і паглыблення сувязей паміж імі, пашырэння ўплыву рэвалюцыйных ідэй на самі нацыянальныя літаратуры.

У 70—80-х гг. мінулага стагоддзя, у выніку падзення прыгоннага права, на гістарычнай арэне з'яўляецца разначынец, гэта, па словах У. І. Леніна, «масавы дзеяч і вызваленчага руху наогул, і бесцэнзурнага друку ў прыватнасці». Кастусь Каліноўскі, навучаючыся ў Пецярбургскім універсітэце, прымае актыўны ўдзел у нелегальнай студэнцкай рэвалюцыйнай арганізацыі «Огул», якая аб'ядноўвае перадавую моладзь Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы. Пазней яго газета «Мужыцкая праўда» будзе абапірацца на рэвалюцыйна-дэмакратычную стратэгію ідэй і Герцэна, і Чарнышэўскага, і вялікага ўкраінскага Кабзара.

У 1887 г. палітычныя эмігранты з Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны аб'ядноўваюцца ў Парыжы вакол стварэння агульнай газеты, мэта якой у падрыхтоўцы сродкамі рэвалюцыйнай публіцыстыкі ўзброенага паўстання народаў, устанаўлення свабоды, роўнасці і братэрства. Праз паўтара дзесяцігоддзя ўкраінскія пісьменнікі, рэвалюцыянеры-дэмакраты І. Франко і М. Паўлык у Галічыне складаюць праект «Украінска-польска-літоўска-беларускага брацтва» і «Выдавецкай суполкі», дзейнасць якіх павінна была накіроўвацца на арганізацыю вызваленчай барацьбы, уздым нацыянальнай свядомасці знявленых народаў Расіі.

З украінскімі рэвалюцыянерамі Кіева, Львова, Жэневы, Цюрыха, іншых гарадоў Заходняй Еўропы падтрымліваў сувязь «Гуртok моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай», кіраўнік якога А. Гурыновіч перакладае з украінскай на беларускую мову выдатны верш І. Франка «Гімн» («Вечны рэвалюцыянер»). Своеасаблівымі, плённымі былі асабістыя і творчыя кантакты выдатнай дачкі свайго народа паэтэсы, драматурга Лесі Украінкі з адным з кіраўнікоў мінскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі марксістам Сяргеем Мяржынскім.

Рэвалюцыйны ўздым 1905—1907 гг. спрыяў прыходу ў нацыянальныя літаратуры новага пакалення. Маладыя, апантаныя ідэяй служэння роднай культуры, жаданнем вучыцца, як мага болей спазнаць, каб вывесці беларускую літаратуру ў шырокі свет агульнаеўрапейскага прызнання, яны працуюць самаахвярна ва ўсіх даступных ім галінах дзейнасці. Так, Цётка фарміруецца як пісьменніца і як рэвалюцыянерка, педагог у кіпучай атмасферы галіцыйскага, львоўскага жыцця. Сяргей Палуян, жывучы ў Кіеве, усё робіць для таго, каб перакінуць масткі яднання паміж украінскай і беларускай інтэлігенцыяй. Каб узмацніць неакрэплае яшчэ дрэўца ўласнай беларускай літаратуры каштоўнымі здабыткамі ў галіне мастацтва слова ўкраінскіх калег, крытык і публіцыст С. Палуян працуе з аднолькавым запалам дзеля росквіту як украінскага, так і беларускага краснага пісьменства.

Яшчэ большым дыяпазонам актыўнасці «на мяжы дзвюх культур» вызначаецца творчая дзейнасць Максіма Багдановіча. Класік роднай літаратуры, ён шмат чаму навучыўся ад украінскіх пабрацімаў па пісьменніцкім пяры, украінскай літаратуры прыслужыўся ў знак падзякі як яе грунтоўны навуковы даследчык, папулярызатар, перакладчык. Першая салідная і рэгулярная беларуская газета «Наша ніва», якая стала «бабкай-павітухай» усёй маладой беларускай літаратуры, пачынанні С. Палуяна і М. Багдановічаператварае на сваіх старонках у традыцыю. З любоўю і зацікаўленасцю друкуе газета шматлікія ўкраіназнаўчыя матэрыялы. Сіла жывога слова выдатных майстроў украінскай літаратуры стае магічнай для беларускіх літаратараў.

Зразумела, перш за ўсё наша літаратура вырастала з уласна нацыянальных крыніц і рэсурсаў, развівалася, маючы добрыя арыенціры ў суседніх рускай і польскай культурах. Аднак менавіта ўкраінская літаратура адыграла ў лёсе нашай роднай літаратуры ролю выключную. Так, гастролі ўкраінскіх тэатральных калектываў, украінская рэалістычная драма спрыялі абуджэнню тэатральна-творчых сіл беларускага народа, стымулявалі развіццё беларускай драматургіі і ўтварэнне ўласна нацыянальнага прафесійнага тэатра. Варта тут прыгадаць, што і «Модны шляхцюк» К. Каганца, і, зрэшты, славутая «Паўлінка» Янкі Купалы нарадзіліся не без уплыву твораў карыфея ўкраінскага тэатра драматурга М. Крапіўніцкага. Шырока прадстаўлена была ў «Нашай ніве» творчасць Васіля Стафаніка, якая, па словах спецыялістаў (Ф. Пагрэбеннік), «можа зацікавіць і ўзбагаціць любую літаратуру свету». Публікацыя лепшых навел пісьменніка прыцягвала нязменную ўвагу і чытачоў, і саміх літаратараў. Пад уплывам майстэрства выдатнага ўкраінскага навеліста знаходзіліся і З. Бядуля, і Якуб Колас, і Ц. Гартны, і — пазней — К. Чорны. Магутны навелістычны талент В. Стафаніка ўзбагаціў беларускую літаратуру пачатку 20 ст., пашырыў яе ідэйна-тэматычныя гарызонты, дапамог у паглыбленні псіхалагізму, паспрыяў станаўленню ў беларускай літаратуры новых жан-

## ДА СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

# СІЛА БРАТ

равых форм, у прыватнасці, псіхалагічнай навелы, верша ў прозе.

**І АДГУКНУЛАСЯ СЛОВА** слову — і маладая беларуская літаратура прайшла за дзесяцігоддзе такі шлях, на які іншым літаратурам спатрэбілася б цэлае стагоддзе. Паскораны тэмп развіцця беларускай літаратуры, культуры наогул залежаў у немалой ступені і ад таго ўплыву, які меў на нацыянальнае самаўсведамленне нашага народа, на яго творчых прадстаўнікоў на пачатку стагоддзя вялікі сын Украіны Тарас Шаўчэнка. Нязломны Кабзар, які веліччу свайго сэрца сагрэў усё славянства, стаў, кажучы словамі Янкі Купалы, «бацькам мілым» і для беларусаў.

Рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі Т. Шаўчэнкі спрыялі грамадзянскаму ўзмужненню нашых суайчыннікаў яшчэ з сярэдзіны 19 ст. На пачатку ж 20 ст. беларускіх пісьменнікаў, «косць ад косці і плоць ад плоці свайго народа» (М. Багдановіч) пратэставаць супраць сацыяльнай несправядлівасці штурхала само жыццё, якое яны — мала сказаць — ведалі, якім — жылі.

Зрэшты, беларускай літаратуры сапраўднага дэмакратызму і сацыяльнай завостранасці ніколі, як кажуць, не трэба было пазычаць. Вакантным у гэты час у нашай літаратуры заставалася месца паэта-трыбуна, які мог бы заклікаць беларусаў яшчэ і да актыўнага нацыянальна-вызваленчага змагання. Яго ролю адыграў Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка. Тагачасная беларуская рэчаіснасць аказалася ўдзячнай глебай, на якую ўпалі зерні Шаўчэнкавых ідэй. Як і ўкраінцаў, сваіх суродзічаў, Кабзар пачаў вучыць беларусаў «любіць свабоду, родны край і мову» (Я. Купала).

Калі ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі народы Расіі атрымалі юрыдычныя правы на суверэннасць і роўнасць, беларусы дзякуючы грамадска-культурным працэсам папярэдніх гадоў аказаліся «нацыянальна абуджанымі», гатовымі да ўспрымання ўсіх тых шматлікіх форм інтэнсіфікацыі развіцця культуры, якія ўзаконены былі Савецкай уладай у першае дзесяцігоддзе існавання нашай краіны. І «Беларусь, сінявокая сястра Украіны» (У. Сасюра), і «Украіна, краю любы, сонцам гадаваны» (Я. Купала) знаходзіліся ў найцяснейшых абдымках сяброўства. Узаемадапамога, актыўнае творчае ўзаемадзеянне вызначалі творчае жыццё маладых рэспублік, у 20—30-я гады творчыя кантакты Беларусі і Украіны насілі менавіта рэгіянальны характар. Выразна цікавымі, моцнымі былі сувязі паміж адпаведнымі маладзёжнымі пісьменніцкімі арганізацыямі, асобнымі часопісамі і выдавецтвамі. Асабістая дружба літаратараў таксама спрыяла актывізацыі літаратурных працэсаў. Шматлікія пераклады, рэгулярная і поўная інфармацыя пра духоўнае жыццё як украінцаў, так і беларусаў стварылі ўмовы шырокага і глыбокага ўзаемапазнання, узаемаўплываў на роўных пачатках. Па сутнасці, усе выдатныя літаратары тых гадоў упісалі свае яскравыя старонкі ў даўні летапіс братэрства, уся беларуская і ўкраінская савецкая класіка стваралася пад сцягамі дружбы двух слаўных народаў...

У пасляваенны час узніклі новыя формы сувязяў — тыдні і дні нацыянальных літаратур, абмен спецвыпускамі літаратурных часопісаў, сустрэчы пісьменнікаў двух рэспублік з жыхарамі прыгранічных раёнаў УССР і БССР, сумеснае абмеркаванне літаратурных пытанняў на пленумах і рэгіянальных нарадах пісьменнікаў. Першы Тыдзень украінскай літаратуры ў БССР адбыўся у чэрвені — ліпені 1957 г., беларускай у УССР — у верасні 1957 г. Дні беларускай літаратуры і мастацтва на Украіне прайшлі ў чэрвені 1975 г., украінскай літаратуры і мастацтва ў нашай рэспубліцы — у маі 1976. Тэма Украіны і Беларусі знайшла адлюстраванне ў творчасці пісьменнікаў як старэйшага, так і маладзейшага пакаленняў, практычна ва ўсіх родах, відах і жанрах літаратуры...

Ва ўкраінскіх публікацыях апошнім часам з'яўляецца шмат новых сведчанняў пра украінска-беларускае пабрацімства, пра тыя выкакародныя акцыі духоўнай падтрымкі, якія здзяйснялі ўкраінскія пісьменнікі ў адносінах да нашай культуры ў страшныя гады сталінскага рэжыму. Так, нядаўна былі нарэшце ўпершыню надрукаваны паэмы У. Сасюры «Чацвёртая рота» і «Расстралянае бяссмерце», у якіх як усплёск паэтавай душы гучаць усхваляваныя страснагарачыя радкі пра беларускае мастацкае слова, а таксама пра тых яго майстроў, што без віны вінаватыя, як Ул. Дубоўка і іншыя, былі засуджаны, хаця мелі права ўпрыгожваць не толькі нацыянальны, але і ўсесаюзны літаратурны Парнас. З калымскіх дзённікаў Івана Іванова даведваемся, што нават у тых неверагодных умовах выгнання і катаргі, у якіх апынулася ці не ўся лепшая частка ўкраінскай інтэлігенцыі, прадаўжаліся вусныя даследаванні дасягненняў літаратуры братняй Беларусі, вязні заглыбляліся (па памяці!) у паэтыку Максіма Багдановіча. У адным з апавяданняў Васіля Бондара сустракаемся з героем, які ў выніку пэўных трагічных акалічнасцей фашысцкай катаргі пачаў усведамляць сябе Янкам Купалам...

**ПРАЦЯГУ ДУХОЎНАГА ЎВАСКРЭСЕННЯ** з вымушанага нябыту ўкраінскіх класікаў спрыяюць і новыя публікацыі занава адкрытых твораў класікаў беларускіх. Так, М. Багдановіч дапамагае вярнуць паўнакроўнае пісьменніцкае аблічча ўкраінцам Грыцьку Чупрынку, магутнаму Уладзіміру Віннічэнку. З радасцю адкрываем мы для сябе, што Мікола Хвылявы, постаць якога сёння высвечваецца побач з М. Булгакавым, А. Платонавым, Б. Пільняком, адчуваў творчую падтрымку свайго аднадумца Цішкі Гартнага...

Відавочна, што з часам, па-новаму прачытаўшы, перажыўшы, адчуўшы атмасферу 20—30-х гадоў у беларускім культурна-грамадскім жыцці, мы нарэшце аб'ектыўна разбяромся не толькі ва ўласнай літаратуры, але і ў гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязей, а такім чынам прама ці ўскосна паспрыяем рэабілітацыі многіх нашых сапраўдных сяброў.

Жыццё, а з ім і літаратура няспынна крочаць наперад. Апошнія гады прыносяць новыя факты беларуска-ўкраінскага культурнага ўзаемадзеяння, што плённа працягваюць гістарычныя традыцыі сувязей нашых народаў. Другое беларускае выданне «Кабзара» Т. Шаўчэнкі (першае выданне было ажыццёўлена ў 1939 г.) стае добрай школай літаратурнай працы для сучасных беларускіх паэтаў, невычэрпнай крыніцай паэтычнага майстэрства. Своеасаблівы «каламыйкавы» рытм шаўчэнкаўскай паэзіі, багатая інструментоўка верша, унутраныя рыфмы, паралелізм, народнапесенная вобразнасць і сімволіка — усё гэта ўзнаўляецца дасканала, а часам і віртуозна — і засведчвае нам новы стан беларускай мовы, яе распрацаванасць, узросль патэнцыял эстэтычных магчымасцей. Са свайго боку украінскую творчую грамадскасць прываблівацюь значныя дасягненні ў галіне беларускай прозы. Так, часопіс «Київ», здаецца, адваяваў сабе права на прыярытэтную публікацыю перакладаў твораў Васіля Быкава. Са старонак гэтага «аператыўнага» выдання быкаўскія «У тумане», «Аблава», што ўзбагачаюць літаратуру новымі аспектамі невычэрпнага дэмакратычнага гуманізму беларускага пісьменніка, прыйшлі да ўкраінскага чытача раней, чым іх вывелі на ўсесаюзную арэну цэнтральныя часопісы.

«Светлай вам будучыні на вякі!» — так гучыць аўтограф Васіля Быкава на адной з украінскіх публікацый яго твораў. Беларусы і ўкраінцы, узаемна жадаючы адзін аднаму светлай будучыні, мы разумеем, што супрацоўніцтва, узаемаразуменне і падтрымка, культурнае яднанне — зарука далейшага росквіту нашых літаратур, перадумова развіцця, стрыжань узаемадносін вялікіх братніх народаў і ў мінулым, і сёння, і — надалей.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ.**

# ЭРСТВА

# ПІСЬМЫ НА БЯРОСЦЕ



● Берасцяная грамата з Віцебска.

Шматлікія археалагічныя знаходкі дазволілі вучоным зрабіць вывад, што жыхарам заходніх земляў Старажытнай Русі пісьменства было вядома яшчэ да прыняцця хрысціянства, але ў IX—XIV стст. яно атрымала больш шырокае распаўсюджанне. У час археалагічных раскопак на тэрыторыі Беларусі былі знойдзены розныя прадметы з надпісамі на ганчарных і касцяных вырабах, шыферных прасніцах, а таксама на бяросце, так званыя берасцяныя граматы, якія ўпершыню былі знойдзены ў 1951 г. у Ноўгарадзе. Бярэсту як матэрыял для пісьма выкарыстоўвалі простыя людзі, бо пергамент (шкура жывёлін) каштаваў у тыя часы вельмі дорага.

Першая і да нядаўняга часу адзіная ў Беларусі берасцяная грамата была знойдзена ў 1959 годзе ў Віцебску, старажытнарускім горадзе — сталіцы княства (упершыню ў летапісе Віцебск упамінаецца ў 974 г.). Знойдзена яна была выпадкова, у час земляных работ у цэнтры горада, на плошчы Свабоды (былая тэрыторыя Ніжняга замка). Адзін з рабочых Я. Фралоў звярнуў увагу на маленькі скрутак бяросты, які паказаўся з зямлі. Разгарнуў яго, заўважыў надрапаныя на ім літары і адразу ж панёс у абласны краязнаўчы музей. Берасцяная грамата была знойдзена ў культурным пласце XI—XVII стст., на глыбіні каля 3—4 метраў ад паверхні асфальту. Тэкст, напісаны на бяросце памерам 17×4,5 см, добра захаваўся і адносіцца да XIII — пачатку XIV стагоддзяў. Запісаны акадэмікам Б. А. Рыбаковым у больш звыклай для нас арфаграфіі і падзелены на словы, ён выглядае так: «От Степана къ Нежилови. Оже еси продалъ порты, а купи ми жита за 6 гривенъ. А ли цего еси не продалъ, а посли ми лицем. А ми еси продалъ, а добро сътворя у купи ми жита».

Што ў перакладзе на сучасную мову азначае: «Ад Сцяпана к Няжылу. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта за 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, дабрадзей мой, купі мне жыта».

Магчыма, гэта пісьмо пісаў Сцяпан-кравец, які шыў вопратку, прадаваў і купляў прадукты харчавання. А магчыма, у тым месцы, дзе жыў Сцяпан, быў неўраджайны год, таму ён вымушаны быў прадаваць вопратку і купляць жыта. А што ж можна было купіць у той час на 6 грыўняў? З крыніц, блізкіх да таго перыяду, вядома, што за 6 грыўняў можна было набыць: 300 аўчын, або 12 свіней, або 2 кабылы, або 3 каровы, або наняць дзве батрачкі на 12 гадоў.

Элементы цокаючага паўночна-заходняга вымаўлення, якія заўважаюцца ў грамаце, сведчаць, што яна, хутчэй за ўсё, мясцовага, віцебскага паходжання.

У 1980 г. у час раскопак у Мсціславе была знойдзена 617-я ў нашай краіне берасцяная запіска, якая адносіцца да XIII ст. і па змесце вельмі нагадвае пасланне віцебскага краўца Сцяпана. У двух радках пісьма, якія захаваліся на бяросце, гаворыцца пра пшаніцу на суму 4,5 грыўні і пра нейкага Сымона, відаць, гэткага ж гандлёвага пасрэдніка, як і Няжыл, пра якога гаворыцца ў віцебскай грамаце.

Супастаўляючы гэтыя дзве знаходкі, мы можам зрабіць выснову, што пісьменства ў той перыяд было распаўсюджана не толькі сярод феадалаў, але і сярод простага люду, гараджан. Берасцяныя граматы ўяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць, бо яны адлюстроўваюць жыццё народа ў XIII стагоддзі, сведчаць аб наяўнасці ў той перыяд развітога земляробства і гандлёвых сувязей на тэрыторыі Беларусі.

**Ніна ЛАГАЙКА,**
**загадчык аддзела рукапісаў Віцебскага краязнаўчага музея.**
**Фота Міхаіла ШМЕРЛІНГА.**



# ПАЭЗІЯ

## Вялімір ХЛЕБНІКАЎ

■

Расія забыла, як чутку,
Напой, што меў вечнасці смак.
І ў першым разгорнутым скрутку
Свой лёс прачытала няўзнак.

Як дзеці дарослым, нямліва
Імліла ты скрутку ў жальбе.
І прыкрая скрытная сіла
Жадзьма назірала цябе.

(Пачатак 1908-га.)

*Конік*

Крылцуючы золатапісьмом
Узорнай шаты,
ўшат-
каваў
У торбу брушка конік шмат
Прыбярэжных траў і вер.
— Пінь — пінь-пінь! —
кулялёхнуў дзіндзівер,
О, лебедзіва!
О, азары!

(1908—1909.)

*Заклён рогатам*

Рагачыце, рагачы!
Рагачарце, рагачары!
Рагачварце, рагачвары!
Рагатніце рагатліва з рагатнёў,
рагатуны!
Рогаць, рогатань, урогат,
Рагачутка, рагацень.
Рагатулі, рагатуйце рагатункі!
Зрагаторце
Рагаторгі рагатнічым рагатном,
рагатары!
Рагацвелы ўрагацвела рагацвеляць
рагацелаў,
Урагочваюцца ўрогач рагачверцы
ў рагачме.
Рогат рогатна рагоча рагатайнай
рагатою:
Рагатніны ў рагатніцу.
Рагачыце, рагачы!

(1908—1909.)

■

Сланы біліся біўнямі так,
Што здаваліся белым каменем
Пад мастаковай рукою.
Алені спляталіся рагамі так,
Што, здавалася, іх яднаў
старабліві шлюб
З узаемнымі захапленнямі
і ўзаемнай нявернасцю.
Рэкі ўліваліся ў мора так,
Што здавалася:
рука аднаго
душыць горла другога.

(1910—1911.)

■

У неба ўцяліся кінжалы —
Два ясакары: гнуцца аж...
І, расхінуўшыся, ляжала
Нябожчыцай зямля наўсцяж.
І замак белы, ўкляты ў пустку
Сутоння, тоіць сны свае.
Да залатога пяску спуску
Вось шумна човен прыстае.
І панна пройдзе пры сустрэчы,
Абдыме косамі сваімі,
І рукі пакладзе на плечы,
І ўсмешка адзавецца імем.
Ён ёй вядзецца ў вабы зморы,
Ягоны зрэбны ўбор ёй люб.
А раніцой пярэйме мора
Яго шчаслівы ціхі труп.

(1911.)

■

Магутна-снежная краса,
Дзе ў сны адплюшчваюцца вочы,
Твая паўночная каса
З'явілася мне ў час сурочы.
Сваім узорам чорным вабіць
З уцехі сплецены вянок —
Яго груган пакінуў, мабыць,
Чый шлях з самоты ўзяў выток.
Абсяг заняўшы, гэты снег
Ці не таму бялютка-весні,
Каб чалавеку чалавек
Быў гук нябёс, быў чутны песняй?

(1911—1912.)

■

З цялёхканнем-свістам
Птушкі прастору пажалі.
Лістом трапятлістым
Яны не кружлялі.
І як высокае крыло
Начнога птаха навальніцы,
Бухмата воблака брыло,
Сутонне сцелючы на ніцы.
Цягліся нерушы і рушы
За цёмна-займістым крылом.
Ўцякач навукі крывадушша,
Скакаў я зпроку напралом.

(1912.)

*Маркотнае*

А стану сам сабе ліхі —
Я ў залатое сонца рыну.
Злучу святое і грахі,
Адзенуся ў крыло-драбіну.
Я ўмёр, я ўмёр, па латах кроў
Памкнула веннаю нявою.
Ачнуўся я, інакш, ізноў
Вас аглядзеўшы вокам воя.

(1914.)

*Курган*

На што ўпадуць татараў зіры —
Нядужа клалася дадолу.
Імкне сібір ва ўлонь Сібіры,
Жанчын развопраўшы дагола.

Курганны вой у сцігвах скону
Сціскаў жалезны твар Габрая.
Вакол свіст суслікаў, ліст клёнаў.
Курганны дзень цячэ да краю.

Цыган каня крадзе. Трывожаць
Нюхлівых лісаў неба карты.
Ляжыць суровы запарожац
Пад курганом стагоддзяў варты.

(1915.)

■

Людзі, конадні, гады
Уцякаюць наўсягды,
Быццам бруйвіны вады.
Ў гнуткай люстрані прыроды
Зоркі — невад, мы — чароды
Рыбанельгі, рыбальгі,
Цемры прывіды — багі.

(1915.)

■

І чорны рак на місцы белай
Славіў блакіту каласы.
І ў падрабязнасцях збуцвелых
Адно застуда і хлусы.
Ды вось знянацканы званок:
«Мы пагібоша, акі обры!»
Як Цэзар некалі, да ног
Заслонай атуліся! Добра!
Памры, мой родны. А акрэсліць
Цябе разгляды паспрабуюць —
Ты скажаш, песцячыся ў крэсле:
«Я той, якога не турбуюць».

(1919.)

Пераклаў з рускай
Алесь РАЗАНАЎ.

Фота Віктара ДРАЧОВА.

## Любамір ЛЕЎЧАЎ

*Галюцынацыя ад зморы*

Маршам.
І маршам.
І маршам.
Востраму ветру напоперак.
Велічнай мэце насустрач.
Маршам і ўсё бальшаком.

Смяглая змора прыходзіць.
Сонца —
як чорны павук —
чорным праменнем аблытвае.
Мозг пачынае гарэць.
І несціхана дзесь чуеш
плёскат-журчанне крыніц.

Прэч асабістыя рэчы!
(Пісьмы і тыя цяжарам.)
Як ты? Стрываеш?

Дзярзайце!..
Тут мне і трапіў
на вочы
сябар дзяцінства майго.
Сябар дзяцінства майго
потайкі выкінуў сэрца —
цяжкае,
чыстае сэрца.

І заўсміхаўся, мярзотнік.
Лёгка і добра
пачуўшыся,
шпарка наперад пабег.
Востраму ветру напоперак.
Велічнай мэце насустрач.
Шпарка і ўсё бальшаком...

Ветру,
замры на хвіліну!
Стойце, гадзіннікі!
Ціха!
Сэрца пачуць я хачу.
Сэрца — каб ведаць, што б'ецца.
Больш мне нічога не трэба.

З балгарскай пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ.

## Тоне ПАЎЧЭК

*Канец песні*

Сядзім за сталом і ведаем пэўна:
апошні раз мы разам: маці,
сястра і я,
апошнія трое — з вялікае
нашай сям'і.
Сядзім і ядзім, п'ём кісліцу-
віно. А слова
падае, дзесь улягаецца
і застаецца без водгуку.
Што б ні сказалі мы зараз —
усё абы-што, бо ўсе трое
ведаем: вартасць тут мае адно —
што мы разам
і што мы ўсведамляем гатоўнасць
няўмольнага лёсу:
апошні раз мы сядзім і глядзім
адзін на другога,
таму што ўжо заўтра мы болей
не ўбачымся. Заўтра
будзе сядзець за сталом пустата.
А сягоння —
маміна свята. І зноў азываюцца
шклянкі —
глуха, няярка, нячыста.
За вокнамі вецер шуміць,
як пошум вякоў,
і мяшае часы і падзеі,
кроў, каханне і смерць.
Побач пахнуць ружы
дня яе нараджэння.
І нібы аднекуль здалёку
яснасцю ўдарылі ў сэрца матуліны
словы:
«Я не баюся памерці».
У свята дыхнула адразу
холадам долу, а не скалануўся
ніхто,
бо ад самога пачатку было гэта
з намі, і ўсім
ясна, што досыць мы ўжо
за сталом пасядзелі,
што дапілі ўжо віно і што песня
дапета.

Са славенскай пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ.

## Чэслаў МІЛАШ

*Так мала*

Так мала сказаў.
Кароткія дні.

Кароткія дні,
Кароткія ночы,
Кароткія леты.

Так мала сказаў.
Не было калі больш.

Змучылася маё сэрца
Надзеяй,
Трывогай,
Роспаччу,
Парываннем.

На мне замыкалася
Пашча левіяфана.

У бездань
Зацягваў мяне
Белы кіт акіяна.

Знясілены,
Спаў я на берагах
Незаселеных выспаў.

І вось цяпер
Не ведаю, што было,
Не ведаю, што было
Наяве са мною.

Пераклаў з польскай
Алесь РАЗАНАЎ.

## Васка ПОПА

*Сляпое сонца*

Два ўбогія промні
Вядуць за сабою сонца

З таго боку неба
Не на сваім парозе
Смуткуе світанак

Дзень апусціўся нізка
З бліскаўкамі збасцяўся
Няма яго дома ніколі

Вечар падаўся ў свет
Усклаўшы сяннік на плечы
Жабруе на нейкай зорцы

Адна толькі ноч
Расхінуўшы рукі
Выйшла насустрач сляпому сонцу

*Вогненныя рукі*

Паглыбляюцца дзве вогненныя рукі
У нябесную бездань

Не хапаюцца яны за зорку
Што каля іх плыве
Жагнаецца і трапеча

Паказваюць нешта на пальцах
Хто разгадае
Мову агністых знакаў

Складваюць малітоўна
Далоні стрэшкай

Мо кажуць яны пра старую хату
З якой яны разам гарэлі
Мо кажуць пра новую хату
Што трэба пабудаваць

Пераклаў з сербскахарвацкай
Алесь РАЗАНАЎ.

## Міхаіл РАНДЖОЎ

*Госць*

Прыходзіць і зноў адыходзіць
Госць:
Здань ці сутонне.

Пытаўся ў яго:
Які вецер цябе прыносіць,
Якая непагадзь прадвяшчае,
З якога неба спускаешся,
З якога волава выплаўляешся,
З якой цемрадзі,
З якой злосці?

Застагнаў, нешта вымавіў
і ўва мне
Паволі схаваўся: Госць —
Здань ці сутонне.

*Мармур*
**(Слуп)**

Хто спіць у табе?
Хто блукае ў табе?
Які Вавілон, Візантыя якая?
Які архангел, які гасподзь?
Які сатана?

На цела тваё галаву пакладу
І пачую: ўсярэдзіне салавей
Шчабеча.

Пераклаў з македонскай
Алесь РАЗАНАЎ.

## Тэадор КРЫЖКА

*Засвяцілася акно*

На першым паверсе засвяцілася
акно,
і я пачынаю хвалявацца.
Але не так, калі мне бывае цяжка,
а так, калі зямля танцуе
пад нагамі,
калі сэрца верыць,
і смутак развейваецца ветрам.

Засвяцілася акно — і мяне працяла
каменнай прыгажосцю горада.

На снежна-белых фіранках
узніклі сілуэты анёльскай
пяшчоты,
якую маюць хіба толькі дзеці
ці ляснымя домікі на тэатральных
дэкарацыях.
Яны пазначыліся тонкім профілем,
нібы трапілі сюды з мініяцюр
японскіх майстроў,
якім бог кладзе на чало ціхае
блаславенне,
а потым сядзіць на кукішках.

На першым паверсе засвяцілася
акно,
дзе чакае адна з тысячы жанчын.
І я гляджу ізноў зачараваны,
пакорны яе пяшчотнай прысутнасці.

*Раніца*

Прачынаюцца этэрыцкія ружы,—
кармінава-чырвоныя, жоўтыя
і белыя,—
распускаюцца
адна за другой,
выпростваюцца
пасярод гаснучага начнога
небасхілу.
Няма фарбы, апрача фарбы смутку,
якая не разнеслася б
на крылах разбуджаных птахаў.
Усё навокал чыстае: і небасхіл,
і вёска, і лясы.
А яшчэ,—
кожны на сваім канцы свету,—
прачынаемся мы.

*Сонечная ноч, месячны дзень*

О, як прывабныя чужыя воды, землі,
аднак другое ў сэрцы падарожжа —
ізноў вяртаюся дамоў на Зэмплін [1],
у той куток, што чыстым пахне
збожжам.
Спрадвек было — пры розуме і сіле
сябе спазнаеш толькі праз айчыну.
Ах, бусел на страсе, схавай мяне
пад крыллем
ад зоркі зваблівай, што кліча
на чужыну.
Хай непазбыўны будзе ў сэрцы
смутак
і скураны хатуль плячо
вярэдзіць,
ды шлях дамоў салодкаю пакутай
хваробы і спакусы ўсе адпрэчыць...
Ноч сонечная свеціць пры магіле,
па-над труной дзень месячны
праменіць...
Ах, бусел на страсе, схавай мяне
пад крыллем.
Як не зямлю — дай роднае каменне.

[1] Мясцовасць ва Усходняй Славакіі.

Са славацкай пераклаў
Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК.

## Міхал ЧЭРНІК

*Сад*

Цэлы дзень выбіралі
каменне з дзялянкі
ажно ўцяўся яго цяжар
у нашыя рукі
потым каменнем
абкладвалі схіл
каб гліну
дажджом не змывала
казаў
у роздуме бацька
тут будзе сад
адны толькі яблыні
і гарбату
піў з тэрмаса і курыў
свае «партызанкі»-цыгаркі
назаўтра
выкопвалі ямкі для дрэўцаў
зварушаная зямля
чарнела праўдзівы гумус
а ўнізе
а ўнізе знайшлі чалавечыя косці
нехта сказаў нам што некалі тут
мясціліся могліцы нізка
схіляліся мы да той
сваёй урадлівай гліны і гліна
была нашым споднім жыццём
і вялікая спёка
валодала наваколлем і зеўраў
над намі поўдзень і рэчка
хавалася за наваколлем
далёка быў цень
далёка быў сад
і далёка быў бацька вязень
маўклівасці калі раптам
з самага большага каменя вымкнуў
парастак яблыневы і рос
рос рос урастаючы безупынна
цветам сваім сваёю
плоццю ружовую мне ў душу
і не будзе
здавалася мне што не будзе
гэтаму ўжо не будзе
ніколі канца

Пераклаў з чэшскай
Алесь РАЗАНАЎ.

## Павел ПРУДНІКАЎ



Цёплым летам, ціхім адвячоркам
Я стаяў на беразе ракі.
Раптам бачу:
прамільгнула зорка...
Не, не зорка —
знічка між ракіт.

Ледзь заўважыў постаць прыгажуні,
Не паспеў гарэзу разглядзець.
Зноў туды штодзень цяпер хаджу я,
Ды яе няма ўжо анідзе...

Ці не так вось знічкай
прамільгнула
І мая далёкая вясна!..
Злюка-восень да зямлі прыгнула...
Я цяпер —
карчатая сасна.

Жнівень 1988 г.
Карлавы Вары.



Думаў я: жыву сярод марксістаў,
Хто павагу дзеяй заслужыў.
А на справе —
гэта ж кар'ерысты,
Што па вушы тонуць у ілжы.

Верыў я: цяпер народ наш чысты,
Бо адсеклі культу галаву.
А на справе —
зграя сталіністаў
Пад шумок «выходзіць на траву».

Сярод іх —
былыя «актывісты»,
Што «карамілі» фразамі народ,
І, на жаль,—
прыціхлыя садысты,
Хто заўсёды затыкаў нам рот.

Хто за глотку ціснуў нас,
двухногіх,
І гадамі голадам марыў,
Браў агулам нас на вілы-рогі
І аб нашым «шчасці» гаварыў.

Стрэнеш тут, канечне, і шакалаў,
Хто збіраў кавалачкі ў паноў.
Іх штодзень «падтрымачка» чакала,
І яны тырчалі ля ўстаноў.

І такія ёсць, хоць іх і мала,
Хто пад хор клікуш па слепаце
Прадаўжае жыць чужою марай,
Слоў з чужых бязглуздзіцу пляце:

— Сталін—
бацька наш, вялікі геній,
Выйграў нам Айчынную вайну!
Змоўчаў аб адным,
што, мо, і гены
Падарыў «нашчадачку свайму».

Прызнаюся —
гэтакіх мне шкода:
Па дурноце трапілі ў заблуд.
Колькасць іх зніжае з кожным
годам
Наш грамадскі ўсенародны суд.

Вось цяжэй з такімі,
хто са свістам,
З пенаю на вуснах за ЯГО...
...Шчэ жывуць між намі сталіністы,
Пра ЯГО расказваюць з тугой.

Думаюць —
падымуць труп смярдзючы,
Закуюць нас зноў у кайданы.
Хай памараць,
яшчэ раз паплачуць.
Там жа апынуцца і яны!

Жнівень 1988 г.
Карлавы Вары.

## Паўлюк ПРАНУЗА

Хмурынкай золак занавешан.
Не шапаціць дрымотны ліст.
У засені густых алешын
Азваўся салавей-саліст.

Як ён зацёхкаў, як заліўся!
Ружовы ранак пасвятлеў.
А луг расой засерабрыўся —
Яго абсыпаў дзіўны спеў.

### *Васілёк*

Я іду па жніўеньскаму полю.
Выплывае ў памяці, здалёк,
Напамінкам радасці і болю
На сцяблінцы тонкай васілёк.

Над маім акопам нахіліўся
І развеяў мой салдацкі сум.
У маім ён сэрцы пасяліўся.
Праз усё жыццё яго нясу.

Прыгадаю я той час суровы,
Час баёў, паходаў, пераправ,
Мне здаецца: мудры Багдановіч
«Слуцкія ткачыхі» мне чытаў.

### *Сон*

Прысніўся мне акоп, бамбёжка,
Снег дымны і крывавы лёд.
Прачнуўся на бальнічным ложку,
Шапчу: «Вось шчасце. Пералёт».



Як балюча самота кранае,
Пі настой жыватворных крыніц,
Пакланіся палеткам і гаю
І пагрэйся зарою суніц.



Дык будзьце навекі праклятыя,
Хто сеяў паклёпы і зло
І чорнай няпраўды зярняты
На жорнах злачынства малоў.

### *Карані*

Ці віхуры, ці ўзімку завеі
Прашываюць і ночы і дні,
Лес упарта стаіць, як гвардзеец,
Бо заглыбіў свае карані.

Тут працуюць твае аднагодкі,
А ты памяць умела крані,
І паўстануць далёкія продкі —
Лёсу, шчасця твайго карані.

Птушкі з дальніх краёў прылятаюць,
Хоць хапала зярнят, цеплыні.
Тут іх гнёзды, паляны чакаюць —
Невідочныя карані.

Запытаў я аднойчы ў суседкі
Пра жыццё і пенсійныя дні.
— Дзве дачкі, тры сыны —
шчасця сведкі,
Вось надзея мая, карані.



## ПАГАНСКІ БІСКУП

Вольга ІПАТАВА

АПАВЯДАННЕ



Ляздзейка прачнуўся нязвыкла позна, з цяжкасцю разляпіў вочы. У печы гарэла полымя, кідаючы зыркія водбліскі на маршчыністы твар ягонай ключніцы Ваўкаміры, на ружовыя рукі маладой наложніцы Плоткі, якая парыла зёлкі. Ён унюхаўся, папрасіў:

— Дай чаўхірку вужаўніцы! [1]

Яна крутнулася, шукаючы гліняную чарачку, наліла пахкай вадкасці, хуценька паднесла. Ён з задавальненнем угледзеўся ў дзяўчыну — сінявокая, кругленькая, доўгія бялявыя валасы абвязаны стужкай,— і тут жа з прыкрасцю выпіў горкі настой, адкінуўшы мядзведжую шкуру, якою быў накрыты.

У хаце было цёпла, улежна, ад яго цяжкіх крокаў пазвоньвалі на куце бразготкі, калыхаліся на цяжкіх дубовых паліцах постаці багоў. Ляздзейка ведаў — яны любяць яго. Усім прыносіць ён ахвяры — Жыценю і Лялі, Жыжалю і Грамаўніцы, не забываецца на дзядкоў, што прыходзяць да жывых у вясновыя дні Радаўніцы і на халодныя восеньскія Дзяды. А калі служыць ля каменнага Перуна, што нядаўна пастаўлены князем Гедымінам і перад якім дзень і ноч палаюць смалякі, то здаецца яму — а ці праўда? — што па цёмным твары каменнага балвана прабягаюць усплёскі прыязнасці, асвятляючы ягоны твар... Акаляючы свет няспынна падаваў Ляздзейку знакі, гаварыў з ім, і трэба было толькі быць напагатове, не прапускаць нічога з таго, што казалі яму людзі і рэчы, святло сонца ці маладзіка, галінкі дрэва і шэпт ветру... Вось чаму, толькі вяртаючыся ў хату, спахапіўся ён, што неяк сурова зірнула на яго драўляная Мокаш, паспрабаваў пра сябе аднавіць яе погляд, кленучы сябе за тое, што быў сонны і што ноччу бязладныя мроі мучылі болей чым звычайна... Але ўжо маўчала Мокаш, былі невідушчымі яе вочы, і ён сеў снедаць з яшчэ большым цяжарам у грудзях.

Сёння можна было есці мяса, таму што князь цэлы дзень будзе ля войска. На гэтую зіму яны кіраваліся зноў зімаваць у Бярэсце, таму што яшчэ летам князь Леў, князь луцкі, уцёк у Бранск да зяця свайго Рамана, а што з таго магло выйсці — невядома. Вінаваты быў Леў у тым, што пад час крыжацкай вайны забраў быў Бярэсце дый Драгічын, і таму, пачуўшы, што забіў Гедымін уладзімірскага князя, не стаў чакаць літасці. Трэба было сачыць за ім: што задумаў.

Войска, праўда, у Бярэсці было няшмат — літва імкнулася да сваіх, тым болей, што Слонім і Нальшчаны не так і далёка ад Бярэсця. Жамойтам — тым ісці далей, але і яны збяруцца хутка, таму што раўніва ставяцца да подзвігаў літвы.

Магутнае некалі, племя гэтае нібы звужала цяпер свае межы пад буйным націскам крывічоў, растваралася ў магутным патоку славян; некалі пад самы Менск прасунула яно свае межы — цяпер жа маўклівa сялілася на берагах Шчары, абцякаючы Лаўрышава ўсё болей слабымі ручайкамі. Нават вялікія князі ўжо амаль не памяталі мовы свайго племені, мова княства была славянская.

Ляздзейка быў адным з нямногіх пры двары, хто ведаў не толькі мовы жамойтаў і аўкштайтаў — плямён, далёкіх ад Вільні і Трокаў,— але і памятаў працяглую, як таямнічыя заклёны, тую, даўнюю мову літвы,— і памятаў мову абрадаў, якая была ўжо невядомай і для саміх князёў. І за гэта яшчэ цаніў яго Гедымін і не трывожыў дарэмна свайго галоўнага жраца.

Плотка падала мяса — але нешта як адвярнула Ляздзейку, і ён зноў падзівіўся — з чаго б? Службы сёння не прадбачыцца. У дні, калі клаліся трэбы берагіням або даваліся ахвяры Перуну, ён не еў мяса, бо ад яго цяжкім рабілася цела, а яно абцяжарвала і душу. Калі ж даводзілася служыць, пакаштаваўшы мяса, пагаршаліся прадбачанні Ляздзейкі, і таму ён еў дзічыну зрэдзь, адчуваючы ад таго асаблівае задавальненне. Сёння ён мог зрабіць сабе радасць, дый дзічына смачна, аж назбіраў поўны рот сліны, пахла, прыпраўленая пахкасцямі...

Але мяса ён адсунуў, паеў капусты з грыбамі і аўсянага журу. За акном разгаралася маліна-

вае ад марозу неба, хрумсцеў пад лапцямі ці ботамі снег, і Ляздзейка бачыў далёка ўнізе цесна прыціснутыя адна да адной сівыя ад шэрані хаты Бярэсця, людзей у кажухах, над якімі раз-пораз віліся струменьчыкі пары — калі яны гаварылі між сабой.

Неспакой не праходзіў, і ён запытаў у Ваўкаміры, што ставіла ля печы дзяжу, ці прыходзіў хто сёння ў хату.

— Хто ж асмеліцца без патрэбы турбаваць княжацкага жраца! — паківала галавой старая. А пасля спахапілася:

— Жабрачка тут адна прыходзіла... Але малодшы жрэц яе прагнаў. Хай ідзе да берасцейскіх!

Апранаючы аксамітавы каптан, які ён звычайна хаваў пад чорным карзном, дакорліва сказаў Ляздзейка:

— Калі хоча хто да мяне, хай прыходзіць! Колькі вам кажу — не дарэмны на зямлі ніякі крок, ніякая дарога!

— Але ж спаў ты, пан! — толькі і сказала Ваўкаміра, выціраючы рукі белаю ўціркай.

Яна дастала з сундука асаблівы — вышыты ручнік, якім заўсёды прыкрывала хлеб, паслала на стол белы абрус, дастала сухое кляновае лісце.

Плотка тым часам разлівала па гліняных гаршчэчках зёлкавыя настоі, час ад часу дакраналася да іх вуснамі — правярала на смак.

Жрэц накінуў карзно, надзеў калматую воўчую шапку, накінуў на плячо звязку мядзведжых і рысіных кіпцюроў, узяў посах. Азірнуўся, выходзячы,— і зноў трапіла на вочы вышываная на ручніку багіня — Маці ўсяго жывога Мокаш, нібы палыхнула на ўсю хату чырвань незвычайнага ручніка, што як асвятліў усё наўкол. Ткала яго некалі Ваўкаміра як запаветны, за адзін дзень, з ранку да вечара, а выткаўшы, павесіла на ноч на скрыжаванні трох дарог, каб упала на яго летняя, купальская раса, каб святло і шчасце прыносіў ён уладальніку. Заўсёды, калі жанчына расчыняла Хлеб, апранала і белую святочную кашулю.

Марознае паветра ўдарыла ў твар, запаліла шчокі, запушыла шэранню вейкі. «Паганскі біскуп!» — пачуўся за спінай шэпт. Ляздзейка ўсміхнуўся — тут, у Бярэсці, шмат люду пахрышчана ўжо, традыцыі тут болей полацкія, ад магутных манастыроў і храмаў. Ад іх і храмаў кіеўскіх, валынскіх. Але ўжо Новагародак, першая сталіца Вялікага княства Літоўскага, абкружана язычнікамі, і вялікія князі, хрышчаныя па ўсіх правілах, не адмаўляюцца ад дзедаўскіх звычаяў. «Паганскім біскупам» празвалі тут Ляздзейку, гэта пайшло ад крыжакоў, якім прадрок ён паражэнне і тым здабыў сабе вялікую славу. Многае адкрыта яму, калі глядзіць княжацкі жрэц на зоркі, слухае вецер і ваду, і не раз утрымліваў ён Гедыміна ад паходу, калі той меўся быць няўдалым. Першы раз, аднак, утрымаў ён руку Гедымінавага бацькі, калі той выхапіў меч і хацеў засячы непакорнага баярына Лаўрэна. Ускочыў тады сямігадовы хлопчык Ляздзейка і закрычаў на ўсю залу, і рэха панесла яго ў вокны:

— Не сячы! Калі яго заб'еш — рука твая ссохне!

Тады страшным гневам запалаў на Ляздзейку вялікі князь, выштурхнула яго з залы варта, ды Лаўрэн застаўся жывы.

Але паколькі характар меў ён жорсткі і круты, да таго ж прыняў хрысціянства і не бываў на Перуновых ахвярах,— зноў наклікаў княжы гнеў, і штурхнуў яго князь аб сценку. Ударыўся Лаўрэн, доўга хварэў, а пасля пайшоў да прадкаў на неба. На другі ж дзень аднялася ў гаспадара рука, якою штурхаў ён баярына. А пасля стала сохнуць. Што ні рабілі жрацы, якія ахвяры ні прыносілі багам — нічога не дапамагала. І тады вярнулі ў замак малога Ляздзейку, і нагадаў яму Віцень, што гэта ён знайшоў хлопчыка ў арліным гняздзе, дастаў яго і не толькі захаваў жыццё, але і выхоўваў разам са сваім сынам. Ляздзейка ўпаў на калені і доўга дзякаваў князю за літасць, а пасля параіў выйсці вечарам на дарогу і, даючы міласціну, прасіць жабракоў, каб маліліся яны за душу нябожчыка. Тры вечары рабіў так вялікі князь, а пасля адчуў, як варушацца пальцы на нерухомай руцэ. Тады яшчэ болей наблізіў ён да сябе Ляздзейку, а калі на княжацкі столец узышоў Гедымін, паставіў ён хлопца галоўным жрацом пры сабе. І хаця шапталіся злосна па кутах сівыя вешчуны і заклікалі яны свае чорныя сілы сабачай крывёю і ахвярамі змяінымі, перамог усіх Ляздзейка, таму што са светлай душой служыў ён багам, з дабрынёй ставіўся да ўсяго жывога.

...Зарагаталі дзеці, задуменны позірк жраца спыніўся на іх, і ўбачыў ён, што яны трасуць пульхныя ад снегу галіны над сівой галавой жанчыны, якая скурчылася пад халоднымі белымі камякамі. Летнія лапці яе знасіліся, з-пад лыка тырчалі босыя пальцы, зрэбніна стракацела латкамі.

Позірк яе, няўцямны, пакутны, сустрэўся з вачамі галоўнага жраца, і яму стала сорамна за свой цёплы каптан і карзно. Даўно ведаў, што не ў сілах апрануць і абуць усіх нябогіх, але ж і глядзець на іх няма сілы... Ён прагнаў хлопцаў, і тады жанчына затрэслася ў плачы, павалілася яму ў ногі.

— Гэта ты прыходзіла да мяне?

— Я, пане.

— Чаго ты хочаш?

— Шукаю сына.

Памаўчаўшы, жрэц загадаў уладна:

— Хадзі за мной.

Ваўкаміра не выказала здзіўлення, затое Плотка, у бліскучых маністах, з сярэбранымі бранзалетамі-змеевікамі на гнуткіх руках, глядзела з ледзь улоўнай пагардай, як нялюўка, са сполахам азіраючыся, ішла па багата прыбранай хаце незнаёмая кабета, услед за Ляздзейкам шыбуючы ў другую палову, куды не дазваляў ён заходзіць нікому, апроч малодшага жраца і памочніка.

Дзяўчына не стала зазіраць у адтуліну ад ссохлага сучка, які выпаў і дазваляў часам глядзець у суседні пакой, хаця і карцела ўбачаць, адкуль паназірацць, хто ж прыходзіць на сустрэчу са жрацом і падказвае яму будучае. А калі б паўзіралася, то ўбачыла б толькі, як узяў Ляздзейка сярэбраны жбан і адліў адтуль вады ў дарагі шкляны спадак. Пасля ж, накрыўшы далонямі спадак, доўга стаяў над ім з заплюшчанымі вачамі. А калі адняў рукі і хацеў паклікаць кабету, зірнуў на спадак — і застыў на месцы, не зводзячы з яго вачэй. Доўга стаяў — даўжэй, чым пры малітве. А пасля выліў ваду, падышоў да жанчыны і папрасіў:

— Раскажы мне пра свайго мужа. Раскажы пра сябе.

І яна нечакана складна, расчырванеўшыся, пачала гаварыць пра воя-крывіча, які ўмыкнуў яе з селішча і жыў з ёю год. А пасля пайшоў у паход на крыжакоў і не вярнуўся. А яна накіравалася да родзічаў, ужо з сынам, але аднойчы ранкам, прачнуўшыся ў дарозе, не ўбачыла яго побач. Шукала, заблудзілася ў лесе, трапіла ў палон да татараў. Але і там усе гады імкнулася на радзіму. Нядаўна ўцякла адтуль, дайшла да Новагародка і селішча сваё знайшла, але пад час нядаўняга страшнага голаду апусцела яно так, што ўсяго дзве сям'і жывуць там, і ніхто не пазнаў палонніцу... Таму і прыйшла да вешчага чалавека, што кажа сэрца: жывы яе хлопчык...

І зноў не здзівілася Ляздзейкава ключніца, калі ён загадаў добра пакарміць старую і вечарам пакласці яе ў суседняй клеці, а таксама даць ёй добрыя лапці і цёплую кашулю. А Плотка, дзвынкаючы бранзалетамі, рыссю насілася па клеці, з ярасцю кладучы пад жабрачку пуховую пярыну, але не насмельвалася выказаць гаспадару свае думкі: ведала, якім шалёным бывае ў гневе, губляючы розум...

А ноччу Ляздзейка прачнуўся ад пацалункаў, якімі абсыпаў нехта ягоную руку, што звесілася з-пад цёплых шкур, і зоркі позірк яго адразу пазнаў, хто гэта.

— Я ранкам пайду адсюль, сынок,— шаптала жанчына.— Я не буду табе перашкаджаць, ніхто не пасмее кінуць табе ў твар, што ты дзіця простых, нязнатных... Мілае маё дзіця!

— Кладзіся, маці,— цяжка ўздыхнуўшы, прашаптаў жрэц.— Усё будзе добра...

Сонна мармычучы, стала паднімацца ад сцяны Плотка, але Ляздзейка моцнай рукой штурхнуў яе на ложак. Тады жабрачка нячутна паднялася і знікла, нібы растварылася ўначы.

А раніцай знайшлі яе мёртваю, толькі ўсмешка гуляла па жоўтым, але памаладзелым твары.

Пашапталіся навокал слугі, і нават нехта шапнуў самому Гедыміну, што паганскі біскуп, дзеля любові простых смердаў, нядаўна хаваў нейкую жабрачку і, кінуўшы ў вогнішча звярыныя кіпцюры, туды ж пхнуў сваю наложніцу, прыгажуню Плотку. Але пасмяяўся Гедымін, пажартаваў, што і ён цяпер будзе ўсіх надта настырлівых наложніц спіхваць у пахавальныя вогнішчы. Ды ніхто не сказаў — і мабыць, не ўбачылі самыя прыдзірлівыя вочы — пра жменьку попелу з вогнішча, якую вялікі жрэц Гедыміна з таго часу заўсёды насіў на грудзях...

[1] Крынічнік лекавы, або сухотнік лесавы.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ БЕЛАРУСАЎ

## «СТРАЛА»

Да нядаўняга часу даследчыкі каляндарна-абрадавай паэзіі адзначалі, што карагодная песня «Страла» («Ох, пушчу стралу ды па ўсяму сялу...») і абрады, звязаныя з ёй, былі абыдзены ўвагаю фалькларыстаў. Цяпер пра гэта ўжо не скажаш. Абрады ваджэння і пахавання «стралы» (коратка «Страла») аказаліся пад пільнай увагай як беларускага, так і ўсесаюзнага даследчыкаў.

Вызначана, што гэтыя абрады маюць ахоўна-засцерагальныя і магічна-аграрныя функцыі. «Страла» праводзілася ў канцы вясны пры аглядах азімага (на Вялікдзень, Юр'е, Ушэсце). Раёны распаўсюджання «Стралы» — Пасожжа, тэрыторыя паміж Дняпром і Прыпяццю, часткова Гомельская, Чарнігаўская і Бранская вобласці, супадае з вобласцю рассялення радзімічаў, часткова дрыгавічоў і вяцічаў (Барташэвіч Г. А.). Веткаўскі і сумежныя з ім раёны з'яўляюцца эпіцэнтрам сучаснага бытавання «Стралы», якая ўжо ўспрымаецца не як абрадавае дзеянне, а масавая вясёлая гульня. Асноўныя ж дзейныя моманты: збор удзельнікаў, ваджэнне карагодаў, шэсці радамі («танок») пад спеў песні, гульні, маскарады, качанне па полі, закопванне «стралы».

Што ж азначае «страла»? У пачатку трэба заўважыць, што гэтае слова ўпамінаецца ў народных казках, паданнях, калядных, купальскіх і вясельных песнях.

«Громнымі стрэлкамі» ў народзе лічыліся знойдзеныя камянёвыя тапары, молаты, коп'і, стрэлы, белемніты. Іх раней насіў чалавек на целе, вешаў жывёле («наузы»). «Стрэлкам» прыдавалася магічная сіла.

Расцёртую ў парашок «стралу» ўжывалі ў якасці лекаў, хавалі пад страху, каб не запаліў Пярун і г. д. Прымхлівае шанаванне камянёў было не толькі ў славянскіх народаў, а і ў многіх народаў Еўропы і Азіі. У Японіі «громныя стрэлкі» — райфуна-секі — прыпісваюцца нябеснаму вартавому (богу Тэнгю). У кітайскім і індыйскім фальклоры ўпамінаюцца вераванні ў боскае паходжанне камянёвых прылад. Беларускія археолагі сцвярджаюць, што «громныя стрэлкі» пачалі збірацца неалітычнымі плямёнамі.

Чалавек, забіты Перуном, лічыўся «святым», таму, мусіць, у песні і былі словы: «Забі, страла, добра молайца». Паводле вераванняў многіх славян пажар, выкліканы маланкай, трэба тушыць малаком. Той, хто знаходзіў «стрэлку», таксама лічыўся шчаслівым чалавекам.

Паступова адыходзячы ад эпіцэнтра бытавання, песня «Ой, пайшла страла» губляе прымеркаванасць да часу, наогул да абрадавай паэзіі. Нават выпадае ўпамінанне пра стралу; на аснове даўняга тэксту развіліся новыя самастойныя варыянты. У сувязі з рассяленнем беларускай песні «Стралы» знаходзяць нават у раёнах Далёкага Усходу. Абрад пахавання «сулы» не з'яўляецца асобным ад «стралы», бо сула гэта таксама «зброя» Перуна. (Суліца — кап'ё, рагаціна.)

Магчыма, што ў «Страле» праяўляюцца сляды язычніцкага культу не толькі Перуна, а і Ярылы. Некаторыя даследчыкі лічаць Ярылу богам, які ўвасабляў сабою аплаадняльную сілу Перуна, а маланку — «фалюсам грамавержца», які пралівае з неба «пладаноснае семя дажджу». Дарэвалюцыйны міфолаг А. Афанасьеў, з якім у гэтых адносінах пагаджаўся савецкі даследчык В. Проп, удакладняў: «Тады адбываўся знамянальны абрад пахавання Ярылы; адлюстраванне яго рабілася з вялікім мужчынскім дзетародным членам і лажылася ў труну». Таксама падобныя да «Стралы» абрады пахавання Купалы, Каструбанькі, Лялькі.

Сувязь «стрэлкі» з Ярылам (Перуном) відавочная. Таму і не выпадкова, што часта яна ўпамінаецца ў творах са шлюбнай тэматыкай, напрыклад, у купальскай песні:

**— Ляці, ляці, стрэлачка,**
**А ў зялёную дуброву,**
**На дубовую калоду.**
**— Суха будзіць — палячу,**
**Мокра будзіць — пасяджу.**
**— Аддай, Яначка, аддай**
**Сваю дочку Маланку...**

Культ «Стралы» выяўляецца ў тапанімічных назвах (Стрэліца, Стрэльская Горка, Вялікія Стрэлкі і інш.), у народным мастацтве (у вышыўцы, разьбе па дрэве). Названыя, далёка не ўсе, факты пралівают святло на разуменне «Стралы», але думкі, выказаныя тут, аўтар не лічыць ісцінай у апошняй інстанцыі.

■

Ніжэй падаецца запіс абраду, зроблены М. Каршуковым у в. Стаўбун і надрукаваны ў часопісе «Наш край» (1926 г.).

## ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ

У сяле Стаўбун Свяцілавіцкай воласці Гомельскага павета ёсць звычай пахавання стралы. Гэты звычай з'яўляецца заключным актам усяго веснавога цыкла звычаяў і песень.

...Цыкл гэты пачынаецца са Стрэчання (Грамніц) 15 лютага, калі, кажуць людзі, сустракаецца зіма з вясной. З гэтага дня дзяўчаты пачынаюць гукаць (клікаць) вясну.

Увечары ўсе вёскі звіняць ад песень.

**«Вясна наша, вясёлая-гу!...»**

Гукалі вясну да 7 красавіка. З гэтага дня пачыналася самая вясна, а з ёй новыя песні і гульні. Пасля полудня 7 красавіка ўсе дзяўчаты высыпаюць на вуліцу і, пабраўшыся за рукі, пачынаюць вадзіць карагоды.

**«Вуліца мала — дзевак не стала...»**

Карагоды водзяць да Ушэсця (40 дзён пасля Вялікадня) уключна. У гэты дзень дзяўчаты апошні раз водзяць карагоды. Павадзіўшы карагоды, яны бяруцца за рукі і доўгім шнурам цягнуцца ў жыта. Ідучы, пяюць гэткія песні (песні запісваў па вымаўленню):

*1 песня*

**А ідзі, страла, ды ўдоўж сяла.**
**Охі-ой люлі, ды ўдоўж сяла.**
(Прыпеў.)
**Ды ўдоўж сяла — упоперак вуліцы.**
(Пр.)
**Ой, не бі, страла, добра молайца.**
(Пр.)
**Па том молайцу некаму плакаці.**
(Пр.)
**Матка старынька, сястра малінька.**
(Пр.)
**Жана малада каля горада.**
(Пр.)
**Йдзе мамка плача, там рака цячэ.**
(Пр.)
**Йдзе сястрычка, там крынічка.**
(Пр.)
**Йдзе жана, шэльма, там расы няма.**
(Пр.)

*2 песня*

**Ў майго татачкі харашо жыці.**
(Пр.)
**Двор пад гарою, сад над ракою.**
(Пр.)
**Пусці, татачка, ў сад пагуляці.**
(Пр.)
**Не буду тваіх вішань шчыпаці...**

З гэтымі песнямі дзяўчаты прыходзяць у жыта. Там яны рассыпаюцца паасобку і кожная, хаваючыся, зарывае (закопвае) у зямлю якую-небудзь рэч: занізку (пацерку), пярсцёнак, каснік, тканку і інш. Часам за дзяўчатамі бегаюць хлопцы і шукаюць захаваныя рэчы. Вось гэта і называецца пахаванне стралы.

Цікава, што, ідучы назад, дзяўчаты ўжо не пяюць вясновыя песні. Пахаваннем стралы канчаецца вясняны цыкл. Пасля гэтага пачынаецца Граны тыдзень са сваімі песнямі...

**Падрыхтаваў Алесь ЛОЗКА.**

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

### ВЯСНОВЫЯ ПРЫКМЕТЫ

У небе паволі плывуць разрозненыя невялічкія кучавыя воблакі — будуць стаяць цёплыя ясныя дні.

Кучавыя воблакі не знікаюць, да вечара апускаюцца яшчэ ніжэй — перад дажджом.

Днём неба яснае, але да вечара зацягнулася воблакамі — перад пацяпленнем.

Вечарам неба чыстае, але каля месяца бачацца чырванаватыя і расплывістыя кругі ўвесну і ўлетку — перад ветраным надвор'ем, зімою — перад снегападам.

Увесну раптам месяц здаецца чырванаватым — да вялікага цяпла, магчыма, будзе навальніца з вялікім дажджом.

Сонца заходзіць у барвяна-чырвоную, пераліўную, мігатлівую зараніцу ўвесну — заўтра будзе халодны дзень з ветрам, магчыма, будзе і дождж.

Кошка цягнецца да вады і п'е болей звычайнага — перад непагаддзю.

Конь трасе галавою, закідвае яе ўверх — перад дажджом.

Авечкі стукаюцца адна з адною лбамі — перад моцнымі вятрамі.

Цецярук такуе ў непагодлівы ранак — надвор'е вось-вось наладзіцца.

Цецярук не такуе і не спявае — перад непагаддзю.

Вераб'і сядзяць нахохленыя ўвесну — перад дажджом, а магчыма, і снежнаю крупою.

Салаўі надзвычай моцна і галасна спяваюць пасля абеду і ўвесь вечар, у сярэдзіне ночы невядома ад чаго заціхаюць — перад дажджом.

Прыляцеў кулік з загор'я — вывеў вясну з паняволля.

Зязюля прыляцела на яшчэ голы лес — прадбачыцца неўраджайны год. Ранняя зязюля на палянцы — будзе голад.

Калі ўвесну запяе ўдод — сей боб.

Галкі беспярастанку лятаюць гайнямі і крычаць увесну і ўлетку — перад дажджом.

Гусь лапу падціскае — снег на траву выпадзе, перад рэзкім пахаладаннем.

Пчолы зранку дружна лятуць за ўзяткам — дзень будзе прыгожы. Пчолы ўранні цягавіты — дзянёк будзе працавіты.

Кветкі белага гарлачыка расчыніліся а сёмай — восьмай гадзіне раніцы, зачыніліся а пятай гадзіне вечара — заўтра будзе гожае надвор'е, калі зачыніліся раней — праз дзень — два пойдзе дождж.

У сонечны дзень кветкі дзьмухаўца зачыніліся — перад дажджом, калі нават у пахмурнае надвор'е адкрытыя — дажджу не будзе.

Адквітнелы дзьмухавец у сухое надвор'е лёгка раскідвае свае пушынкі, а калі ён склаў парасончыкам і іх не можа адарваць нават моцны вецер — дождж блізка.

Кветкі жоўтай акацыі моцна пахнуць — перад дажджом.

Як асінка затрасецца, тады волік напасецца.

Ранні пар родзіць пшаніцу, а позні — мятліцу.

Калі на Юр'я (6 траўня, мая) раса — не трэба каням аўса, на полі травы назбіраюцца.

На Міколу (22 траўня, мая) няма травы ў полі, каб магла наесціся карова і конь,— год будзе надта галодны, неўраджайны.

### ПРЫКМЕТЫ ЎСТОЙЛІВАГА ЯСНАГА НАДВОР'Я

Некалькі дзён атмасферны ціск не мяняецца альбо ледзь-ледзь павышаецца.

Увесну — удзень цёпла, улетку — удзень горача, ноччу — прахаладнасць. Зімою — ноччу мароз, днём ён слабее.

Ноччу ціха, удзень вецер, да вечара ён сціхае. Да поўдня вецер паварочвае да сонца, пасля поўдня — супраць сонца.

Неба яснае і бязвоблачнае альбо пакрыта нерухомымі воблакамі высокага яруса, гэтыя воблакі растаюць да поўдня. Увесну і ўлетку з'яўляюцца кучавыя воблакі, рухаюцца па ветры, да вечара растаюць.

Вечарам і ноччу выпадае густая, шчодрая раса, раніцою хутка высыхае.

Вечарам у лагчаках і нізінах збіраецца туман.

Зараніца пунсовая і залацістая. Дым узнімаецца ўверх слупам. Ноччу мароз, днём слабее.

**Валер САНЬКО,**
**Віктар ШОМАДЗІ.**

**Рыгор СІТНІЦА.**
**Страла.**


А ідзі, страла,
ды ўздоўж сяла
Охі-ой люлі
ды ўдоўж сяла.
Ды ўдоўж сяла—
ўпоперак вуліцы
Охі-ой люлі
ўпоперак вуліцы.
Ой ні бі, страла
добра молайца
Охі-ой люлі
добра молайца
Па том молайцу
Некаму плакаць
Охі-ой люлі
Некаму плакаць.

У 1970 годзе на адной з Усесаюзных выстаў увагу гледачоў прыцягнула карціна Васіля Сумарава «Мой дом». Дом, у якім нарадзіўся і вырас мастак, паказаны незвычайна яркім, сонечна-чырвоным. Тут усё насычана дакладнымі дэталямі гарадскога быту, якія бачыў дапытлівы позірк дзіцяці і мастака. Гэтае палатно стала пунктам адліку творчай біяграфіі заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Васіля Сумарава.
Будучы мастак нарадзіўся ў Мінску ў 1938 годзе. Пасля студыі выяўленчага мастацтва пры чыгуначнай школе паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча, а скончыўшы яго,— у БДТМІ на аддзяленне жывапісу. Гады вучобы супалі з ажыўленнем у рэспубліцы грамадскага жыцця. Ад смелых імкненняў, пошукаў не быў убаку і В. Сумараў. Яго дыпломная карціна «Плытагоны», серыя работ, створаныя пад уражаннем ад паездак у Ленінград і Карэлію, засведчылі, што ў беларускае мастацтва ідзе таленавіты, неабыякавы да лёсу людзей чалавек. Адна за адной з'яўляюцца новыя работы, у якіх мастак паказвае родны горад і яго жыццё. Назвы карцін гавораць самі за сябе: «ЦЭЦ-2», «Раніца, «Іней», «Нядзеля», «Вяртанне», «Пісьмо», «Лікбез», «Вяселле».
Мастацкай індывідуальнасці В. Сумарава ўласцівы творчае пераасэнсаванне традыцый народных карцін і мініяцюр, шматсюжэтнасць і кампазіцыйная складанасць твораў, дэкаратыўнасць колеру. Не могуць пакінуць абыякавым гледача такія карціны, як «Сказ пра Навагрудак», «Зямля маці», «З веку ў век», «Абуджэнне», «Маўклівасць». Трывога за зямлю, за гістарычнае мінулае і будучае роднага краю надае гэтым палотнам лірыка-эпічнае гучанне.
Сёння Васіль Сумараў госць нашага вернісажу.



● І гэтым часам раскалолася неба.

● Легенда аб Навагрудку.

● Зацьменне.

● Сказ пра Заслаўе.




● Міхаіл САВІЦКІ. Відушчы. 1989.
Чарнобыльскі цыкл.



Мар'ян
ВІЖ

# ЗДАРЭННЕ НА ВІЛЕНСКІМ ТРАКЦЕ

(Пралог гісторыка-прыгодніцкага рамана) *

**Апошнім часам сярод чытачоў узнялася хваля цікавасці да беларускай гісторыі. Добра азнаёміўшыся з жыццём французскіх каралёў і англійскіх піратаў, уволю паблукаўшы па далёкіх прэрыях і джунглях, нашы людзі, што сябруюць з кнігай, як бы раптам схамянуліся: «А якое жыццё было на берагах Свіслачы і Нёмна шмат гадоў назад! Аб чым марылі продкі! Як гаварылі і апраналіся! Як валодалі баявой зброяй і, прабачце, цалаваліся!» Вядома, што Дзюма альбо Друон не адкажуць на гэтыя пытанні і справа, такім чынам, стаіць за мясцовымі літаратарамі. Яны, хоць пакуль і не дужа вялікімі порцыямі, пачынаюць спатольваць заканамерны чытацкі голад. Прыгадаю, да выпадку, імёны Вольгі Іпатавай, Таісы Бондар, Уладзіміра Арлова, Алега Лойкі, Генрыха Далідовіча, Кастуся Тарасава... Адзін мудры чалавек сказаў: «Нельга перарабіць, нельга пераправіць гісторыю, але яе можна перадумаць». Перадумваннем (у самым станоўчым сэнсе!) беларускай гісторыі заняўся і Мар'ян Зайцаў. Гэта яшчэ параўнаўча малады, таленавіты чалавек. Нарадзіўся ў Мінску, скончыў гістарычны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар публіцыстычных артыкулаў і нарысаў аб гарадах Беларусі, аб гераічным мінулым нашага краю. У прыватнасці, яго вельмі цікавіць Беларусь часоў паўстання Кастуся Каліноўскага. Увазе чытачоў часопіса прапануецца ўрывак з гісторыка-прыгодніцкага рамана, у якім Мар'ян Зайцаў паказвае, на мой погляд, усе свае станоўчыя рысы: добрае валоданне гістарычным матэрыялам, жывую мускулістую мову, займальнасць, глыбокую любоў і павагу да нашай мінуўшчыны.**

**Леанід ДАЙНЕКА.**

У ТОЙ ГОД, ЯК НІКОЛІ, урадзіліся нівы. Калі пад Ашмянамі верхам збочвалі з тракту, густыя сцёблы пругка шлёгалі людзям па лытках, а чубатыя коні хаваліся ў жыце амаль па самыя грывы. Скінецца выпадкам у полі саламяны брыль — не зарыецца носам, застыне ў пухкай, хвалістай гладзі тугіх каласавых макавак.

Ані хмаркі на небе. Сонца ж паліла нястомна, прыносячы спеласць ужо да краёў налітай, дзівосна-спакойнай хлебнай раздольнасці... Раставалі спякотай светлыя дні, звонкія тыдні. Важкія каласы перастойвалі, адзін за адным бяссільна схілялі галовы і дзе-нідзе абсыпаліся. Адборнае зерне з жалобнай пакораю залатымі слязамі капяжыла дол.

Бязлюдныя ланы рэзалі вочы ўсім, хто ехаў звілістым Віленскім трактам. Ніхто не пытаўся, усе ведалі, што ўжо з месяц як павет узрушыла чутка: на Спаса абвесцяць, нарэшце, паперу аб волі, якую цар дараваў яшчэ перад веснавым Міколам, але паны наўмысна схавалі цароў указ. З маёнткаў пасыпалі градам скаргі ў Вільню, вымогі прысылаць на пастой салдат-карнікаў. Пакуль губернская Вільня гуляла ў маўчанку, па вёсках гвалтам секлі прыгонных, садзілі ў зачын. Але сытыя гоні ўсё роўна без дыму гарэлі, марнелі ў адчайным чаканні жанцоў. Чапурыстае панства на драбок адступіла: дахаты пусцілі зняволеных, заманьвалі люд у шынкі дармовай гарэліцай.

Нязменна жорсткую лінію ўпарта гнуў адзін Фларыян Прозар. Ён нібы ў ваду паглядзеў, бо дамовіўся загадзя з некім, каб прывезлі найміттаў у панаў маёнтак Гудзішкі. Ціха ў цэлым павеце, а тут спорна кіпіць, рознагалоса гамоніць работа. Хай здохнуць са злосці цюхці-суседзі! Тады ягамосці-гаспадар загадаў: «Душ трыццаць адабраць на залог. Схаваць, зашчапіўшы калодкамі, у зэглі каменным. Трымаць, як біблейскіх нявольнікаў, на голай вадзе, каб астатнія хлопы ў акрузе са страху зламаліся самі!».

Крутыя Фларыянавы сродкі маглі адгукнуцца бядою — вогненным пеўнем у маёнтку, а то і забойствам памешчыка. Але рызыкуючы, ідучы напралом, пан Прозар ведаў, што робіць. Куды мецiць ён, не лічылася асаблівым сакрэтам: са скуры вылузваецца, каб усе бачылі, што гудзішкаўскі пан — чалавек самы смелы, самы цвёрды ў павеце. Далей, як па масле: сарваўшы дружныя воплескі з Вільні, пан са спакойнай душою сябе выставіць на выбарах прадвадзіцеля.

Ніхто не здагадваўся нават, што не давала жыцця Фларыяну зусім не гэта — усім зразумелая, зрэшты, не вельмі ж высокая, празаічная мэта. Не, сёння яго захапіла куды больш сур'ёзная, зорная мара. А ціхае месца маршалка ў Ашмянскім павеце — толькі разбег, чарговы і, падкрэслім, не першы да мары той крок...

Каб разабрацца, у чым жа ўсё-ткі тут справа, глянем з увагаю на Прозара Фларыяна, які, сапраўды, меў рэзоны да часу хаваць надта многае. Перш-наперш — агульны партрэт, сціснуты ў форму банальнай паліцэйскай даведкі.

«Адстаўны калежскі саветнік з патомных дваран Фларыян сын Карлаў Прозар — уладальнік па спадчыне маёнтка Прошын (76 душ у Ашмянскім павеце). Узрост — 58 гадоў, праваслаўны. Сваякоў па паходжанні, наколькі вядома, не мае. Днямі Дэпартамент Герольдыі зацвердзіў яму родавы герб — двухногі калматы мядзведзь з прыціснутай да пляча булавой.

Прыкметы асобыя: 1. На левай шчацэ, ніжэй вуха — пігментная цёмная плямка памерам у манетку. 2. Пры вымаўленні галосных «а», «у» крыху заікаецца.

Скончыў універсітэт у Вільні. Служыў у класных чынах, за што ўзнагароджаны поўным пенсіёнам ад казначэйства. У другім шлюбе з мінулага года (першая жонка Травіна Кацярына ўжо тры гады як памерла). За другой жонкай, патомнай дваранкай Жалігоўскай Ксаверыяй (узрост 28 гадоў) у пасаг атрымаў маёнтак Гудзішкі (725 душ у Ашмянскім павеце, 16 вёрст ад павятовага горада). Ёсць чуткі, што гэты Прозараў шлюб несапраўдны, фіктыўны, бо пані Ксаверыя — зацятая англаманка — па-ранейшаму дзівіць і пудзіць навакольных суседзяў. Напрыклад яна, апранўшыся амазонкаю, без усякай патрэбы часта гойсае верхам дзе толькі хоча. Ці да твару такое даме шляхетнай з добрымі сродкамі? Зрэшты, хай сам п. Прозар трымае жонку ў руках, бо грамадская ганьба зараз яму, безумоўна, нашкодзіць. Чалавек ён спакойных паводзін. Палітычнымі спекуляцыямі, рознымі іншымі падазронымі справамі (не ў прыклад многім нашым дваранам) не займаецца. Ёсць падставы лічыць, што пільнуецца добранадзейнага светапогляду. Ён — найбольш верагодная, найбольш падыходзячая асоба, каб атрымаць вакансію прадвадзіцеля на будучых выбарах у Ашмянах».

Як бачым, даведка без плям, ледзь не ўзорна-крыштальная. Дык што ж усё-ткі старанна ўтойвае пан Фларыян? Сам ён, безумоўна, не скажа нічога. З тупіка адно выйсце — дзённік гэтага пана. Мы без дазволу зазірнём адным вокам туды. Але гарантуем, па-першае: апускаючы лірыку і розны пікантны інтым, цытаваць адно тое выключна па сутнасці справы, што крышку натоліць зразумелую нашу цікаўнасць. І, па-другое: дзённік усё роўна праз тыдзень згубіць сэнс для шаноўнага Прозара. Пасля ж здарэння на Віленскім тракце (яно ўжо блізка) паперы, як ні круці, непазбежна будуць прачытаны іншымі.

**ЗНАЧЫЦЬ, ДАМОВІЛІСЯ:** неўзаметку бяром гэты дзённік. З чаго ж пачынаць?.. Ну, ружовыя ўспаміны аб маленстве пакінем, як кажуць, для іншай гісторыі. Праляцім у два скокі па далейшых старонках, прысвечаных рамантычнай гімназічнай пары... А тут вось, бадай, спынімся: «...сябры дакараюць мяне за абыякавасць да т. зв. гарачых грамадскіх праблем. А што рабіць, калі я ў душы манархіст і ў студэнцкай кампаніі нашай выглядаю белаю варонаю? Заняцца чымнебудзь, ці што?.. Адзін немец-прафесар параіў узяцца за збор старадаўніх манет Літвы і Кароны, вывучаць геральдычныя сімвалы — пячаткі і гербы, каб разабрацца хоць неяк у заблытаным павуцінні шляхецкай генеалогіі краю. Гэта тое, здаецца, што трэба. А, галоўнае, справа забярэ ўвесь вольны час і я засланюся, нарэшце, хоць нечым ад бясконцых папрокаў...».

Чарговаму запісу мы, як, несумненна, і аўтар, надаём значэнне выключнае, бо менавіта адсюль якраз усё пачалося: «...Дзіўна, у старых дакументах я ніводнага (!) разу чамусьці не стрэў свайго ўласнага прозвішча!? Недарэчнасць: паны Прозары не жылі, як быццам, ніколі ў Вялікім княстве Літоўскім. Гэта кідае ў роздум, бо сам жа чытаў (яшчэ напярэдадні ўступлення ў службу) даведку, дасланую губернатару не адкуль-небудзь — з самой сенацкай Герольдыі: «Фларыян Прозар — патомны дваранін са спадчыннай нерухо-



* Друкуецца са скарачэннямі.

масцю, уладальнік маёнтка з сялянамі пад назваю Прошын». Трэба ехаць у сталіцу, спрабаваць што-небудзь высветліць. Сэрцам чую: за ўсім гэтым нешта схавана».

А вось што пакінуў у дзённіку ён пасля вяртання ў Вільню (пан, відаць, хваляваўся, бо літары хістаюцца і нават сям-там ходзяць ходырам): «Гутарыў з кім толькі можна, але ўсе безудзельна пацiскалі плячыма. Толькі ў Сенаце, падняўшы паперы, далі адказ, які змусіў наваструшыць вушы: «Вы,— кажуць,— маеце рацыю. Прозар — надзвычай рэдкае прозвішча, якога сёння не знойдзеш у кнігах дваранскіх па ўсіх расійскіх губернях. У Віленскай — вашай — яно названа аднойчы: гэта вы самі. Тут, бясспрэчна, нейкая таямніца... А продкі Карла Прозара — вашага бацькі — у мінулым стагоддзі займалі ў суседняй з Расіяй дзяржаве пасады ваявод і вялікіх абозных літоўскіх, куды маглі ўзлезці персоны выключна блакітнай крыві. На гэтых падставах Карл Прозар і атрымаў без замінак высокую годнасць дваранiна Расійскай імперыі... Шукайце самі, вы ж маеце веды і вопыт. Да нас часам прыходзяць з такімі адкрыццямі, што дзіву даешся...».

Што ж, трэба шукаць...»

Фрагмент наступны. Першае слова — буйнымі літарамі: «Есць!!!». Ніжэй — тлумачэнні: «У архіве іўеўскіх графаў Замойскіх адкапаў я сумарыюш з поўным зместам сакрэтных указаў Аляксандра I — самага загадкавага, незразумелага з рускіх цароў. Маю ўвагу прыцягнуў дакумент ад 21 лістапада 1801 г. Там манарх, што толькі-толькі заняў імператарскі трон, загадваў барону Лявонцію Бенігсэну дазволіць асобам, «якім у межы расійскія ўезд быў забаронены, вяртацца ў свае маёнткі, жыць надалей, дзе яны пажадаюць, нароўні з астатнімі падданымі нашымі». Сярод васьмі прозвішчаў пятым стаяла — памылкі няма! — Карл Прозар. Але ж нават не тут схавана галоўнае. Чаго варты асобы, разам з якімі бацька вяртаўся ў Расію! Дастаткова назваць яснавяльможнага Міхайлу Агінскага — былога літоўскага казначэя-падскарбія, сябрука самога Аляксандра I, ці поўнага генерала Міхайлу Забелу, графа Антонія Тызенгаўза, прозвішчы іншых тузоў, каму хочаш вядомых магнатаў. Трапіць у адну кампанію з імі толькі праз тое, што нейкія бацькавы продкі былі раней ваяводамі? — Не! Тут нешта іншае, але што?»

Перагорнем старонку, працягнем знаёмства з дзённікам Прозара: «...Мне яшчэ больш паддаў жару інтрыгуючы бацькаў ліст да захавальніка архіваў Клецкай ардынацыі кн. Радзівілаў п. Людвіка Солтана, які ў 1798 г. чамусьці зацікавіўся таямнічай гісторыяй нашага роду.

«Шаноўны Пан Людвік,— азваўся бацька з Парыжа,— наш род, сапраўды, вельмі даўні. Яго карані — у летапіснай Русі часоў Рурыкавічаў. Але прозвішча Прозар у летапісах ніхто і нідзе не сустрэне ніколі.

Акрэсліць графічна сваё генеалагічнае дрэва я, Пан Солтан, права не маю, бо звязаны клятваю на Евангеллі. Скажу толькі: адна слаўная галіна майго выдатнага роду адпала аж у XVI стагоддзі і людзі дагэтуль упэўнены, што мы перавяліся зусім. Дадам, князі Празароўскія не маюць да нас дачынення, адно падабенства ў гучанні да нашага штучнага прозвішча. Калі ж Вам карціць разгадаць гэты рэбус, я падкажу: ключ — у даўнім статусе маёнтка нашага Прошына і ў нашым фамільным гербе».

Замест подпісу чарнеў адбітак асабістай пячаткі з пярсцёнка: калматы двухногі мядзведзь, што ў кіпцях лапы пярэдняй трымаў, быццам пальцамі, нейкую рэч, якая збольшага нагадвала булаву.

Бацькавы словы, натуральна, п'янілі, не выходзілі з сэрца. Астыць, каб усё ўзважыць, я змог толькі праз месяц. Атрымалася прыкладна так: 1. Паходжанне Прозараў — вялікая, за сямю пячаткамі таямніца; 2. Бацька ведаў, безумоўна, усё, але, баючыся чагосьці, як мог, хаваў факты».

Доўгі час Фларыян не чапаў свайго дзённіка. З той простай прычыны, відаць, што ў рукі да пана не трапіла нічога новага, свежага, вартага аналітычнай увагі.

**НАРЭШЦЕ, ЧАРГОВЫЯ ЗАПІСЫ.** Даруйце, цытаваць пачнём з лірыкі: «Бягуць, як аблокі на небе, гады. Я ціха служу, расту ў чынах, памнажаю калекцыі, сівею, год ад году старэю. Былыя знаёмцы часцей і часцей міма праходзяць, бо не сёння-заўтра — адстаўка. Не надаў я нават значэння скараспеламу ўласнаму шлюбу, як і таму, што жонка неўзабаве памерла... Што зробіш, служба, калекцыі, асабістыя справы — усяго толькі шыльда, а мо і заслона, не болей. Даўно фантастычна валодае мною нязменная мара: знайсці, дакапацца. Яна адна — зорка, у параўнанні з якою астатняе ўсё — пустэча і тлум. Кожную ноч у магнетычным тумане халодная зорка нязменна прыходзіць у снах і патрабавальна шэпча на самае вуха: «Шукай, Фларыян мой, шукай! Ты знойдзеш, шукай!».

Здаецца, перапароў я ўжо ўсё, што толькі можна, а ўсцешыцца няма, па сутнасці, чым. Праўда, пачало высвятляцца наконт майго Прошына, але ж і новых загадак з'явілася больш, чым сціплых адкрыццяў. Было так.

Трапіла выпадкам копія граматы Вялікага князя Літвы Аляксандра, датаваная месяцам траўнем 1495 г., дзе паселішча Прошын (мой Прошын!) у Ашмянскім павеце навечна адпісвалася нейкай важнай асобе з умоваю, каб надалей гэты маёнтак атрымліваў у спадак старэйшы сын уладальніка. Але ж хто той уладальнік? Туман! Паведамлялася скупа, што сакрэтнае прозвішча вядома аднаму Эразму Вітэліусу — «пану вялікакняжацкаму пісару, каноніку і дарадцу бліжэйшаму нашае з Божай ласкі гаспадарскай мілосці».

Я разгубіўся, запаліў кандэлябры, стаў чамусь разглядаць добра знаёмую, падрабязную карту Вялікага княства, выдадзеную яшчэ ў 1613 г. Фамою Макоўскім у Амстэрдаме. Позірк мімавольна спыніўся на родным Ашмянскім павеце. На дзіва, побач з Ашмянамі я ўпершыню прачытаў: «Прошын». А збоку знаходзіўся нейкі загадкавы знак: трохкутнік з абсечаным верхам. У заўвагах да карты я ледзь разабраў дробны шрыфт: «Прошын — маёнтак, які з ласкі пана Літоўскага гаспадара атрымаў надзвычайны статус».

Неверагодна! На карце суверэннай, агульнапрызнанай еўрапейскай дзяржавы не знарок жа пазначаны зусім невялікі маёнтак...»

Ніжэй — кароткі абзац. Ён дазваляе выказаць заклапочанасць станам псіхікі нашага аўтара: «Другі месяц за мною нібыта нехта ўважліва сочыць. Мая карэспандэнцыя прыходзіць ужо некім, безумоўна, прачытаная. А ў маім дамавым архіве ў Вільні хтось крадком заглядаў у паперы. Дзякуй Богу, да дзённіка не дабраўся, халера... Ратуй, Божухна!! Знікла тая самая жоўтая папка, куды я рупна збіраў плён доўгіх, напружаных пошукаў! Відаць, настала пара развітацца з жыццём. Вось дзе ўздрадуецца, мусіць, мая маладзенькая новая жонка...».

Не хваліцейся, гэтым разам абыдзецца, Прозар застанецца жыць, бо ў дзённіку яшчэ ёсць непустыя старонкі. І якія старонкі! Яны дапамогуць шмат што раскусіць. Праўда, ізноў пачынаць мы змушаны з лірыкі, але дзе ж вы чулі што без яе? Так і тут.

«Паміж мною і пані Ксаверыяй,— кладучы руку на сэрца, занатоўваў Фларыян у маі бягучага, 1857, года,— ляжыць гулкая далеч, адлегласць аж у цэлых трыццаць гадоў. Ну і няхай. Думкамі пані я не цікаўлюся. Бачымся толькі за чынным, маўкліва-салонным сняданкам, дзе нам падаё ў белых пальчатках гэты ёлупень Готліб, чужынец з берагоў Альбіёна. Здаецца, ён сапраўды разумее сваю адну англійскую мову (я з ім размаўляю на мігі), але ж сочыць, халера, за мною, не адступае, як цень... У шлюб я ўступіў, бо да зарэзу спатрэбіліся грошы, на голы мой пенсіён не разгонішся надта (не гандляваць жа калекцыямі). А далейшыя пошукі забяруць, як піць даць, безліч сродкаў».

З чарговай старонкі — выключна «зорныя» запісы.

«Слядоў жоўтай папкі няма! Ад безвыходнасці проста падаю з ног, хоць у сваім віленскім доме я абшукаў скрозь усё. Думаю, што звар'яцею, але адна падзея, нарэшце, адкрыла мне вочы... На Троіцын дзень запрасіў мяне начальнік знаёмы па Вільні (прозвішча даверыць паперы баюся, бо нельга быць рызыкантам шчаслівай парою, калі, быццам у казцы, збываюцца яшчэ ўчора нязбытныя мары). Фантастыка: амаль усё — залпам, і за кароткі, як бліскаўка, міг! Жудасць бярэ, як згадаю... Але, па парадку. Вось схема нашай гаворкі і скарочаны наш дыялог.

Мы павіталіся, гаспадар кабінета моўчкі падаў стос старых дакументаў. З першага погляду я ацаніў: не падробка, не ліпа. А ён змоўніцкім тонам пачаў:

— Выкладзем карты на стол! Ваш інтарэс супадае з нашымі мэтамі. Мы даўно прыглядаем за вамі, нават апякаемваспана, як, дарэчы, у свой час апякалі Карла Прозара — вашага бацьку...

— Хто гэта «мы»? Як разумець словы пана?! — перарваў я з цікавасцю.

— Мы — вольныя муляры, ці франкмасоны. У сваім сакрэтным супольніцтве я маю вышэйшы градус вялікай ложы-маткі «Чорны арол».

— Але ж вы забаронены яшчэ чвэрць стагоддзя таму. Людзі, даруйце за шчырасць, завуць усіх вас «паскуднымі фармазонамі», што ў іх вуснах роўнае д'яблу! — не вытрываў я.

— Памылка праз невуцтва, праз цямноту. Я назаву шэраг выдатных муляраў. Ну, хоць бы, скажам, сусветна вядомы Вальтэр, а з рускіх — Суувораў, Радзішчаў, Павел I, Пушкін, Песцель ці Бенкендорф. Замест кроплі апошняй — вось, калі ласка, распіска Карла Прозара пры ўступленні ў ложу,— і сунуў мне ў вочы няроўны кавалак блакітнай паперы, пазначанай знаёмай пячаткай з мядзведзем унізе...

**Я ПРОСТА ЗНЯМЕЎ.** Ён тым часам працягваў наступ:

— Калі вы згодны прадоўжыць гаворку, я адкажу на пытанні, што хвалююць васпана аж тры дзесяткі гадоў, падмацаваўшы словы свае дакументальнымі доказамі. Яны перад вамі,— і ткнуў сухім пальцам на кіпу старадаўніх папер.— Маўчанне я разумею як згоду. У вас ёсць падставы лічыць, што гісторыя Прозараў — вялікая таямніца, вядомая вашаму бацьку. Вы нямала паспелі сабраць на карысць сваёй версіі, але ў руках маеце адны няпэўныя здагадкі. Мы дапаможам вам, пан Фларыян, дашукацца да праўды,— пафасна ціха ён, дастаючы з шуфляды знаёмую мне карту Макоўскага. Падвёў аловак да кропкі, пад якой напісана «Прошын».— Глядзіце! Ключ схаваны вось тут. А, дакладней, ключ — гэты знак, што стаіць перад назвай маёнтка ў дадатку да карты. Згадайце: заглавачная літара «А», ужытая без вастрадзюбага верху. Гэта ж, між іншым, герб асабісты з божай ласкі Аляксандра Ягелона — вялікага князя Літвы, караля Польшчы, Казіміравага сына... Праглядзіце паперы, што перад вамі!

Б-р-р! Ужо з першых радкоў мяне затрэсла, кінула ў пот, кроў застукала ў скронях, манокль дзынкнуў аб стол, бо выпаў з вачніцы, пальцы слабелі, і я страціў прытомнасць... Вярнуўся ў жыццё ад рэзкага, моцнага паху: гаспадар мне спалохана соваў пад нос мензурку з нейкімі кроплямі. Перачакаўшы хвіліну-другую, ён узяўся тлумачыць:

— Раней вы знайшлі копію, ці скарочаны варыянт аднае Аляксандравай граматы за 1495 год, дзе сцісла, без прозвішчаў гаворыцца пра статус вашага Прошына. А зараз змаглі азнаёміцца з поўным гэтым жа тэкстам караля і вялікага князя. Спадзяюся, пазналі руку пана пісара Эразма Вітэліуса?

Ашаломлена міргаючы вачыма, я ледзь выціснуў: «Так...». А ён са спагадай працягваў:

— Вы, магчыма, не ўсё зразумелі як след. Таму перакажу. Слухайце! У нашай грамаце Аляксандр Ягелон на векі вякоў запісвае нічым непрыкметны ашмянскі маёнтак пад назваю Прошын за нашчадкамі свайго кроўнага брата — шостага, малодшага Казіміравага сына, прымаса Польшчы, кардынала і біскупа ў сталічным кракаўскім біскупстве — Фрыдэрыка. Тут жа гаворыцца, што яго вялебнасць пан біскуп атрымаў з Рыма канфідэнцыяльны дазвол папы Аляксандра VI Борджыя пераступаць цэлібат, бо належыць да слынная, адной з самых уплывовых і знатных дынастый ва ўсёй хрысціянскай Еўропе. Хлопчыкам — дзецям біскупа — загадана надалей мець псеўданім «Прозар», ад старога французскага слова «proche (s)» — родныя, блізкія. Жыць ім трэба сакрэтным парадкам за межамі Вялікага княства, каб іх ніколі, як падкрэслена ў дакуменце, «не карысталі ў сваіх дамаганнях ворагі нашай патомнай ад Пана Бога ўлады». Прозарам зацвярджаўся родавы герб: стары знак шляхецкіх харугваў Ашмянскай зямлі — калматы мядзведзь, але ўжо са скіпетрам — сімвалам дадзенай Богам царскай улады... Калі сумняваецеся, праверце пячатку-васкоўку пісара канцылярыі вялікага князя Эразма Вітэліуса. Яна на другім дакуменце, за апошнімі лацінскімі літарамі, закрытая тонкай паперай-кустодыяй...

— А мне ж раней здавалася, што на бацькавым гербе ў мядзведзевай лапішчы звычайная булава,— прастагнаў знясілена я і, баючыся сваёй дзёрзкай смеласці, спытаў няўпэўнена: — Дык няўжо, ваша чэсць, я — апошні на зямлі Ягелон???

— Жывуць Ягелоны, бо вы — праўдзейны, хоць і адзіны цяпер Ягелон! Паводле ж знат-

насці, даўнасці з Ягелонамі — раней Вялікімі князямі Літвы, якая ёсць самы цэнтр, геаграфічнае сэрца Еўропы, Ягелонамі — каралямі Польшчы, Угоршчыны, Чэхіі — зараз могуць спаборнічаць адны, бадай, Габсбургі... Я разумею, у такое адкрыццё паверыць адразу няпроста. Цяпер, калі ласка, бярыце люстэрка. Паглядзіце ўважліва!

Я няўцямна зірнуў на свой твар. У люстэрку, як быццам, з'явілася нешта велічнае і непадступнае. А ўсё ж я сказаў:

— Тут, пане мой, не прачытаеш нічога.

— Памыляецца ваша светласць,— ён запярэчыў.— Звярніце ўвагу на радзімую плямку пад вухам. Дзесяткі бясспрэчных крыніц прама пішуць, што літаральна ўсе Ягелоны хадзілі пад богам якраз з гэтай боскай адзнакай. Ці яшчэ, вы, даруйце, з пэўнай цяжкасцю вымаўляеце асобныя літары, і гэта таксама прыкмета вашага выдатнага роду. Звяжыце ўсе доказы ў пук — вось вам адказ...

— Што ж будзе далей? Я, самі бачыце, немалады, хваравіты. Няўжо зраблюся апошнім з усіх Ягелонаў? — выпаліў я, раптам угледзеўшы зблізку тую высокую зорку, якая зараз мне пасміхалася і нават блазнавата падміргвала.

— Што будзе, хай тое і будзе: на ўсё воля боская. Але ёсць варыянты, становішча не безвыходнае. Перш-наперш, мяркую, што вам неабходна зацвердзіць у Герольдыі ваш адвечны родавы герб. І, не спыняючыся ні перад чым, стаць хоць бы, напрыклад, маршалкам у Ашмянскім павеце. Пасля спакойна падайце хадайніцтва аб прызнанні за вамі тытула князя... Даруйце, мушу адкрыць вашай светласці, што нам вядомы э... э... асобныя акалічнасці вашага шлюбу з Ксаверыяй Жалігоўскай. Мяркую, няма неабходнасці, каб яна нарадзіла вам сына, бо сын у вашай светласці ўжо ёсць!

Што гром з ясных нябёсаў! Дальбог, пачуй і памры! А пан той, перачакаўшы, даў зразумець: ён не трызніць:

— Не дзівіцеся, першы шлюб ваш з пані Травінай найсакрэтнейшым чынам падрыхтавалі і зладзілі мы — **браты вольныя муляры. Мала хто ведае, што Травіны вядуць радавод ад славутых Рурыкавічаў, бо даўно страцілі тытул і зусім небагатыя. Для нас з вамі галоўнае зараз, даруйце, у тым, што Кацярына Травіна менш чым праз год пасля вянчання памерла, а свае апошнія месяцы лячылася далёка-далёка адсюль. Ці не магла яна за мяжою нарадзіць вашай светласці сына? Скажу болей: ёсць у вас сын, якому якраз чацвёрты гадок. Мы ўжо намецілі аднаго ў кандыдаты, выбраўшы з многіх дзесяткаў хлапчука-сіраціну ў далёкім адсюль царкоўным прытулку. Ён, дарэчы, знаходзіцца зусім побач з месцам, дзе якраз лячылася Кацярына. Вам застаецца распачаць афіцыйныя пошукі «сына». Дэталі ўзгоднім пазней.**

— Але ж, як можна! — узвіўся я з месца.— Сможна невядома каго абвяшчаць Ягелонам!!!

— Супакойцеся, ваша светласць. Вы, мабыць, знаёмы з сюжэтамі, паводле якіх раскручваюцца падобныя справы. Возьмем для прыкладу хоць бы нашых Раманавых. Цяперашніх рускіх цароў знаўцы даўно справядліва завуць не інакш, як нямецкімі Гальштэйн-Гаторпскімі. А калі разабрацца бліжэй, дык ад баяраў маскоўскіх Раманавых, як і ад тых чахлых швабскіх князькоў з іх лялечнымі, наскрозь фальшывымі тытуламі і мікраскапічнымі княствамі, памерам менш за адзін сярэдні расійскі павет, у сённяшніх псеўдараманавых ніводнай крывінкі няма...

Ён аддыхаўся хвіліну-другую, распаліў люльку і вярнуўся да гутаркі:

— Між іншым, аўтар, безумоўна, вядомага вам друкаванага радаводу па гісторыі лепшых родаў нашай дзяржавы, князь Пётр Далгарукаў мае ў руках неабвержныя факты на карысць гэтай версіі. Ён збіраецца пусціць іх у свет за мяжою. Уяўляеце, які атрымаецца выбух! А мы свае Ягелонавы справы якраз прымяркуем да той самай пары. Так што, ці важна, хто бацька ў нейкага, нікому пакуль не вядомага хлопчыка, якога з прытулку мы выцягнем? У паперах законных усе як след будзе запісана: сын расійскіх падданых, патомных дваран пана Прозара Фларыяна і Травінай Кацярыны. Для вас жа галоўнае, каб жылі Ягелоны!

На развітанне пан той паведаміў, што маю жоўтую папку да пэўнага часу пакідае ў сябе, папярэдзіў маўчаць пра сустрэчу, бо з тымі, хто не здольны трымаць язык за зубамі, разлікі кароткія, як стрэл дубальтоўкі».

**«ТРЭЦІ ТЫДЗЕНЬ ХАДЖУ,** што ў сне. Але сёетое паспеў. Запрасіў у Гудзішкі здольнага майстра маляваць сабе новы герб (з калматым мядзведзем). Перад адсылкай пакета ў Герольдыю я падумаў-падумаў і ў дапаўненне абвёў мядзведзя чорным кругам — сімвалам вечнасці...

Усё выдатна, хоць хлопы ў нашым павеце не хадзяць на паншчызну. Дурні-суседзі скардзяцца ў Вільню, а ў мяне працуюць наймiты, поўны зэгль вязняў і чорт мяне не бярэ!»

І, нарэшце, запіс апошні ў Фларыянавым дзённіку:

«26 дня месяца ліпеня, маёнтак Гудзішкі.

Учора (у суботу) перад абедам з'явіўся на вочы без выкліку (!) Готліб, падаў на падносе канверт. Дзіўна, бо пішуць звычайна мне ў Вільню ці па старым адрасе — у мой Прошын. Злупіў з нецярпеннем пячатку, дастаў аркуш і зайшоўся ад жаху: жудасць нейкая, пра якую пішуць хіба што ў крымінальных замежных раманах. На шэрай паштовай паперы я ўбачыў чатыры няроўныя радкі, дзе злавесныя словы складаліся з прыклееных літар, выразаных, відаць, з нашай губернскай газеты. Вось поўны тэкст:

**«Калі не пусціш на волю арыштаваных сялян — сцеражыся! Лепш не высоўвайся з пакояў. Усё ўзваж, даю тэрмін да заўтра. Да хуткай сустрэчы. Я не жартую.**

**Сярэбраны Рыцар».**

Ніжэй стаялі два невялічкія кругі, відаць, перацiснутыя з аверсаў калекцыйных манет. Угледзеўся і бачу, што ў першым — адбітак з рэдкага гроша Жыгімонта Старога, бо ёсць дата «1535», над якой ледзь пазнаў я сляпую выяву слаўнага герба «Пагоня» — коннага срэбранага рыцара з аголенай шабляй, што стрымгалоў скача тварам на Захад.

Наконт канверта з пагрозамі я лічу, што гэта хлiпкая спроба нейкага навакольнага хціўца-зайздросніка, спроба запалохаць мяне, змусіць схавацца, а то і з'ехаць на пэўны час за мяжу, каб я, барані божа, не стаў яму перашкодай на будучых выбарах. Нічога не выйдзе. На спалох нас не возьмеш, панове! А паданням і казкам, пашыраным у нашым павеце, розным іншым несусветным прыдумкам аб Сярэбраным Рыцары я не веруў ніколі».

Скончыўся дзённік. Каб паставіць яшчэ колькі кропак над «і», варта, мусіць, не губляць з поля зроку пана Прозара працягам яшчэ нейкага, ужо зусім кароткага часу.

...Абед у Гудзішках запозніўся, бо пані Ксаверыя ўсё не выходзіла са сваёй палавіны. Яна па-англійску шапталася з Готлібам, які па звычцы і сёння крадком улез у свежыя Фларыянавы запісы і даваў, натуральна, цяпер справаздачу. Да канца не даслухаўшы, Ксаверыя адправіла Готліба. Зачыніўшыся, дала волю пачуццям: мітусілася, нервова прыціскала далоні да гарачага твару, на каленях малілася, ціха плакала. А пан Фларыян зачакаўся, ёрзаў на месцы за сервіраваным на два прыборы авальным сталом, уядаўся вачыма ў пустое крэсла Ксаверыі і засяроджана думаў: «Што робіцца з ёю? Няўжо дазналася пра мае сакрэтныя справы? А мо, чаго добрага, у каго закахалася? Толькі гэтага нам не хапала! Ага... здаецца, я бачыў, як паказваўся днямі ў маёнтку адзін малады чалавек. Нас не знаёмілі, але дваровыя мне кожным разам казалі, што ў пані з візітам — былы афіцэр, сусед наш з Бакштаў, памешчык Алесь Вайніловіч».

...Ксаверыя ўдзячна паглядзела ўслед Фларыяну, калі ён далікатна спаслаўся на стомленасць, пакланіўся і хуценька пакінуў пакой. Пан Фларыян распарадзіўся падрыхтаваць праз гадзіну сваю лепшую пару. Готлібу загадаў жэстамі буйным шротам зарадзіць дубальтоўку з кабінетнай калекцыі зброі і ў закрытым футляры аднесці на сядзенне каляскі. Цяпер ён не вагаўся, вырашыў цвёрда: калі ананім, які прыслаў учора паскудны канверт, сочыць за домам, дык няхай на ўласныя вочы ўпэўніцца, што гудзішкаўскі пан — хоць бы хны, бо па звычцы едзе развеяцца на стары Віленскі тракт.

Каляску ў прызначаны час падалі да парадннага ганка, і коні радасна фыркалі ад знаёмага прадчування дарогі. Збегшы з прыступак, Фларыян сам ссунуў далоў фурманскія козлы, прапусціў лейцы праз спецыяльныя вушка, двойчы прымераў, каб хапала іх да сядзення. Адкінуўшыся на скураныя падушкі, ён нетаропка пацягнуў лейцы, крутануў хлыстом у паветры і з посвістам сцёбнуў па высокіх дарожных халявах. Коні, насцярожана павёўшы вушамі, узялі з месца парывіста, а за брамаю самі перайшлі на галоп. Неўзабаве Фларыян апынуўся на пустынным сёння Віленскім тракце. Каляска на хвіліну спынілася, пан дастаў стрэльбу з футляра, паклаў прама пад ногі, да сябе рулямі, не падазраючы нават, што ўсё гэта напуста, бо Готліб знарок зарадзіў халастымі.

Шэрыя ў яблыкі коні нервова білі капытамі, не хацелі стаяць, без каманды рванулі. Уездканай, гладкай дарогай яны лёгка дасягнулі гары і сцішыліся толькі на спадзістым схіле. Вакол — любата! Паабапал дарогі ляжалі ўнізе пакатыя, сакаўныя палеткі, што зліваліся з небакраем. Хоць бяры ды малюй: праваруч — сцяна даўно спелага, дзівосна высокага жыта, злева — махрысты зялёны кілім, яшчэ недакошаны папар пад азіміну.

За ўсім хараством Фларыян не прыкмеціў, што яму напярэймы, напрасткі ляціць ветрам коннік у надта дзіўным уборы. А каб глянуў, магло б здацца: на ўвесь дух скача казачны рыцар, той самы — з легендарнай літоўскай «Пагоні». Толькі звонкая шабля цяпер не бліскала пад сонцам ды блакітная гунька ў каня намнога даўжэйшая. Коннік, відаць, дакладна вызначыў і адлегласць, і хуткасць, бо нечакана з'явіўся на тракце якраз за некалькі крокаў да ўзмыленых храпаў шэрай Фларыянавай пары. Ад раптоўнай сустрэчы бегавыя вупражнікі спудзіліся, ашаломлена падаліся назад, заіржалі трывожна. Каляска тузанулася і замерла на месцы.

Фларыян здзіўлена міргаў вачыма, але развіжыў і ўсміхнуўся без кропелькі страху. Падумаў: «Во, даўся ж я некаму ў знакі, на маскарад раскашэліліся». Крыкнуў пагрозліва: «Прэч з дарогі, я буду страляць!». Ён дапытліва шкворыў вачыма дзіўнага конніка, твар якога надзейна хаваўся за глухім, шышастым рыцарскім шлемам. Нешта змусіла прыглядзецца бліжэй. Фларыян міжвольна прыўзняўся, спрабуючы вобмацкам абаперціся хоць на што першае, што знойдзе рука... І, як быццам, пазнаў таго конніка. Ногі панавы падкасіліся самі, ён захістаўся, як п'яны, кулак, што замком сціскаў рулі, аслаб, а спатнелыя пальцы без утрымкі спаўзалі па слізкай ад свежай змазкі сталёвай паверхні, зачапілі курок. Грымнуў стрэл. Фларыян плаўна сеў на падушкі, бяссільна выпусціў стрэльбу, правай рукой закрываючы рану на поясе. Разумныя вочы ўсё глядзелі, нязводна глядзелі на вершніка. А збялелыя губы шапталі: «Навошта? Завошта?..». Сэрца не вытрывала, бо жыць ужо не хацела...

Развязка насмерць спалохала вершніка. Ён прышпорыў каня, джагнуў борздка ўпоперак тракту, скіраваў на ледзь прыкметную сяроднюю жоўтых хлябоў палявую сцежку, знік адразу ў надзіва высокім жыце...

Праз колькі дзён першыя дакументы аб раптоўнай і загадкавай смерці памешчыка Прозара ўжо трапілі ў стандартную канцылярскую папку. На шэрай, арластай вокладцы папкі следчы Віленскай крымінальнай палаты Фелікс Травін, акуратыста, вывеў пасля кароткага роздуму: «Здарэнне на Віленскім тракце».



Малюнкі Лявона АПАНАСЕНКІ.



# «Хрысціянства ніколі не абяцала зямной ідыліі...»

**Пазітыўныя змены ў грамадскім жыцці, у самім падыходзе да пытанняў узаемаадносін асобы і грамадства, адносіны Рускай праваслаўнай царквы да перабудовы, свабоды сумлення, новага мыслення — тэма гутаркі прафесара Мінскага інстытута культуры Валерыя НЯФЕДАВА з Мітрапалітам Мінскім і Гродзенскім, Патрыяршым Экзархам Беларусі, пастаянным членам Свяшчэннага Сінода ФІЛАРЭТАМ.**

**— «Калі Мікеланджэла спыталі, як ён стварае свае скульптуры, ён адказаў, што проста адсякае камень, які прыкрывае тое, што ён бачыць сваім унутраным зрокам. Будзем верыць, што мы сваёй міратворчай працай здолеем адсячы глыбу зла, якая перашкаджае людзям бачыць свет вызваленым ад прывідаў ядзернай вайны». Дазвольце, уладыка, з гэтай цытаты з вашага выступлення на V Міжнароднай канферэнцыі багасловаў і экспертаў, з гэтага натхнёнага закліку працаваць на карысць новага мыслення распачаць наш дыялог.**

**Сёння стала відавочным, што выжыць у наш ядзерны век азначае перш за ўсё зразумець адзін аднаго, зразумець не толькі розумам, але і сэрцам. Што вы можаце сказаць аб узаемаадносінах паміж людзьмі і Царквой у гэты пераломны час!**

— Давайце паразважаем... Вопыт гісторыі нашай Царквы апошніх сямідзесяці гадоў можна назваць унікальным. Варта пры гэтым памятаць, што гэткім жа унікальным з'яўляецца вопыт гісторыі нашай краіны, з лёсам якой Руская праваслаўная царква звязана тысячу гадоў. Менавіта гэта сувязь і вызначала пазіцыю нашай Царквы ў цяжкія, пераломныя моманты.

А іх было нямала. Узяць хоць бы велізарныя перамены, выкліканыя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй. Больш як 900 гадоў да гэтага Царква ў Расіі існавала ў саюзе з дзяржавай. Таму большасці тагачасных царкоўных дзеячаў сам прынцып аддзялення Царквы ад дзяржавы, які на пачатку 1918 года абвясціла маладая Савецкая рэспубліка, здаваўся непрымальным. Выхаваныя ў традыцыях ранейшых сацыяльных і палітычных уяўленняў, яны на першым часе актыўна не адабралі многія дзеянні новай дзяржаўнай улады. З другога боку, было нямала людзей, якія выйшлі на будаўніцтва новага грамадства і глядзелі на Царкву як на «прыладу эксплуатацыі мас», што вызначала негатыўныя да яе адносіны. Гэта прыводзіла да канфрантацыі паміж новым ладам і Царквой, сумна адбівалася на царкоўным жыцці. Гістарычнай заслугай Свяцейшага Патрыярха Ціхана з'явілася паступовае ўсведамленне станоўчых перамен у нашай краіне. Напярэдадні сваёй смерці ў 1925 годзе Патрыярх Ціхан звярнуўся да веруючых з заклікам «не дапускаючы кампрамісаў у веры, у грамадзянскіх адносінах... быць шчырымі па адносінах да Савецкай улады і працаваць на агульную карысць». Сёння Руская праваслаўная царква — гэта мільёны нашых суайчыннікаў, якія самаадданa працуюць на карысць сацыялістычнай Айчыны. Царква, як духоўная маці, жадае, каб яе дзеці былі добрасумленнымі і працавітымі. Вядома, пры гэтым яна не закранае іх асабістых палітычных перакананняў...

Падтрымліваючы мірныя ініцыятывы як Савецкага, так і іншых урадаў, мы выступаем у адзінстве з усімі, хто вядзе нястомную барацьбу за мір, уносім свой спецыфічны рэлігійны ўклад у святую справу вызвалення чалавецтва ад жахаў вайны, ад яе ахвяр і няшчасцяў, якія рэальна пагражаюць усім людзям планеты.

Сёння ў грамадскім жыцці нашай краіны адбываюцца станоўчыя змены, мяняюцца ўзаемаадносіны асобы і грамадства. Адносіны да рэлігіі становяцца асабістай справай кожнага. У перыяд з 1971 года па сённяшні дзень больш як 30 мільёнаў чалавек прынялі таінства Святога Хрышчэння. Рэгіструюцца сотні новых рэлігійных аб'яднанняў, веруючым паўсямесна перадаюцца пустуючыя культавыя пабудовы, даецца дазвол на будаўніцтва новых. У краіне дзейнічае 16 царкоўных навучальных устаноў. На Беларусі таксама адкрываецца духоўная семінарыя Рускай праваслаўнай царквы ў Гродзенскай вобласці, неўзабаве пачнуць працаваць курсы псаломшчыкаў у Мінску.

**— Бясспрэчна, ва ўмовах плюралізму Руская праваслаўная царква з'яўляецца дзейснай сілай савецкага грамадства. Толькі недальнабачныя людзі могуць не заўважаць, што царква аддзелена ад дзяржавы, але не ад народа. Сапраўдныя вернікі ўсведамляюць сваю сацыяльную паўнацэннасць у рэалізацыі ідэалаў перабудовы, новага мыслення, галоснасці.**

— Сапраўды, пераважная большасць веруючых прыняла перабудову, уносіць немалы ўклад у развіццё дэмакратыі і галоснасці. У новых умовах стаў магчымым і больш актыўны ўдзел рэлігійных дзеячаў у рабоце розных грамадскіх фарміраванняў, не выключаючы Саветы народных дэпутатаў.

Праваслаўная царква заклікае веруючых да актыўнай стваральнай дзейнасці. Пры гэтым, з пункту гледжання багасловаў, для верніка тут няма ніякіх «забароненых» або «непрымальных» зон. Яшчэ на пачатку 60-х гадоў прафесар Ленінградскай духоўнай акадэміі М. Забалоцкі пісаў: «Усякая галіна жыцця — тэхнічнае развіццё, навуковы прагрэс, сацыяльныя змены, стварэнне эканамічнага дабрабыту або дасягненне справядлівасці ў палітычных справах, культурны росквіт — можа і павінна быць галіной хрысціянскай дзейнасці».

Па меры таго, як набірае сілу працэс дэмакратызацыі, расце актыўнасць савецкіх людзей, усё больш выразным становіцца імкненне дзеячаў Царквы да ўдзелу ў розных формах «сацыяльнага служэння». Так, прадстаўнікі РПЦ разам з прадстаўнікамі іншых рэлігійных арганізацый уваходзяць у склад Савецкага фонду культуры, Дзіцячага фонду імя У. І. Леніна, гатовы ўсё больш уключацца ў рух міласэрнасці.

**— Прагрэс краіны магчымы толькі пры кансалідацыі ўсіх здаровых сіл, працоўных калектываў, інтэлігенцыі, моладзі, веруючых і няверуючых грамадзян. Няпростае нацыянальнае пытанне. Галоўная задача тут, відаць, у тым, каб няўхільна дабівацца салідарнасці народаў на платформе нацыянальна-моўнага адраджэння.**

**Што можа зрабіць Царква для пазітыўнага развіцця міжнацыянальных адносін у Савецкім Саюзе, для дасягнення нацыянальнай згоды на аснове дэмакратычнага сацыялізму!**

— Праблема міжнацыянальных адносін патрабуе асобнага сур'ёзнага абмеркавання, і я не вазьмуся зараз яе шырока каменціраваць. Скажу толькі, што доўгае замоўчванне гэтай праблемы ў часы застою павялічыла яе вастрыню, ускладніла магчымасць яе вырашэння. Аб тым, што справа гэта далёка няпростая, можна меркаваць хоць бы па такіх лічбах: па-за асноўным раёнам нацыянальнага рассялення ў нашай краіне жыве 14 мільёнаў рускіх, украінцаў, амаль 5 мільёнаў татар, 2 мільёны беларусаў, каля мільёна ўзбекаў і прыкладна столькі ж мардвінаў, азербайджанцаў, армян. І гэта далёка не поўны пералік. Адсюль зразумела, наколькі цяжка ўлічыць усе нацыянальныя інтарэсы ў гэтых умовах. Асабліва ў пагранічных раёнах паміж рэспублікамі або ў новых гарадах, якія ўзнікаюць на новаасвоеных тэрыторыях.

Мяркуйце самі: чалавек, выхаваны на пэўных нацыянальных традыцыях, са сваімі ўяўленнямі аб нормах паводзін, са сваімі звычаямі, абрадамі, абставінамі жыцця, пастаўлены ў такія ўмовы, калі яму пастаянна даводзіцца сустракацца з прадстаўнікамі іншай культуры, знаходзіцца ў чужым культурна-бытавым асяроддзі. І, вядома ж, ён імкнецца, часам падсвядома, да таго, каб тая культурная атмасфера, у якой ён выхоўваўся, якая адпавядае яго духоўным запатрабаванням, акружала яго і надалей, каб



усе, з кім яму даводзіцца мець зносіны, паважалі яго нацыянальны характар, нацыянальную годнасць. Ажыццявіць гэта на практыцы бывае вельмі цяжка. З боку дзяржаўнай улады і грамадскасці патрабуюцца асаблівая палітычная гібкасць, мудрасць, цярпенне і, не ў апошнюю чаргу, вытрымка. Нямала залежыць і ад самога народа, ад людзей, якія яго прадстаўляюць,— ад іх здольнасці да канструктыўнага кампрамісу, свядомага самаабмежавання, іх цярпімасці, урэшце. Словам, менавіта ад таго, чаго не хапае людзям у моманты абвастрэння старых міжнацыянальных спрэчак, крыўд, непаразуменняў і ўзаемных прэтэнзій. Тут, мяркую, вельмі да месца ўдзел Царквы, рэлігійных дзеячаў, якія сваім пастырскім абавязкам заклікаль да ўгавораў і супакаення чалавечых страсцей і гневу.

**— Немалаважную ролю, відаць, заклікана адыграць Царква і ў пабудове справядлівых адносін паміж народамі, ва ўрэгуляванні канфліктаў паміж расамі-сапернікамі, ідэалагічнымі сістэмамі і дзяржавамі...**

— Найперш давайце падумаем, што мы ўкладваем у паняцце справядлівыя адносіны паміж народамі, дзяржавамі.

Уявім, што два суседы доўга спрачаліся аб тым, дзе правесці мяжу паміж сваімі ўладаннямі, а потым прыйшлі да згоды, што ў адным месцы трэба аднесці плот управа, а ў другім — улева. Справядлівасць перамагла, і цяпер праз той самы плот учарашнія саппернікі добразычліва абменьваюцца прывітаннямі, дзеляцца думкамі і плёнам сваёй працы. Усё, нібыта, разумна. Але чым дыхае, у што верыць, да чаго імкнецца сусед, які яго духоўны свет — для кожнага застаецца загадкай, а то і сакрэтам, які старанна захоўваецца. Такая справядлівасць нічым не сагравае чалавечую душу. І міжволі ўзнікае пытанне: ці сапраўдная гэта справядлівасць?

Мяркую, справядлівыя адносіны паміж народамі — нешта большае, чым сума інтарэсаў сапернікаў пад лозунгам: «Ты — мне, а я — табе». Гэта павінна быць такая супольнасць, калі адна нацыя ўспрымае набыткі, запатрабаванні, духоўныя парыванні другой нацыі ва ўсёй разнастайнасці і складанасці. Калі цэніш і пабратэрску любіш гэту пярэстасць з усімі яе высокімі памкненнямі і магчымымі зрывамі. І, урэшце, калі народ здольны бачыць сваё ўласнае жыццё, жыццё сваёй краіны вачамі другога народа, з мудрай мужнасцю асуджаючы гэтым духоўным зрокам усё, што ёсць у ім наноснага, ілжывага, няшчырага. Толькі тады можаш успрымаць усе асаблівасці чужой расы, культуры, ідэалогіі, веравызнання не толькі як староні назіральнік, але ўсёй душой спрыяць таму, каб захаваць для будучыні ўсё, што ёсць у іх каштоўнага і гуманнага.

Перакананы, што нічога утапічнага ў ідэі такой супольнасці няма. Калі мы, як рэлігійныя людзі, верым у магчымасць духоўнага адзінства асобных людзей, дык чаму б не верыць у магчымасць такога аб'яднання паміж народамі?

Справядлівыя адносіны паміж народамі, паўтараю, гэта не проста супрацоўніцтва. Гэта — духоўнае ўзаемапрыцягненне. Гэта тая частка духоўнай культуры асобных людзей і грамадства, якая адлюстроўвае іх здольнасць зразумець і палюбіць чалавека іншага душэўнага ладу, іншых традыцый як свайго бліжняга.

Мяркую, прадстаўнікі сусветных рэлігій, паслядоўнікі розных рэлігійных плыняў і накіруннкаў сваім пастырскім аўтарытэтам і духоўнай пераконанасцю заклікаль адыграць значную ролю ў фарміраванні такой здольнасці, заняць належнае месца ва ўрэгуляванні існуючых вострых расавых, ідэалагічных, рэлігійных міжнародных праблем.

У заключэнне спашлюся коратка на прыклад дзейнасці ў гэтым напрамку нашай Царквы, якая на працягу ўсёй сваёй гісторыі нязменна адыгрывала прымірэнчую і аб'яднальную ролю. Дарэчы, сама ідэя Царквы, гаворачы сучаснай моваў, «інтэрнацыянальная». У Царкве ўсе народы аб'яднаны ў Хрысце: «Няма ні эліна, ні іудзея, ні абразання, ні неабразання, варвара, скіфа, раба, вольнага, але ўсё і ва ўсім Хрыстос».

Гэта ідэя адзінства людзей у адной агульначалавечай сям'і народаў асабліва актуальная ў наш час. Мы зыходзім з таго, што «ад адной крыві ён нарадзіў увесь род чалавечы, каб засяліць усю зямлю». Гэта ідэя плённа «працуе» на наша аб'яднанне, дапамагае ўсвядоміць, што ўсе мы браты і сёстры у адной чалавечай сям'і народаў. Прыемна, што да яе сёння ўсё часцей звяртаюцца дзяржаўныя і палітычныя дзеячы. Пра гэта ж сведчыць і сучасная навука, сацыялогія. Свет непадзельны, і толькі разам, па-прыяцельску гаспадарачы ў ім, мы можам захаваць і яго, і сябе.

Варта, аднак, заўважыць, што адной ідэяй, якой бы вялікай яна ні была, мы не вырашым праблемы. Так, у міжнацыянальных канфліктах у Ліване, Ірландыі, у нашай краіне паміж Арменіяй і Азербайджанам, безумоўна, прысутнічае і рэлігійны акцэнт. І ў гэтых адносінах вельмі карысны міжрэлігійны дыялог, немалы вопыт якога назапасіла наша Царква. Прыкладам могуць паслужыць Сусветныя міжрэлігійныя канферэнцыі ў Маскве ў 1977 і 1982 гг., якія прадэманстравалі імкненне і магчымасці ўсіх рэлігій унесці ўклад у прымірэнне людзей, у захаванне свяшчэннага дару жыцця.

**— Зразумела, культурныя і эканамічныя кантакты паміж намі і Захадам выклікаюць у вас станоўчыя эмоцыі...**

— Мы, людзі Царквы, выступаем за развіццё сувязей як на ўзроўні духоўнага жыцця, так і на ўзроўні навукі і эканомікі. Калі людзі і народы маюць непасрэдныя зносіны адзін з адным, то перашкоды паміж імі знікаюць, бо вопыт адных становіцца набыткам усіх, і чалавек знаходзіць братоў і сясцёр там, дзе раней падазраваў ворагаў.

Таму мы з пачуццём глыбокага задавальнення ўспрымаем працэс збліжэння народаў, раздзеленых дзяржаўнымі граніцамі і ідэалогіяй, які намеціўся зараз. Безумоўна, гэтаму садзейнічала пацяпленне міжнароднага клімату, абнаўленне курсу знешняй палітыкі Савецкага Саюза, канструктыўная пазіцыя міжнароднай супольнасці. Людзі стаміліся жыць пад дамоклавым мячом ядзернай пагрозы. Амаль чатыры дзесяцігоддзі «халоднай вайны» вычарпалі цярпенне народаў, якія жадаюць міру і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Па-мойму, вобраз ворага, які доўгія гады прыгнятаў і наш, і, скажам, амерыканскі народ, стаў для іх больш ненавісным, чым самі ворагі — сапраўдныя або выдуманыя.

**— Жыццё сучасных людзей у развітых рэгіёнах зямлі — гэта найперш жыццё ў вялікіх гарадах. Гэта складаны і нярэдка пакутлівы працэс...**

— Вы маеце рацыю. Урбанізацыя, як цяпер стала відавочным, нясе з сабой разлучанасць, ізаляванасць, адзіноцтва, нараджае шмат праблем, якія раней перад чалавекам не стаялі,— напрыклад, адчужанасць, абязлічанасць, пачуццё непатрэбнасці. Не ўсе могуць самастойна вынесці цяжар новых праблем. А між тым дэмографы папярэджваюць, што тэндэнцыя росту буйных гарадоў захаваецца. Таму мы ўжо сёння павінны думаць аб умацаванні царкоўнай абшчыны, якая б для кожнага яе члена стала сапраўднай крыніцай духоўных сіл.

Я перакананы, што асноўным у сведчанні Хрыста па-ранейшаму застаецца самааддача свету ў справах любові. Там, дзе брацкая абшчына жыве рэальным жыццём у Хрысце, яна і за сваімі межамі будзе распаўсюджваць дух братэрства, адзінства і любові, якіх так не хапае сучаснаму чалавеку.

**— Высокаразвітыя сацыяльныя структуры нязменна спараджаюць цяжкія эмацыянальныя і псіхалагічныя праблемы, урэшце, такое зло, як алкагалізм і наркаманія. Што можа Царква супрацьпаставіць працэсу дэградацыі грамадства?**

— Не будзе вялікім адкрыццём сцвярджаць, што чалавек нярэдка губляецца ў жыццёвых абставінах, не можа знайсці свайго месца. Асабліва, калі навакольны соцыум сам недасканалы, мае істотныя хібы. У такіх умовах няцяжка згубіць сябе і шматвопытнаму сталаму чалавеку, не гаворачы пра маладых людзей, якія не паспелі ні сфармуляваць свой светапогляд, ні ўмацавацца ў маральных прынцыпах. Адсюль упадніцкія настроі, слабасць цела і духу, грамадзянская апатыя, агрэсіўнасць, імкненне адмежавацца ад негатыўнай рэальнасці, перанесціся ў свет ілюзій з дапамогай адурманьвання сябе алкаголем, наркотыкамі, атупляльнай музычнай какафоніяй.

На жаль, гэтыя з'явы сталі сумнай рэчаіснасцю нашых дзён. Не абышлі яны і нашу Айчыну. Яшчэ зусім нядаўна яны замоўчваліся, а сёння пра іх на поўны голас гавораць і з экранаў тэлевізараў, і па радыё, і ў прэсе — праблема не на жарт хвалюе грамадства. І не выпадкова: хварэе на гэту сацыяльную хваробу часцей

за ўсё моладзь. Вядома, не ўся. У асноўным савецкія юнакі і дзяўчаты могуць быць узорам грамадзянскасці. Але нельга забывацца і на тых, хто не знайшоў свайго месца, сваёй ролі ў жыцці, каму патрэбна бацькоўская, проста чалавечая дапамога.

Безумоўна, гэта іх віна, але не менш і бяда. Бяда, адказнасць за якую павінна несці грамадства. Чалавек зламаны ў душы, які не здолеў сцвярдзіць сябе ў жыцці, які шукае забыцця ў гарэлцы або наркатычным дурмане,— чалавек-пакутнік. Не выракацца яго трэба, не пазбягаць як ізгоя, а пашкадаваць, дапамагчы падняцца, знайсці сябе, даць магчымасць умацавацца душой і ачысціцца целам.

Такія адносіны да паўшых братоў сваіх і сясцёр былі здаўна ўласцівы Рускай праваслаўнай царкве. У дарэвалюцыйны час у Расіі дзейнічала шырокая сетка антыалкагольных таварыстваў, гурткоў, саюзаў і г. д., якія імкнуліся ў сваёй дзейнасці не толькі дапамагчы, напрыклад, алкаголіку, але і апекавалі над яго сям'ёй. Многія святары ішлі ў такія сем'і, рабілі ўсё магчымае, каб папярэдзіць крушэнне лёсаў гэтых няшчасных. Да прыкладу, можна прыгадаць дзейнасць у гэтым накірунку айца Іаана Кранштацкага, чыё служэнне можна назваць сапраўдным пастырскім подзвігам. Колькі людзей, колькі душ ён выратаваў ад канчатковага падзення сваім гарачым прапаведніцкім словам, сваімі бескарыслівымі, ахвярнымі справамі.

Сёння архіпастырам РПЦ, яе клірыкам і прыхаджанам, на маю думку, самы час звярнуцца да вопыту сваіх папярэднікаў з тым, каб унесці дастойны ўклад у агульнанародную справу маральнага аздараўлення грамадства. Успомніць і прыгадаць тыя навыкі, формы і метады, на якія была багатая міласэрная дзейнасць нашай Царквы. Гэта таксама яе сённяшні грамадзянскі абавязак, не гаворачы аб прызванні, завешчаным Госпадам нашым Ісусам Хрыстом.

**— Уважліва слухаючы вас, прыходжу да высновы, што вы не можаце не бачыць канфлікту паміж Царквой і навуковым, эканамічным, культурным развіццём чалавека?**

— Агульнавядома, што навука ва ўмовах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі канца XX стагоддзя валодае каласальнымі магчымасцямі. Дзякуючы ёй набываюць рэальнасць многія нашы мары. Але менавіта тут хаваецца небяспека, свайго роду пастка. Небяспека тым больш каварная, што яна не такая відавочная, як пагроза вайны або разлад грамадства з прыродным асяроддзем. Гэта пастка ўсярэдзіне нас — сытасць, якая, як кажуць на Усходзе, заляпляе вочы і вушы, а працей — прымушае маўчаць сумленне.

Усяго некалькі дзесяткаў гадоў назад навука выклікала да сябе павагу, якая межавала з пакланеннем. Многія бачылі ў ёй панацэю, якая здольна пазбавіць чалавецтва ад усіх бед. А цяпер нярэдка можна сутыкнуцца з меркаваннем супрацьлеглым: навука — гэта крыніца ўсіх нашых сённяшніх бед. Мяркую, гэта ў корані няправільна. Стваральны або разбуральны характар навуковых дасягненняў залежыць ад таго, як іх выкарыстаць. І тады галоўнай умовай навукова-тэхнічнага прагрэсу акажацца не толькі і не столькі навуковы пошук і хуткае ўкараненне дасягненняў навукі ў вытворчасць, але і такія паняцці, як маральнасць, маральная адказнасць вучоных, гуманістычная накіраванасць іх дзейнасці.

Глыбока перакананы, што вучоны павінен несці адказнасць за любое сваё адкрыццё, за любы праект, не дазваляючы выкарыстаць іх з нядобрай мэтай. Усім нам добра вядома імя рускага дыякана Івана Фёдарава, палітычнага дзеяча, філосафа, пісьменніка, выдаўца, педагога і ваеннага інжынера XVI стагоддзя. Ён вынайшаў стоствольную разборную гармату, нават дэманстраваў яе некаторым венцаносным асобам. Але пазней чарцяжоў гэтай гарматы знайсці не ўдалося. Ёсць меркаванне, што яны былі знішчаны самім вынаходнікам. Ён мог знішчыць чарцяжы жахлівай па тым часе зброі, асцерагаючыся, што яна трапіць у рукі амаральных людзей. Такі ўчынак мог здзейсніць толькі чалавек, які ўсведамляў сваю маральную адказнасць перад людзьмі, перад будучымі пакаленнямі.

Сёння гэта асабліва, можна сказаць, жыццёва важна, бо ў руках чалавека знаходзіцца такая магутная тэхніка і тэхналогія, што любое непрадуманае або амаральнае дзеянне можа стаць прычынай катастрофы для свяшчэннага дару жыцця ўсёй планеты. Патрэбнасць выжывання, патрэбнасць вырашыць многія надзённыя праблемы, якія стаяць перад чалавецтвам, павінны падахвоціць людзей да ўзаемадзеяння. Мы не можам прыняць «не» ў якасці адказу на пытанне: быць альбо не быць чалавецтву? Мы гаворым: навуковы, эканамічны, культурны прагрэс, жыццё цывілізацыі павінны і будуць працягвацца. Мір і справядлівасць — вось адзіная разумная перспектыва развіцця чалавецтва.

Задумваючыся над сучаснымі экалагічнымі праблемамі, прыходзіш да думкі, што іх сэнс таксама выходзіць за межы адносін чалавека і прыроды. Іх сэнс у адказе на кардынальныя пытанні аб сэнсе чалавечага жыцця. Парадаксальна, на першы погляд, але глыбока заканамерна, што ў наш прагматычны век, у век, калі чалавек імкнецца пераважна да задавальнення жаданняў плоці, а «жыццё душы» заключаецца ў служэнні ўсё большай колькасці надуманых, штучных патрэбнасцей,— менавіта цяпер матэрыяльны свет перастае служыць чалавеку, і перад нагамі чалавецтва раскрываецца экалагічная бездань. Я думаю, што збаўленне ад небяспекі — у аднаўленні звергнутай іерархіі каштоўнасцяў. «Шукайце ж найперш Царства Божае і праўды Яго, і гэта ўсё прыложыцца вам»,— гаворыць Хрыстос.

Хрысціянства ніколі не абяцала зямной ідыліі. У гісторыі свету яно бачыць рысы глыбокага трагізму. Але ў рэшце рэшт, вучыць Хрыстос, пераможа дабро, хоць зло і атрымае перавагу на некаторы час. У гэтай барацьбе нікому не дадзена абраць заціўшае месца пасіўнага сузіральніка. Кожны чалавек дзейнічае ў свеце, або сцвярджаючы дабро, або супрацьўляючыся яму. У гэтым вечная актуальнасць хрысціянскай духоўнасці. І мы як духоўныя пастыры закліканы раскрыць той дар любові, які ўкладзены Богам у нашы душы. Набываючы Бога, мы набываем адзінства з братамі-людзьмі і прыродай.

**— XXI стагоддзе стаіць на парозе. Усе мы рыхтуемся да вялікіх змен у міжнародным жыцці. А якой у сувязі з гэтым вам бачыцца місія хрысціянскай Царквы?**

— На пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта Сусветнага савета цэркваў у Ганноверы было адзначана, што святкаванне 1000-годдзя Хрышчэння Русі з'явілася адной з самых шматзначных экуменічных падзей у нашу эпоху. Сапраўды, мы, праваслаўныя, успрынялі гэты юбілей не толькі як выдатную падзею нашага жыцця, але і як свята супольнасці духоўнага жыцця ў Хрысце ўсіх хрысціян, як урачыстасць усёй сусветнай супольнасці, якая імкнецца да ліквідацыі перашкод да сусветнага брацтва. Тэрмін «экуменізм», такі старажытны і такі сучасны, набыў сёння асаблівае значэнне і для ўсё большай колькасці хрысціян з'яўляецца праблемай, якая патрабуе свайго канчатковага вырашэння. Вучні Хрыстовы не могуць абыякава глядзець на страту свайго адзінства, аб якім маліўся Хрыстос і адсутнасць якога наносіць непапраўную страту адзінаму сведчанню пра Бога Творцу і Мысліцеля.

Вядома, у дасягненні мэт экуменізму — адзінства ў веры і поўных еўхарыстычных зносін — мы не можам разлічваць на хуткія вынікі. Яны могуць быць і як плён намаганняў чалавечых, і як дар Божы, дараваны нам па малітве і выкананню волі яго. Любыя спробы штучна паскорыць гэты працэс не прынясуць поспеху.

Пазнаёміліся мы з Андрэем Ягоравічам у 1967 годзе, калі ён працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Неман», а я першым сакратаром Бярозаўскага райкома партыі Брэсцкай вобласці. У той час я напісаў для партархіва ўспаміны аб сваіх прыгодах у суровыя гады вайны, калі быў разведчыкам партызанскай брыгады «Аляксея» і ажыццяўляў сувязь з падпольшчыкамі Віцебска і Сасноўкі.

Успаміны былі ўхвалены. Таварышы пераканалі мяне, што гэта гатовая кніга, і прымусілі несці рукапіс у рэдакцыю часопіса «Неман». Так я і з'явіўся перад Андрэем Ягоравічам Макаёнкам і яго намеснікам Георгіем Лявонцьевічам Паповым.

— Што вы нам прынеслі? — запытаў Макаёнак.

— Рукапіс пра вайну,— адказаў я.

— А вы самі хоць нюхалі порах?

— Крыху давялося.

А калі Андрэй Ягоравіч даведаўся, што я працую сакратаром райкома партыі, ды яшчэ першым, ён недвухзначна заявіў:

— Мабыць, пратаколы прынеслі? Скажу адразу, што не стану траціць час на іх чытанне. Здагадваюся, што вы там «накалупалі» сваёй пратакольнай мовай. Аддайце Папову. Калі яму няма чаго рабіць, хаи чытае.

Я выклаў на стол Папова свой рукапіс. Развітаўся і пайшоў.

Дні праз чатыры ў пяць гадзін раніцы ў маёй кватэры раздаўся тэлефонны званок. Вельмі не хацелася падымацца: позна лёг спаць. Але тэлефон трашчаў усё патрабавальней.

— Добрай раніцы, Пятро Лявонавіч! — пачуў у трубцы.— Гэта Макаёнак. Ты ўжо прабач, што ў такую рань турбую.

— Што ж гэта ты сам не спіш і людзям не даеш? — не заўважыў, як і я перайшоў на ты. (Больш на вы ні ён мяне, ні я яго ніколі не называлі).

— Ты, мабыць, пакрыўдзіўся на мяне за непрыемную размову пры сустрэчы. Не трэба. Не ўмею крывадушнічаць і хітрыць. Ад душы сказаў тое, што думаў. Прабач. Але не для гэтага падняў я цябе так рана,— працягваў ён.— Учора Папоў прынёс мне твой рукапіс і кажа: «На, усё-такі, прачытай. Рэч вартая. Каяцца не будзеш». Я і ўзяўся за яе пасля абеду. Ды так і прасядзеў над ёй да гэтага часу. Не еў, не піў і не спаў. Ты напісаў кнігу. Прытым добрую. Пад яе ўражаннем і не стаў я чакаць дня, вырашыў павіншаваць цябе з поспехам...

— Дзякую, Андрэй Ягоравіч.

— І просьба ёсць. Будзеш у Мінску, абавязкова заглянi да мяне: з'явілася ідэя...

Тыдні праз два я быў у сталіцы. Пазваніў Макаёнку, запрасіў да сябе ў гасцініцу «Мінск». Сустрэліся як даўнія сябры. Андрэй Ягоравіч адразу перайшоў да справы:

— Гэта твая работа пойдзе ў часопіс. Папоў сам узяўся яе рэдагаваць. Калі чытаў твой рукапіс, узнікла думка: узяў бы ты і напісаў пра сённяшні дзень, пра работу раённай партыйнай арганізацыі і яе сакратара, пра цяжкасці ў рашэнні важнейшых задач, пра людзей сяла. Толькі вось так чэсна, праўдзіва, як аб сваіх партызанскіх прыгодах. Ты раней пісаў штонебудзь?

— Нічога, акрамя даведак, пастаноў ды ў маладосці яшчэ лістоў і запісак дзяўчатам,— адказаў я.

— Не, Пятро Лявонавіч, у цябе добра атрымліваецца. Толькі адбяры самыя значныя, цікавыя эпізоды з жыцця і работы, як было на самай справе, і палажы на паперу...

— Я то напішу. А ты апублікуеш?

— Апублікую. Абавязкова апублікую...

Яшчэ доўга мы сядзелі тады. Пра многае перагаварылі. Я расказваў эпізоды раённых будняў. Ён тут жа адбіраў найбольш значныя, раіў, як лепей усё выкласці на паперы, расказаць людзям. Ён усяліў у мяне ўпэўненасць, акрыліў і натхніў на нялёгкую літаратурную працу... «Аб суровым юнацтве» (так назваў я сваю першую кнігу).

— Можаш не хвалявацца,— гаварыў ён на развітанне.— У часопісе апублікуем. Думаю, што выдавецтва «Беларусь» асобнай кнігай выдасць.

Макаёнак стрымаў слова: апублікаваў часопісны варыянт у маі 1968 года пад назвай «Гады

баявыя». А ў 1970 годзе «Суровае юнацтва» выйшла асобнай кнігай.

**...І Я ЎПАРТА** ўзяўся адбіраць і выкладваць на паперу найбольш значныя і цікавыя, на мой погляд, эпізоды раённых будняў, рабіць чарнавыя накіды, хаця і часу для гэтага не было. Час адпачынку таксама цалкам аддаваў гэтай нялёгкай працы.

У пачатку шэсцьдзесят дзевятага года часопісны варыянт у асноўным быў гатовы. Я аддаў яго на суд Макаёнку і Папову. Яны рукапіс у асноўным ухвалілі, але выказвалі свае заўвагі і далі парады па дапрацоўцы.

— Канечне, гэта не шэдэўр,— заявіў Макаёнак,— але рэч вартая. Трэба працаваць і даводзіць да кандыцыі. Толькі прозвішчы дзейных асоб, назвы калгасаў, саўгасаў, вёсак, сельсаветаў і раёна трэба змяніць,— параіў ён.— Так будзе прасцей чытачам і лягчэй аўтару. І без гэтага непрыемнасцей яшчэ набяромся па самыя вушы. А назву, на мой погляд, трэба даць «Жыццё, як яно ёсць».

— Не пойдзе, Андрэй Ягоравіч,— запярэчыў Папоў.— Мішэнь для апанентаў. Лепш назваць «Шляхі і перакрыжаванні».

Мы пагадзіліся. Толькі Макаёнак прапанаваў даць падзагаловак: «Запіскі сакратара райкома». На гэтым і спыніліся.

Да сярэдзіны шэсцьдзесят дзевятага года рукапіс быў дапрацаваны і здадзены ў рэдакцыю. Адначасова я здаў рукапіс і заяўку на асобную кнігу ў выдавецтва «Беларусь».

Усё ішло добра. Рэдагаваць «Шляхі і перакрыжаванні» даручылі загадчыку аддзела часопіса А. А. Савелічаву. Ён і падрыхтаваў рукапіс да друку.

У кастрычніцкім нумары семідзесятага года часопіс апублікаваў першыя трынаццаць раздзелаў кнігі «Шляхі і перакрыжаванні». У студзеньскай кніжцы 1971 года было змешчана яшчэ трынаццаць раздзелаў працягу...

Цяпер ужо мае апаненты зашумелі, пачалі абурацца на ўвесь голас. У ананімных званках у кабінет і дадому пасылалі праклёны, абразы і пагрозы...

Хоць у кнізе і былі зменены прозвішчы і імёны дзейных асоб, а таксама назвы населеных пунктаў, адны пазнавалі сябе, другія былі заклапочаны далейшым ходам развіцця падзей у яшчэ неапублікаванай частцы кнігі, баяліся ў далейшым аказацца прататыпамі герояў. Вось і прымалі папераджальныя меры, стараліся перашкодзіць далейшым публікацыям...

Аб усім гэтым я паведаміў Андрэю Ягоравічу. Ён падбадзёрыў мяне: маўляў, не такі чорт страшны, як яго малююць. Паведаміў, праўда, што і на яго ўжо таксама пачынаюць націскаць. Два брэсцкія высокапастаўленыя апаненты, сустрэўшыся з ім у Маскве, адкрыта абураліся публікацыяй у часопісе «Шляхоў і перакрыжаванняў» і турбаваліся не так за раздзелы, якія з'явіліся ў свет, як за змест яшчэ неапублікаваных.

Андрэй Ягоравіч прасіў пры першай жа аказіі ў Мінск абавязкова сустрэцца з ім. І вось я ў сталіцы. Прыехаў на пленум ЦК партыі. Тут Макаёнак паведаміў мне навіну. Аказваецца, два мінскія высокапастаўленыя апаненты звярнуліся да П. М. Машэрава са службовай запіскай наконт маіх «Шляхоў...». З-за гэтага прыйшлося зняць з нумара ўжо набраны тэкст заканчэння кнігі. Ён прапанаваў разам з ім схадзіць у ЦК пазнаёміцца з запіскай і параіцца, як быць далей.

Загадчыка сакратара на месцы не аказалася. Інструктар падаў нам запіску. У ёй было паўтары старонкі машынапіснага тэксту. Увесь сэнс яе зводзіўся да таго, што кніга няправільна адлюстроўвае савецкую рэчаіснасць і «грае на руку буржуазнай ідэалогіі». Уверсе на першай старонцы запіскі стаяла рэзалюцыя П. М. Машэрава з указаннем азнаёміць членаў бюро і адпаведных работнікаў. І ўсё. Ніякіх каментарыяў і заўваг. На полі першай старонкі адзін з «адпаведных» работнікаў, які пазнаў сябе ў адным з герояў, чорным алоўкам напісаў, што ён «згодзен з аўтарам запіскі, бо так званая кніга таварыша Лебедзева няправільна адлюстроўвае савецкую рэчаіснасць і грае на руку буржуазнай ідэалогіі». Коратка і ясна. Безапеляцыйна вынес ён прыгавор маёй працы. Але, на шчасце, усё-такі не аднаму яму прыйшлося вырашаць лёс кнігі. Пазней расказвалі, што на запісцы з'явіліся і другія, процілеглыя надпісы. Іх абагульніў і выказаў коратка чырвоным алоўкам на апошняй старонцы запіскі сакратар ЦК КП Беларусі С. А. Пілатовіч. Ён напісаў, што кніга «цікавая, карысная і павучальная і яе варта выдаць». Пад яго подпісам, таксама чырвоным алоўкам, без усялякіх каментарыяў распісаўся П. М. Машэраў. Спрэчка аб вартасці кнігі была вырашана на маю карысць. Праз дзесяць месяцаў, у адзінаццатым нумары, «Неман» даў заканчэнне кнігі. Але гэта ўсё было значна пазней.

**А ПАКУЛЬ ЯШЧЭ** на запісцы не было рэзалюцыі Пілатовіча і подпісу Машэрава. І мы з Макаёнкам сядзелі ў сектары перад адказным работнікам. Нашых пярэчанняў на выказаныя ў запісцы абвінавачванні ён амаль не слухаў. Трымаў сябе напышліва і ў канцы размовы высакамерна заявіў:

— Мне па абавязку службы даручана стаяць на варце інтарэсаў партыі, і я не магу дазволіць нейкім «пісакам» ганьбіць яе...

Андрэй Ягоравіч пабялеў, але мужна стрымаў гнеў і спакойна загаварыў:

— Усе мы смяротныя і недаўгавечныя. Таму павінны старацца пакінуць у жыцці след, свой след, па якім праз гады і дзесяцігоддзі нашы нашчадкі пазналі б працавітага чалавека. Дарэчы, вы не памятаеце, хто напісаў кнігу «Дон Кіхот»?

— Усе ведаюць, што Сервантэс.

— А хто быў каралём Іспаніі ў тыя далёкія гады, калі тварыў Сервантэс?

— Не ведаю.

— Вось і я не ведаю...

На гэтым наша размова ў сектары і закончылася. Мы ішлі па лесвіцы. Макаёнак абураўся гэтым бюракратам, чартыхаўся...

— Усё-такі правільна гаворыць народная мудрасць, што кожнае маленькае парася лічыць, што яно ўжо вялікая свіння,— сказаў пасля з агідаю.

На развітанне Андрэй Ягоравіч падбадзёрыў мяне:

— Не гаруй, Пятро Лявонавіч. Праўда заўсёды пракладзе сабе дарогу. Я знайду момант і перагавару з Пятром Міронавічам Машэравым. Упэўнены, што ён падтрымае нас і «Шляхі...» твае ўбачаць свет.

Пасля таго, як Пілатовіч чырвоным алоўкам падвёў вынік плёткам вакол маёй працы і Машэраў сваім подпісам выразіў салідарнасць з ім, не толькі часопіс апублікаваў заканчэнне запісак, але і выдавецтва «Беларусь» у тэматычны план на чацвёрты квартал 1972 года ўключала выхад іх у свет асобнай кнігай. Рукапіс быў адрэцэнзаваны У. М. Шыцікам і зноў дапрацаваны з улікам заўваг. Здавалася, што выданню кнігі адкрыта зялёная вуліца і нішто ўжо не перашкодзіць выхаду яе ў свет.

Але радавацца было рана. Пачаўся семдзесят другі год, а мне ўсё яшчэ не назначылі рэдактара і не было ніякіх размоў аб падрыхтоўцы кнігі да выдання. Пазваніў Андрэю Ягоравічу. Ён параіў перш за ўсё сустрэцца з кіраўнікамі выдавецтва, даведацца, у чым справа. Але і загадчык рэдакцыі Х. Дз. Жычка, і галоўны рэдактар М. А. Антоненка толькі тыцкалі пальцам у столь, маўляў, пярэчаць там, але канкрэтна нічога не маглі сказаць.

Расказаў я ўсё Андрэю Ягоравічу. Паведаміў яму і аб нашай размове на гэты конт з Пятром



**Пётр ЛЕБЕДЗЕЎ**

**(З УСПАМІНАЎ ПРА А. Я. МАКАЁНКА)**

# СЛОВА ПРА ТАВАРЫША

Міронавічам Машэравым, калі летам 1971 года быў у яго на прыёме па службовых справах. Тады Машэраў сам завёў размову пра кнігу. Аказваецца, ён чытаў яе ў часопісе і яна яму спадабалася. Ведаў аб маіх нядобразычліўцах і паабяцаў падтрымку. Макаёнак ухапіўся за гэта абяцанне і рэкамендаваў пісьмова звярнуцца да Машэрава...

Але рукапісу майму суджана было доўга яшчэ блукаць ад аднае адказнай асобы да другой. Тады так і не дачакаўся канкрэтнага адказу. Пра ўсё гэта я і расказаў пры сустрэчы Макаёнку.

Андрэй Ягоравіч уважліва выслухаў маю споведзь, параіў часова адкласці ўбок рукапіс «Шляхоў і перакрыжаванняў», але пяро не закідаць.

— Яны абышлі цябе з тылу і ўдарылі ў спіну, дарагі Пятро Лявонавіч. Зараз нічога мы не праб'ём. Трэба перачакаць. Час — лепшы суддзя...

І расказаў мне, як з-за высокапастаўленых «абаронцаў» інтарэсаў партыі не адна яго п'еса гадамі чакала свайго часу.

Ён параіў мне далей распрацоўваць партызанскую тэму. І сам усяляк дапамагаў асядлаць яе. Ён парэкамендаваў мяне выдавецтву «Маладая гвардыя».

Толькі зараз, калі настаў час новага мыслення і пераацэнкі старых каштоўнасцей, я зноў узяўся за работу над рукапісам кнігі «Шляхі і перакрыжаванні».

Не толькі дапамагаў мне Андрэй Ягоравіч асвойваць нялёгкую літаратурную працу. У 1967 годзе пры рэдакцыі бярозаўскай раённай газеты «Маяк камунізму» мы ўтварылі літаратурнае аб'яднанне «Крыніца». У яго напачатку ўвайшло каля дзесяці пачынаючых паэтаў і празаікаў раёна. Хутка сюды пацягнулася творчая моладзь і з суседніх раёнаў. Праз некалькі гадоў яно ўжо налічвала больш за дваццаць членаў.

У чарговы прыезд у сталіцу я расказаў Андрэю Ягоравічу пра гэтае літаратурнае аб'яднанне. Ён праявіў жывую зацікаўленасць. Паабяцаў прыслаць у Бярозу супрацоўнікаў часопіса і пазнаёміцца з работай аб'яднання, аказаць дапамогу маладым літаратарам, а таксама даў слова пры першай жа магчымасці прыехаць і сам.

Хутка літаб'яднанне наведаў загадчык аддзела паэзіі «Неман» Б. П. Спрынчан.

А неўзабаве прыехалі ў Бярозу Андрэй Ягоравіч Макаёнак і Георгій Лявонцьевіч Папоў. Яны прабылі ў раёне некалькі дзён, сустрэліся з крынічанамі, выступілі перад імі, адказалі на шматлікія пытанні. Сустрэча ператварылася ў своеасаблівы творчы семінар.

Андрэй Ягоравіч у той час працаваў над п'есай «Таблетку пад язык». Яму хацелася наведаць калгасы і саўгасы, сустрэцца з людзьмі. Мы адправіліся ў перадавы саўгас «Малеч». Дырэктарам там быў цікавейшы чалавек — Мікалай Нічыпаравіч Мазко.

Доўга гутарыў Андрэй Ягоравіч з Мікалаем Нічыпаравічам. Усё выпытваў, усё ўдакладняў. Яму да кожнай дробязі хацелася дайсці, памацаць уласнымі рукамі. Больш за ўсё цікавілі яго людзі, іх узаемаадносіны, быт, адпачынак.

З многімі сялянамі сустрэўся ў тыя дні наш драматург. Мы з Паповым любаваліся яго ўменнем ставіць пытанні, накіроўваць гутарку ў патрэбнае рэчышча. Ён хутка сыходзіўся з людзьмі, і яны адкрывалі яму сваю душу. Хоць па натуры Макаёнак быў гарачы, завадны, мог хутка ў кампаніі ўзяць верх і кіраваць у гутарках і спрэчках, але, аказваецца, ён умеў і слухаць, слухаць спакойна, самааддана, зацікаўлена. Слухаць доўга, не прамовіўшы ні слова. Так, навядзе чалавека на размову, закране яго жывую струну і потым упіваецца ў яго вачамі і ўважліва слухае, слухае, як губка вільгаць убірае ў сябе споведзь чалавека.

Умець слухаць людзей — гэта талент. Нездарма кажуць, што чалавек вучыцца гаварыць першыя два-тры гады пасля з'яўлення на свет божы, а слухаць — усё жыццё. Але некаторыя за ўсё жыццё так і не навучацца слухаць. Усё больш гавораць. А Макаёнак умеў, умеў гадзінамі выслухоўваць субяседніка, не прамовіўшы ні слова, прытым слухаць з цікавасцю, натхняючы таго, хто гаворыць...

**НА ЗВАРОТНЫМ** шляху, пад'язджаючы да апошняй саўгаснай вёскі Пастолава, я расказаў гасцям, што ў вайну амаль усіх мужчын гэтай вёскі расстралялі гітлераўцы за сувязь з партызанамі. З-за гэтага Пастолава і называецца «ўдовінай» вёскай. Хоць было ўжо позна, Андрэй Ягоравіч настаяў заверануць у вёску. Тут мы сустрэліся з даяркамі на ферме, а потым папалі ў дом Веры Грыбоўскай. Многае і адкрыта расказала яна пра сваё жыццё-быццё, пра цяжкую долю ўдавы, пра цяжкасці і нягоды, якія ўжо столькі гадоў прыходзіцца пераносіць удовам. Яна накарміла нас сваёй няхітрай вячэрай. Я еў і любаваўся Андрэем Ягоравічам, як ён з апетытам і асалодай уплятаў сялянскую капусту з бульбай у мундзірах. З задавальненнем выпіў ён і добрую чарку гарэлкі. Потым усю дарогу да Бярозы хваліў гасціннасць і душэўнасць гаспадыні...

У той час у Брэсце ў драматычным тэатры імя Ленінскага камсамола рыхтавалася прэм'ера яго трагікамедыі «Трыбунал».

Пабылі мы на прэм'еры. Спектакль прайшоў паспяхова. Гледачы былі ўзрушаны арыгінальнасцю твора, дзе праз прызму сапраўднага народнага аптымізму і жыццялюбства паказаны ўвесь драматызм падзей Вялікай Айчыннай вайны, патрыятызм савецкіх людзей, іх адданасць Радзіме.

Горача, шчыра, бурай апладысментаў сустрэлі гледачы пасля заканчэння пастаноўкі з'яўленне сярод акцёраў на сцэне тэатра аўтара п'есы. Яго літаральна закідалі кветкамі. Пасля кароткага, але глыбокага разбору станоўчых момантаў і недахопаў прэм'еры і ігры акцёраў, на якім выказалі свае заўвагі Андрэй Ягоравіч і галоўны рэжысёр тэатра народны артыст БССР Георгій Андрэевіч Волкаў, аўтар даў сціплую вячэру, на якую запрасіў усіх выканаўцаў.

Вярнуліся мы ў Бярозу позна ноччу, але яшчэ доўга сядзелі за шклянкаю чаю, абмяркоўвалі прэм'еру «Трыбунала». Макаёнак падараваў мне кнігу «Выбачайце, калі ласка», дзе ён напісаў: «Петро Леонович! Не боги горшки лепят! — это не я придумал. Поверь, что и ты можешь лепить горшки, как я, и даже лучше. Я ведь тоже — бывший партийный работник, а теперь горшки леплю». І на беларускай мове дадаў: «Я ў тваім доме першы, але не апошні раз. Мне тут спадабалася, і я яшчэ вярнуся».

І слова сваё Андрэй Ягоравіч стрымаў. Калі закончыў работу над камедыяй «Таблетку пад язык» і п'еса рыхтавалася да пастаноўкі ў Маскоўскім тэатры сатыры і гумару, Макаёнак папрасіў дазволу прыехаць у Бярозу на некалькі дзён з галоўным рэжысёрам гэтага тэатра Валянцінам Мікалаевічам Плучакам, яго жонкай Зінаідай Пятроўнай і заглітам гэтага ж тэатра Мартай Якаўлеўнай Лінецкай. Я з радасцю згадзіўся.

Не раз даводзілася мне сустракацца з Андрэем Ягоравічам у Мінску ў рэдакцыі часопіса і на яго дачы, у гасцініцы ў маім нумары і на яго кватэры, а пасля пераводу мяне ў Мінск — і на маёй кватэры. Калі ён атрымаў у Вайсковым завулку двухпакаёвую кватэру, радаваўся, як дзіця...

Колькі мне ні даводзілася сустракацца і быць у кампаніях з Андрэем Ягоравічам, ён заўсёды быў вясёлым, добразычлівым, кампанейскім. Душа ў яго заўсёды была адкрытая. Ад яго веяла цеплынёй і дабрадушнасцю, увагай і павагай да сяброў і таварышаў, імкненнем дапамагчы блізкаму і шчодра пачаставаць. Ён і сам любіў добра паесці і выпіць, не патрабаваў да сябе асаблівай увагі, але не цярпеў фальшу, хлусні, падлізвання, падхалімажу, скупасці...

У пачатку 1974 года мяне перавялі ў Мінск на работу ў Камітэт народнага кантролю БССР. Бярозе аддаў я трынаццаць лепшых гадоў свайго жыцця, адпрацаваў усе гэтыя гады першым сакратаром райкома партыі. Туды прыехаў маладым, а адтуль паехаў сівым.

У Мінску з Андрэем Ягоравічам сустракаліся мы часта на рабоце і ў мяне дома.

Апошні раз сустрэліся ў канцы верасня ракавога 1982 года. Ён цікавіўся маімі творчымі планамі, расказаў аб сваіх задумках. Пажартавалі, абмяняліся свежымі анекдотамі і разышліся. У дзень святкавання Вялікага Кастрычніка павіншавалі адзін аднаго па тэлефоне...

А 16 лістапада мая жонка пазваніла з бальніцы, дзе яна працавала, і паведаміла, што Андрэй Ягоравіч раптоўна памёр. Не хацелася верыць, што няма ўжо сярод нас гэтага вясёлага жыццялюба і цудоўнага таварыша...

Фота Уладзіміра КРУКА.

## НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

Беларуская народная песня «Ехалі салдацікі» належыць да старадаўніх салдацкіх песень і запісана мною ад дзвюх цудоўных народных спявачак — амаль 100-гадовай Пелагеі Яфімаўны Пырх і 77-гадовай Вольгі Іванаўны Пырх. Абедзве бабулькі амаль усё жыццё пражылі ў вёсцы Левашы, што на Гомельшчыне, маюць прапраўнукаў, але захавалі ў сваёй памяці мноства надзвычай прыгожых народных песень.

Альберт КАШПУР.




## ЕХАЛІ САЛДАЦІКІ

Ехалі салдацікі
Са службы дамоў,
На плячах пагончыкі,
На грудзях красты.

Торнаю дарожанькай
Едзе маладзец,
А тут на сустрэчаньку
Родненькі ацец.

— Здароў, здароў, баценька,
Ці жыва сям'я?
Ці жыва радзімая,
Дзе мая жана?

— Сям'я наша родная
Пакуль што жыва,
Но твая жанушанька
Сына прыжыла.

Сын пад'ехаў к варатам,—
Вышла маць з жаной.
Маць стаіць з улыбкаю,
Жана са слязой,

Стала маць сынка прасіць:
— Прасці, сын, жане...
— Стараніся, маць радна,
Не скрывай віну.

А жане-ізменніцы
Галаву зніму.
Заблішчэла шабелька
З-пад левай рукі.

ФАНАГРАМА

Нашым чытачам, напэўна, даводзілася чуць гэтае імя — «Рэй». Беларускі рок-гурт «Рэй» неаднойчы выступаў у тэлевізійных і радыёпраграмах, быў прызёрам фестывалю папулярнай музыкі «На Доўгім Бродзе-88» у Мінску, выступаў з канцэртамі ў Гародні і Драгічыне, у Мазыры і шэрагу іншых гарадоў рэспублікі, пра яго неаднойчы пісалася ў рэспубліканскай прэсе і нават у Польшчы. Як неаднаразовы пераможца хіт-парадаў Беларускага радыё «Рэй» запісаў на фірме «Мелодыя» адну са сваіх кампазіцый для дыска, які рыхтуецца радыёстанцыяй «Беларуская маладзёжная».



# „РЭЙ": каб не стылі душы

У 1988 годзе, ледзь аматары беларускага рока здолелі заўважыць на айчынным небасхіле ўзыходзячую зорку, у радыёпраграме «Фан-клуб» прагучала такое паведамленне: «Хоць «Рэй» і набраў найбольшую колькасць галасоў у другім міні-фінале хіт-парада «Беларускай маладзёжнай», першае месца яму вырашана не прысуджаць, бо калектыў распаўся».

Што ж здарылася тады?

Зрэшты, нічога. Проста, вядучы «Фан-клуба» Віталь Сямашка крыху паспяшаўся з высновамі, апярэджваючы падзеі: так, «Рэй» пакінулі гітарыст Юрась Андросік і бубнач Юрась Цынкевіч, але калектыў хутка знайшоў замену і працягваў дзейнічаць.

А як самі музыкі паставіліся да памылкі радыёжурналіста? Падстаў для прэтэнзій, трэба сказаць, не было, бо, як кажуць, не было б шчасця, каб няшчасце не дапамагло: «Фан-клуб» па-джэнтльменску прызнаў сваю абмоўку і ў якасці кампенсацыі прадаставіў «Рэю» студыйны час. Калектыў выкарыстаў яго з карысцю, запісаўшы шэраг новых кампазіцый. І ў хуткім часе з эфіру «Беларускай маладзёжнай» зноў гучаць інтрыгуючыя акорды беларускага авангарднага хэві-металу. Больш таго, следам за «Экалогіяй душы» кампазіцыя «Лебядзіны крык» таксама становіцца суперхітам. Рок-гурт прыцягвае яшчэ большую ўвагу да сваёй творчасці і — па прапанове Беларускага тэлебачання запісвае ажно два відэакліпы: «Лебядзіны крык» і «Храмы падаюць».

Трэба сказаць, што пасля відэакліпа «Ура!!!» групы «Бонда» беларускі рок не атрымліваў гэткага поспеху. Кліп «Храмы...», запіс якога праходзіў на руінах касцёла ў вёсцы Дубровы Валожынскага раёна, надзвычай пераканаўча, моваю музычных і паэтычных вобразаў ды ўдалай рэжысуры, адлюстраваў стан нашай духоўнай спадчыны, нашага духоўнага невуцтва:

**Храмы падаюць не раптоўна,**
**Не ад выбухаў дынаміту.**
**Мы найперш учыняем катоўні**
**Ім, каб сэрцам былі забыты...**
**...Выбух будзе, але не адразу.**
**Храмы ў душах руйнуюцца нашых.**

Што датычыцца стылістыкі, дык прыхільнасць да авангарднага металу выявілася ў гурту ад самага пачатку, калі ў 1987 годзе пры маладзёжным клубе «Пульс» БПІ пачынае ён рабіць першыя крокі. Андрэю Аляксандраву, скрыпачу, вакалісту і кампазітару гурту, не проста хацелася «пісаць модныя рытмы», а знайсці такі вобразны строй, каб ён мог данесці шматлікія думкі і пачуцці, якія яго турбавалі. Яго, натуральна, і сяброў, што і сёння разам з ім: гітарыст Ілья Шэўчык, басіст Мікола Машанскі і бубнач Сяржук Кашэль.

Пра што іхнія думкі, бадай, найлепей скажа песня-візітка «Рэя», якая паходзіць з аднае з першых праграм калектыву:

**Альбо быць, альбо — не —**
**ад нас залежыць —**
**Светлай долі вяртання твайго,**
**народ.**
**Рэй адродзім Скарыны**
**і Белай Вежы.**
**Усё, што ёсць і было,**
**каб не звёўся род.**
**Рэй, наш сцяг,**
**Рэй, каб не стылі душы...**

Што датычыцца асабіста аўтара гэтых радкоў, дык у музыцы «Рэя» для яго ўвасобіўся той ідэал, да якога даўно імкнуўся. Справа ў тым, што апошнім часам гэтак званыя «праблемнасць» і «злабадзённасць» закранулі нават танцавальную музыку, але ёсць нешта ад цынізму ў развясёлых скоках пад гэткі баявік, напрыклад, «Белфаст» ансамбля «Боні М». Дык вось «Рэй», уздымаючы балючую тэму, не задавальваецца падкладкай пад яе інтрыгуючага моднага рытму. Яшчэ тады для яго музыкі была характэрная частая змена рытмаў, шырокі спектр меладычных рашэнняў у рамках адной кампазіцыі. Магчыма, тым самым «Рэй» губляў частку слухачоў, бо музыка атрымлівалася не такая гладкая і слізкая, як камусьці хацелася. Дзеля чаго? Бадай, каб свядомасць слухача не праплывала на плаўных хвалях міма таго, што хочуць сказаць музыкі. На гэтым шляху гурт страціў гітарыста Андрэя Маркуца.

Спачатку прыхільнікі калектыву шкадавалі: як будзе гучаць «Рэй» з адной гітарай, ці не стане бяднейшай музыка? Аднак, аказалася, стала больш прасторы для скрыпкі, якая і ўносіла прыцягальную экзотыку ў хэві-рок «Рэя». Некалькі новых фанаграм з яго песнямі, прысвечанымі тэме сталінізму, тэмам духоўнасці і нацыянальнай свядомасці, трапілі ў Польшчу і — арыгінальная музыка настолькі прывабіла ўвагу, што ўжо ў снежні 1989 года рок-гурт атрымаў афіцыйнае запрашэнне на шэраг канцэртаў у ПНР і працу ў студыях гэтай краіны. Там жа ўжо аддрукаваны каляровы плакат беларускага рок-гурту (тыраж 2000 экземпляраў), ідзе прагонка кампазіцый па радыё... Так што, «Рэем» зацікавіліся сур'ёзна.

Хочацца верыць, што «Рэй» знайшоў сябе. І цяпер — назаўсёды. А тады застаецца толькі пажадаць: «Рэй, наш «Рэй»! Рэй, каб не стылі душы».

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**
**Фота Алены АДАМЧЫК.**





Цудоўны падарунак да 500-годдзя беларускага першадрукара зрабіла выдавецтва «Полымя» — выпусціла ў свет каляндар «Шляхамі Францыска Скарыны». Перагартайце старонкі гэтага маляўнічага, з любоўю і густам афармленага выдання і пераканаецеся, што за год вы не толькі пройдзеце жыццёвымі сцежкамі доктара Францыска, павандруеце разам з ім па Еўропе, пабываеце ў Полацку, Кракаве, Капенгагене, Познані, Вене, Празе, Венецыі, але і прасякнецеся духам эпохі Адраджэння, якая толькі на Беларусі акрамя Ф. Скарыны дала жыццё цэлай плеядзе таленавітых літаратараў — М. Гусоўскаму, С. Будному, В. Цяпінскаму, М. Сматрыцкаму, А. Філіповічу і многім іншым.

Кожная старонка календара ўзнаўляе пэўны этап з жыцця Скарыны, пра які цікава расказвае тэкст на беларускай, рускай і англійскай мовах, падрыхтаваны выкладчыкам Мінскага інстытута культуры Анатолем Цітовым. Тэкст ілюструюць і дапаўняюць шматлікія графічныя і жывапісныя творы вядомых майстроў XVI—XVII стст., лепшыя ўзоры тагачаснай архітэктуры, скульптуры, іканаграфіі, ювелірнага мастацтва. Шырока выкарыстаныя ў афармленні гербы, планы, гравюры гарадоў, партрэты дапамагаюць скласці ўяўленне аб горадзе, дзе пабываў Скарына, адчуць маральна-бытавую атмасферу таго часу.

Удалай знаходкай стала выкарыстанне ў календары гравюр XVI ст., у якіх прасочана тагачасная тэхніка кнігадрукавання — паказана праца перапісчыкаў кніг, пергаментшчыкаў, словалітчыкаў, гравёраў, фарбавальнікаў. Крок за крокам знаёмячыся з працай друкароў, разумееш, якой няпростай і працаёмкай справай было стварэнне кнігі ў тыя часы.

Заканчваецца каляндар гравюрным партрэтам Ф. Скарыны, змешчаным у ягонай «Біблії», і словамі з кнігі «Юдзіф», якія можна лічыць стрыжнем усяго жыцця беларускага першадрукара. «Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птици, летающие по воздъуху, ведают гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чуют виры своя; ...тако ж и люди, игде зродилися и скормлены... к тому месту великую ласку имають».

*Людміла ДЗМІТРЫЕВА.*
**Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.**

АКТУАЛЬНЫ ПОГЛЯД

# ХІМЕРА «МАРГІНАЛЬНАСЦІ» ЦІ РОДНА МЕЖАЧКА?

Аглядаючыся на той абсяг, які прайшла і абжыла славянская пісьменнасць за доўгія стагоддзі, беларус зноў і зноў знаходзіць сябе на крыжавых дарогах: на скрыжаванні славянскіх традыцый, на мяжы славян і балтаў (ці, можа, Балтыі, думаючы трохі геапалітычна?), на мяжы аселасці і дысперснасці, на парубежжы кансерватызму і навацый. Здаецца, гісторыя зноў паўтараецца. І трохі пасміхаецца. Але не ўсмешкай, якая маскіруе фарс, а хутчэй набывае рысы трагічнага аблічча.

Уніклівы чытач, спадзяюся, ужо лёгка ўгледзеў у маім трошкі завіла-мудрагелістым пачатку і крытычна-замілаванай назве празрыстую алюзію на вядомы афарызм пра тое, што гістарычныя трагедыі часта паўтараюцца ў выглядзе фарса, і на радок-цытату з народнага вайсковага матыву, апрацаванага Купалам: «Выбіраў жаўнер трэцю сцежачку, бо вяла яна ў родну межачку...».

Зараз, калі праходзяць Дні славянскай пісьменнасці, калі імя Скарыны на вуснах многіх — ад міністра культуры да выхаванца дзіцячага садка, калі паняцці «нацыянальная культура», «адраджэнне», «народ», не будучы як след асэнсаваныя, праз раптоўны імпэт арганізаванасавецкай кампаніі становяцца штампам, агульным месцам, адраджэнскім іерогліфам-заклінаннем, варта прыпыніцца, сесці ціха за той самы сімвалічны круглы стол, паглядзець адно аднаму ў вочы ды пагутарыць пра тое скрыжаванне славянскіх культур, пра тую блізкароднасць,— пагаварыць пра наш пракляты беларускі лёс...

Аналітычны погляд у мінулае дае падставы насельніку Полаччыны, Наваградчыны, Аршаншчыны ды іншых краёў нашай зямлі сказаць сабе: «Так, быў народ, была культура, была «дзяржаўна-этнічная пасіянарнасць», былі спадары ды дзецюкі ў гаспадарстве, але...»

І зноў шматкроп'е, і зноў алюзіі. Дык, можа, у гэтым наша беларуская сутнасць? А можа мы фікцыя хваравітага маргінальнага ўяўлення нейкага там Францішка з Полацка ды Мацея Бурачка? Калі наш гістарычны трунк выпілі за нас Іван Жахлівы ды Аляксей Міхайлавіч, калі цывілізаваная Люблінская вунія астудзіла наш «пасіянарны» гістарычны лёс, дык, можа, мы таго і вартыя? А можа мы набліжаемся да той мудрасці, як цыганы ці гэбрэі, што прызнаём пэўныя маральна-этычныя ма́ксімы, якія для эста ці летувоса з'яўляюцца неад'емныя, хімерай «маргінальнасці» ці «карлікавасці»? Дык, магчыма, ма́е рацыю «инженер Сергеев», які піша рэгулярна ў «Палітычны субяседнік», калі, ничтоже сумняшеся, сцвярджае, што «все белорусы испокон веков считали себя людьми русскими»? Відавочна, тады не памыляюцца члены «Русского Союза» горада Курска, калі патрабуюць «восстановить Россию в ее исторических границах», пакінуўшы Беларусі 30 тысяч квадратных кіламетраў. Значыць, трэба прыслухацца да парад Ільі Глазунова, дадзеных ім у інтэрв'ю таму ж «Палітычнаму субяседніку» (гл. нумар 12 за мінулы год), дзе вядомы рускі мастак раіць чытачам «Палітычнага субяседніка» асэнсаваць запавет вядомага манархіста, заснавальніка белага руху — Шульгіна В. В., які ў свой час выславіўся прыблізна такім чынам: «Слова «Расія» павінна пісацца так, каб літара «Р» ляжала на Польшчы, а літара «я» — на Японскіх астравах». Мы ж, як вядома, ляжым паміж Польшчай і Японіяй. У лістападзе мінулага года на Беларусі зарэгістравана таварыства «Отечество», прыхільнікі якога заклікаюць беларусаў збіраць грошы на аднаўленне храма Хрыста-ратаваценя (заклік сам па сабе добры!), называючы Беларусь «Западно-русский край». Гэты ліст-зварот быў змешчаны ў газеце «Литературная Россия». А мы робім выгляд, што нічога не здарылася...

Ужо гадоў пяць мы лямантуем пра лёс роднай мовы, прынялі закон пра яе дзяржаўны статус, а ў першым класе на рускую мову адведзена гадзін у сем разоў больш, чым на беларускую. «Ць-шш-шш! — прыкладае беларус палец да вуснаў.— Не ўжывайце слова «рускі», нас могуць няправільна зразумець, абвінаваціць у нацыяналізме! Пральецца кроў, а мы ж здаўна былі цярплівыя».

Ужо ў трох высокіх пастановах гаварылася пра неабходнасць перавесці частку тыражу (чаму не ўвесь тыраж?!) абласных газет «Гродненская правда» і «Заря» на нашу родную мову, але яны працягваюць выходзіць на мове Расійскай федэрацыі, як пры Кацярыне ці Мікалаю. Вядома ж, таварышу Сямёнаву, рускаму па нацыянальнасці, першаму сакратару абкома Гродзеншчыны, усё роўна, якую мову развіваць,— польскую ці беларускую. Ён ні на той, ні на другой не размаўляе. А ў час выбарчай кампаніі нават было вельмі добра разыгрываць «польскую карту», каб змагацца супраць беларускіх «нацыяналістаў» з «Паходні». Як тут не ўзгадаць пастанову яшчэ ленінскага па духу 12 з'езда РКП(б), у якой у пп. 10д і 10е адзначалася, што органы нацыянальных рэспублік павінны будавацца «по преимуществу из людей местных, знающих язык, быт, нравы и обычаи соответствующих народов»...

Я не супраць развіцця мовы і культуры розных нацыянальнасцяў, «якія кампактна пражываюць на тэрыторыі іншых нацыянальных рэспублік». Гэта цудоўна, калі людзі не забываюцца, хто яны ёсць. Так было на Беларусі ў 20-я гады. Дасведчаныя людзі памятаюць польскія адміністрацыйныя ўтварэнні на Койданаўшчыне. Дарэчы, з іх пачаліся сталінскія дэпартацыі. Але ж свята месца не бывае пуста. На Гродзеншчыне, да прыкладу, няма асяродка рускай культуры, які, напрыклад, ёсць у Рызе. Але ж пры задаўленай беларушчыне, пры актывізацыі царкоўнага жыцця ўвогуле і каталіцкага, у прыватнасці, пад уплывам станоўчых зру-

хаў у Польшчы, не можа не пачаць утварацца своеасаблівы культурны польскі «анклаў» тут, на гродзенскіх «тэрэнах». Мы, чытаючы трывожныя звесткі з Арменіі ды Азербайджана, з пагардай думаем пра сябе: «Якія мы інтэрнацыяналісты, якія мы гасцінныя. На нашу, нават атручаную Беларусь едуць бежанцы, атабарваюцца дэмабілізаваныя вайскоўцы». Мы ўпэўнены, што нам не пагражаюць «карабахі».

Але ці так гэта ўсё? Ці не быў Карабахскі карабах гамункулам імперскай абыякавасці да так званых «окраин», якія для іх насельнікаў былі і вялікай і малой Радзімай? Ці не можа ў нас на Гродзеншчыне або дзе-небудзь на «берасцейскай выспе крэсовай» выспець свой невялічкі карабахскі сіндром? У нас чамусьці не прынята простым публіцыстам выказваць свае асабістыя прагнозы, кіруючыся здаровым сэнсам, асабліва, калі гэта закранае так званыя дзяржаўныя праблемы. Мы ўсё чакаем сфармуляванага зверху ідэалагічнага іерогліфа-заклінання накшталт «новая историческая общность советский народ». Дастаткова пагля́дзець на суседнюю Літву, на Шальчынінкайскі раён, дзе ўжо два гады назад былі неканстытуцыйным шляхам утвораны польскія «апілінкі». Літоўскі ўрад, «Саюдзіс» спрабуюць вырашыць пытанне цывілізавана, наладжваючы кантакты з польскім урадам, «Салідарнасцю», касцёлам. Праблема надзвычай складаная.

Ці не закладаем мы падмурак, мякка кажучы, усялякіх нацыянальных непаразуменняў, калі цяпер спакойна назіраем за тым, як «Чырвоны штандар» (выходзіць у Вільні), а зараз «Кур'ер Віленьскі» ды «Магазын Віленьскі», пішучы пра Баранавічы, Ліду, Нясвіж і іншыя беларускія мясціны і іх насельнікаў, без сумлёву ўжываюць выразы «польскія тэрэны», «усходнія крэсы», «тутай наша земя», «край, дзе павінна гучаць «Рута»», і г. д. і да т. п. Калі я пішу «спакойна назіраць», я не маю на мэце заклікаць беларусаў ісці сцяной на палякаў ці акаталічаных беларусаў-неафітаў. Добра, калі чалавек заангажаваны нейкай культурай, хай сабе і не роднай. Я маю на мэце перш за ўсё звярнуць увагу на тое, што трэба проста моўчкі, без гвалту, зрабіць клопат пра свой народ, культуру дзяржаўнай палітыкай. Няхай польская культура развіваецца, не трэба ёй перашкаджаць, а наадварот — падтрымліваць.

Утворана група ў Гродзенскім універсітэце, дзе рыхтуюцца выкладчыкі польскай мовы — добра, едуць улетку настаўнікі на курсы польскай мовы ў Польшчу — цудоўна, вывучаецца польская мова ў «нядзельных школах», у гуртках і садках — варта толькі цешыцца, утытуляваны першы сакратар абкома званнем «Ганаровы грамадзянін Беластока» — таксама выдатна. Але ж трэба гэтак жа дбаць пра сваё! Гэта ж не інтэрнацыяналізм, а лёкайства.

Не трэба забывацца на тое, што афіцыйна асуджаны пакт Молатава — Рыбентропа, што адбыліся змены ў Румыніі, Польшчы, што з'явілася перспектыва аб'яднання Германіі. Гэта дасць імпульс новай сучаснай нацыянальнай актыўнасці. Пры большай адкрытасці краін, людзей, нацый агульны спакой і на нашай зямлі будзе залежаць не ў апошнюю чаргу ад разумнай раўнавагі, або, як цяпер любяць гаварыць, цывілізаванага кансэнсусу паміж рознымі суб'ектамі грамадзянскай супольнасці. Для гэтага трэба напоўніць паняцце «народ» сапраўды тым сэнсам, які б дазваляў яго разглядаць не як проста этнічны, а як дзяржаўна-этнічны феномен. Гэта можа дазволіць толькі зрабіць палітычны, эканамічны і дзяржаўны суверэнітэт.

Культурныя рухі, культурніцкія справы не толькі адлюстроўваць памкненні і тэндэнцыі, але і ўзровень усведамлення культурна-гістарычных рэалій з боку носьбітаў культурнай актыўнасці. Часта рухі маюць далёка не броўнаўскі характар. Так думаецца, калі зараз сярод буму гаворак пра славянскія культуры гутарка заходзіць пра пераклады рэлігійных тэкстаў на новыя мовы, у прыватнасці, пра пераклад Біблії на беларускую мову. Не робячы нават пабежнага агляду традыцый перакладу Святога пісьма на нашу мову, бо гэта тэма асобнай вялікай гутаркі, зазначу, што тая актывізацыя ўвагі не толькі з боку прафесіяналаў да засваення спадчыны скарынаўскіх перакладаў, вытлумачэнняў Цяпінскага, карпатлівых пошукаў А. Луцкевіча, уласных версій А. Станкевіча, У. Чарняўскага, А. Клышкі, В. Сёмухі (можна ўзгадаць і пераказ Старога запавету для дзяцей М. Клімковічам і М. Шайбаком) сведчыць пра ўздым нацыянальнай свядомасці на чарговай (якой ужо па ліку?) хвалі адраджэння.

І зноў, як шмат гадоў назад, становіцца ясна, што няма праблемы рэлігійнай, а ёсць праблема суверэнітэту, праблема культурнай і палітычнай незалежнасці нацыі. Вось глядзім мы на сваіх уніяцкіх братоў-украінцаў, што захапілі праваслаўны Траецкі храм. Вышэйшы іерарх Рускай праваслаўнай царквы заклікае братоў у Хрысце да розуму. А на вежы свецкага будынка, побач з Траецкім храмам, развіваецца жоўта-блакітны ўкраінскі нацыянальны прапар. Што гэта? Рэлігійны канфлікт? Не, гэта канфлікт, які вырас у выніку дзяржаўна-палітычных закалотаў старых часоў і руін сённяшняй унітарнай савецкай дзяржавы. Бо кожны ўдумлівы ўкраінец ведае сёння, што храм гэты сапраўды праваслаўны, але пабудаваны быў у гонар перамогі «рускага» войска над маскоўскім. Для ўкраінца позняга сярэднявечча маскоўская праваслаўная царква была своеасаблівай прэтэстанцкай царквой, якая адрынулася ад улоння святой царквы і пайшла на ўслужэнне маскоўскаму самадзержцу. Разумеючы гэта, лёгка дайсці, чаму уніяцкая царква для беларусаў і ўкраінцаў сімвалізуе «сваю» царкву, нацыянальную годнасць. Яна і прамаўляла да народа на роднай мове. Вось і ўсё.

Відавочна, што зараз, калі робяцца спробы перакласці Біблію на сучасную мову, нельга дапусціць, каб стварыліся тры зводы тэксту, тры варыянты мовы: праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая. Патрэбны «экуменічны» варыянт, які б аб'ядноўваў усе традыцыі. А ён можа з'явіцца толькі тады, калі будуць улічаны здабыткі «свецкай» мовы ва ўсіх галінах дзейнасці народа. Калі царква ў свой час па вядомых прычынах не магла ўскочыць на гістарычны нацыянальны цягнік, які так-сяк рухаўся праз пакуты «новага свету», яна павінна цяпер засвоіць тыя, хоць і няпоўныя, хоць і балесныя здабыткі штодзённага ўзнёслага сумоўя пад уладай новых цэзараў.

Вось сустракаем мы цяпер у літаратурнай, гістарычнай, філасофскай публіцыстыцы словы-дублеты: *пакута-эпітымія, святар-свяшчэннік, прыпавесць-прытча, кляштар-манастыр, початсвятых — лік святых, анёл-ангел* і г. д. Што рабіць? Ужываць першыя варыянты ці другія? Ці можна рускага «свяшчэнніка» назваць «святар»? Што накладалі на сябе раскольнікі,— *пакуту ці эпітымію*? А што расказваў Саламон,— *прыпавесці, прытчы*, а можа *показкі*?

Відавочна, што, як мова павінна існаваць для народа, а не народ для мовы, так і царква павінна існаваць для народа, а не народ для царквы. Фундацыя асобных цэркваў для беларускіх праваслаўных і каталіцкіх вернікаў дае надзею на тое, што гэта будзе спрыяць уніфікацыі і ўсталяванню новых абстрактных моўных адзінак у сферы духоўнага жыцця народа, яднаць добрыя намаганні ягоных лепшых сыноў, што мелі наканаванасць нарадзіцца на скрыжаванні культур, рэлігій, дзяржаўнага супрацьстаяння.

Калі нітка парванага часу будзе звязана, калі новы ўток натуральна перапляцецца з нашай магутнай гістарычнай асновай, якую заснаваў Францішак Скарына і ягоныя славутыя папярэднікі, калі культура нашых дзён не будзе кволым адбіткам чужога свята, а будзе самаразвівацца ў натуральным узаемадзеянні з суседнімі, толькі тады з нашай свядомасці адляціць хімера нашай уласнай маргінальнасці і нягеглае сіраты сярод «пасіянарных» суседзяў. Тады мы сапраўды скіруемся ў сваю родную межачку, што ўліваецца ў агульнаславянскі абсяг.

Толькі не трэба па-беларуску сціпла пытацца, заходзячы ў сваю хату: «Ці можна я тут пад лавай перасплю?» Тады не будзе ні старой трагедыі, ні новага фарса.

**Пётра САДОЎСКІ.**

Перапіска

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў МАСКВЕ

Хутка будзе год, як у Маскве ўтварылася таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны. Сёння ў сталіцы жыве 60 тысяч беларусаў, яны маюць сваю арганізацыю. Выканком Массавета зарэгістраваў наша таварыства, яно мае афіцыйнае прызнанне і працуе публічна, поруч з іншымі падобнымі арганізацыямі: аб'яднаннямі ўкраінцаў, армян, грузін і г. д. Старшынёй таварыства выбран Аляксей Канстанцінавіч Каўка, кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік, ён добра ведае беларускую культуру і выдатна валодае беларускай мовай.

У звароце да беларусаў, якія жывуць у Маскве і Падмаскоўі, гаворыцца: «Беларус не можа заставацца ўтрыманцам іншых моў і культур, не павінен адракацца ад мовы і культуры бацькоў, дзядоў, прадзедаў. У агульны інтэрнацыянальны дом беларусы — дзе б ні жылі — могуць і павінны несці свае спрадвечныя скарбы, каб па праву карыстацца духоўным багаццем іншых нацый... Мы ганарымся багаццем і славай Радзімы. Але і перажываем панесеныя страты. Прыкра і балюча занядбанне роднай мовы, гістарычнай памяці, нацыянальнай культуры, парушэнне экалагічнай, усёй духоўна-прыроднай раўнавагі чалавечага быту. «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!» — запавет Багушэвіча актуальны і дагэтуль!»

У таварыстве налічваецца зараз каля 200 членаў, жыхароў Масквы. За перыяд з дня арганізацыі (10 месяцаў) перад намі выступалі вядомыя беларускія пісьменнікі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Алесь Адамовіч, Генадзь Бураўкін і іншыя, мы праслухалі некалькі цікавых лекцый па гісторыі Беларусі. Праведзены сустрэчы з цікавымі землякамі-беларусамі, якія жывуць за мяжой. Да нас прыязджаў паэт і літаратуразнавец Ян Чыквін, які жыве ў Польшчы. Ён чытаў на чысцейшай беларускай мове свае вершы аб любві і памяці, радзіме і прыродзе. Гэта асноўныя матывы, блізкія сэрцу паэта. У Мінску сёлета выдадзен зборнік яго вершаў «Светлы міг».

Зусім нядаўна са ЗША ў Савецкі Саюз прыязджаў выканаўца беларускіх і ўкраінскіх песень Багдан Андрусішын — Данчык. Яго канцэрты паспяхова прайшлі ў Мінску, Вільнюсе, Полацку, Ленінградзе і Маскве. З амерыканскім госцем — беларусам, які нарадзіўся ў ЗША,— адбылася сустрэча членаў Маскоўскага таварыства беларускай культуры. Ён адказаў на шматлікія пытанні аб сваім жыцці ў Амерыцы, падзяліўся ўражаннямі аб Мінску, выканаў некалькі беларускіх і ўкраінскіх песень.

Як бачна нават з расказанага, маскоўскія беларусы праяўляюць вялікую цікавасць да роднай культуры і мовы. І не толькі дарослыя, але і іх дзеці.

Вось яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму:

— Вы хочаце пачуць беларускую мову ў Маскве? Калі ласка, прыходзьце ў нядзелю ў музей М. І. Калініна на праспекце Маркса, у самым цэнтры Масквы. Там працуе нядзельная беларуская школа, у якой займаюцца дзеці членаў Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны.

Ідэя стварэння гэтай школы належыць старшыні таварыства А. К. Каўка. Неўзабаве пасля арганізацыі нашага таварыства многія яго члены захацелі далучыць сваіх дзяцей і ўнукаў да беларускай культуры і мовы. Адміністрацыя музея М. І. Калініна прадаставіла вельмі ўтульнае памяшканне, а быць настаўніцай выказала жаданне Ганна Паўлаўна Рыжкоўская, беларуска, якая скончыла Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут і зараз працуе ў Маскве.

...Казкі, гульні, дзіцячыя песенькі. Так у свабоднай, амаль дамашняй абстаноўцы праходзяць заняткі ў самым цэнтры Масквы, на праспекце Маркса, у гэтай незвычайнай школе, арганізаванай Маскоўскім таварыствам беларускай культуры.

**Іван УХВАРОНАК,**
**член Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны.**

# ПАВОДЛЕ ЛУКІ СЬВ. ЭВАНГЕЛЬЛЕ

## РАЗЬДЗЕЛ 13

У той час прыйшлі некаторыя і расказалі Яму пра Галілеян, кроў якіх Пілат зьмяшаў з жэртвамі іх.

Ісус сказаў ім на гэтае: ці думаеце вы, што гэтыя Галілеяне былі больш грэшныя за ўсіх Галілеян, што яны пацярпелі гэткія мукі?

Не, кажу вам; але, калі не пакаецеся, усе таксама пагінеце.

Ці думаеце, што тыя восемнаццаць душ, на якіх звалілася Сілаамская вежа ды пабіла іх, больш вінаватыя былі за ўсіх жыўшых у Ерузаліме?

Не, кажу вам; але, калі не пакаецеся, усе таксама пагінеце.

І сказаў вось якую прыповесьць: нехта меў у вінаградніку сваім пасаджаную смакоўніцу і прыйшоў шукаць плоду на ёй і не знайшоў;

і сказаў вінаградару: вось я трэці год прыходжу шукаць плоду на гэтай смакоўніцы і не знаходжу; зрубай яе: на што яна і зямлю займае?

Але той сказаў яму ў адказ: гаспадар! пакінь яе і на гэты год, пакуль я акапаю яе і абкладу гноем:

ці ня дасьць плоду; калі-ж не, то на той год ссячэш яе.

У аднэй з школаў навучаў Ён у суботу;

і вось там была жанчына, восемнаццаць гадоў меўшая духа нядужасьці; яна была скорчыўшыся і не магла выпрастацца.

Ісус, угледзіўшы яе, паклікаў яе і сказаў ёй: жанчына! Ты вызвалена ад немачы твае.

І ўсклаў на яе рукі; і ўраз жа выпрасталася і пачала славіць Бога.

Пры гэтым начальнік школы, узлаваўшыся, што Ісус аздаравіў у суботу, сказаў народу: ёсьць шэсьць дзён, калі можна працаваць: у тыя і прыходзьце аздараўляцца, а ня ў дзень суботні.

Але Госпад сказаў яму ў адказ: крывадушнік: ці не адвязвае кожны з вас вала свайго ці асла ад ясьляў у суботу, і ці-ж не вядзе паіць?

А гэтую дачку Аўраамаву, якую зьвязаў шатан вось ужо восемнаццаць гадоў, ці-ж не належала зволыніць ад путаў гэтых у дзень суботні?

І, калі гаварыў Ён гэтае, усе ворагі Яго засароміліся; і ўвесь народ радаваўся з усіх слаўных дзеяньняў Яго.

Ён жа сказаў: да чаго падобна Царства Божае і да чаго прыраўную яго?

Яно падобна да зярняці гарчычнага, якое ўзяўшы пасадзіў чалавек у садзе сваім: і вырасла і сталася вялікім дрэвам, і птушкі нябесныя хаваліся ў галінах яго.

Яшчэ сказаў: да чаго прыраўную Царства Божае?

Яно падобна да рашчыны, якую жанчына ўзяла й палажыла ў тры меры мукі, пакуль ня скісла ўсё.

І праходзіў па местах і сёлах, навучаючы і кіруючы шлях свой да Ерузаліму.

Нехта сказаў Яму: Госпадзе! Няўжо-ж мала такіх, што спасаюцца? Ён жа сказаў ім:

Старайцеся ўвайсьці праз цесныя вароты, бо, кажу вам, многія будуць намыкацца ўвайсьці ды ня здолеюць.

Калі гаспадар дому ўстане і зачыніць дзьверы, тады вы, стоячы вонках, пачнецё стукаць у дзьверы і казаць: Госпадзе! Госпадзе! адчыні нам! Але Ён скажа нам у адказ: ня ведаю вас, адкуль вы.

Тады пачнецё гаварыць: мы елі й пілі перад Табою, і на вуліцах нашых навучаў Ты.

Але Ён скажа: кажу вам: ня ведаю вас, адкуль вы; адыдзеце ад Мяне ўсе, што чыняць няпраўду.

Там будзе плач і скрыгот зубоў, калі ўбачыце Аўраама, Ізаака і Якава і ўсіх пракорокаў у Царстве Божым, вас жа праганяць вон.

І прыдуць з усходу і захаду, і поўначы і паўдня, і сядуць за сталом у Царстве Божым.

І вось ёсьць апошнія, што будуць першымі, і ёсьць першыя, якія будуць апошнімі.

У гэны дзень прыйшлі некаторыя з фарысэяў і гаварылі Яму: Ідзі сабе згэтуль, бо Цябе Ірад хоча забіць.

І сказаў ім: пайдзеце скажэце гэтай лісіцы: вось выганяю дэманаў і аздараўляю сягоньня і заўтра, а на трэці дзень будзе мне канец.

Толькі-ж мушу йсьці сягоньня і заўтра і пасьлязаўтра, бо ня можа стацца, каб прарок пагіб вонках Ерузаліму.

Ерузалім! Ерузалім! Ты, што забіваеш пракорокаў і камяньмі закідаеш пасланых да цябе! Колькі разоў хацеў Я сабраць дзяцей тваіх, як птушка птушанят сваіх пад крыльлі, і не хацелі.

Вось жа пакідаецца вам дом ваш пусты. Кажу-ж вам, што вы ня ўбачыце Мяне, пакуль ня прыйдзе час, калі скажаце: багаслаўлены, што ідзе ў імя Госпада.

## РАЗЬДЗЕЛ 14.

І сталася, прыйшоў Ён у суботу ў дом аднаго з начальнікаў фарысэйскіх зьесьці хлеба, і яны сачылі Яго;

і вось перад Ім зьявіўся чалавек, хворы на вадзянку.

І, азваўшыся, сказаў Ісус законьнікам і фарысэям: ці дазваляецца аздараўляць у суботу?

Яны маўчалі. І, дакрануўшыся, аздаравіў яго і адправіў.

Пры гэтым сказаў ім: калі ў каго з вас асёл ці вол упадзе ў студню, ці ня ўраз выцягне яго ў суботу?

І не маглі адказаць Яму на гэтае.

Заўважыўшы-ж, як запрошаныя выбіралі першыя месцы, сказаў ім прыповесьць:

Калі запросіць цябе нехта на вясельле, не сядай на першае месца, каб не надарыўся хто паважнейшы за цябе спаміж запрошаных ім,

і каб той, што прасіў цябе і яго, падыйшоўшы не сказаў бы табе: дай яму месца; і тады з сорамам павінен будзеш сесьці на апошняе месца.

Але, калі запрошаны будзеш, прыйшоўшы сядай на апошняе месца, каб той, што прасіў цябе, падыйшоўшы сказаў: дружа! перасядзь вышэй; тады будзе табе пашана перад седзячымі з табою;

бо кожын, хто сам сябе вывышшае, будзе паніжаны, а хто сябе паніжае, будзе ўзвышаны.

Сказаў жа і запрасіўшаму Яго: калі ладзіш абед, ці вячэру, ня кліч сяброў тваіх, ні братоў тваіх, ні сваякоў тваіх, ні суседзяў багатых, каб і яны цябе не запрасілі некалі, і ты не дастаў адплаты.

Але, калі ладзіш, заклікай убогіх, калекаў, кульгавых, сьляпых.

І шчасьлівы будзеш, што яны ня змогуць адплаціць табе, бо аддасца табе ў ускрасеньне праведных.

Пачуўшы гэтае, нехта з суначваўшых з Ім сказаў Яму: шчасьлівы, хто пакаштуе хлеба ў царстве Божым.

Ён жа сказаў яму: адзін чалавек справіў вялікі банкет і паклікаў многіх;

і, калі настаў час банкету, паслаў слугу свайго сказаць запрошаным: — ідзеце, бо ўжо ўсё гатова.

І пачалі ўсе, быццам змовіўшыся, прасіць прабачэньня. Першы сказаў яму: я купіў зямлю, і мне трэба пайсьці паглядзець яе; прашу цябе, выбач мне.

Другі сказаў: я купіў пяць пар валоў і йду пробаваць іх; прашу цябе, выбач мне.

Трэці сказаў: я ажаніўся і дзеля гэтага не магу прыйсьці.

І, вярнуўшыся, слуга той пераказаў гэтае гаспадару свайму. Тады, разгневаўшыся, гаспадар дому сказаў слузе свайму: пайдзі хутчэй па вуліцах і вулках места і прывядзі сюды ўбогіх, калекаў, кульгавых, сьляпых.

І сказаў слуга: гаспадар! сталася, як ты сказаў, і яшчэ ёсьць месцы.

І гаспадар сказаў слузе: пайдзі па дарогах і ля платоў і ўгавары прыйсьці, каб напоўніўся дом мой;

бо кажу вам, што ніхто з тых, што былі прошаны, не пакаштуе мае вячэры.

І вялікія грамады йшлі за Ім: і Ён, абярнуўшыся, сказаў ім:

Калі хто прыходзіць да Мяне і не зьненавідзіць бацьку свайго і матку, і жану, і дзяцей, і братоў, і сёстраў, а пры тым і самае жыцьцё сваё, той ня можа быць вучнем Маім;

і хто не нясе крыжа свайго і йдзе за Мною, ня можа быць вучнем Маім.

Бо хто з вас, надумаўшы башту стаўляці, ня сядзе раней і не аблічыць выдаткаў, ці мае, каб дакончыць яе,

каб, калі палажа фундамент і ня здолее дакончыць, усе, гледзячы, ня сталі сьмяяцца з яго,

кажучы: гэты чалавек пачаў будаваць башту і ня мог дакончыць!

Або ці які цар, ідучы на вайну супраць другога цара ня сядзе і не парадзіцца раней, ці здолее ён з дзесяцьма тысячамі даць адпор таму, хто йдзе на яго з дваццацьма тысячамі;

бо, калі не, дык пакуль той яшчэ далёка, ён пашле да яго пасольства прасіць міру.

Гэтак кожны з вас, хто не адрачэцца ад усяго, што мае, ня можа быць Маім вучнем.

Соль добрая рэч; але калі соль згубіць сілу, чым паправіш яе?

Ні ў зямлю, ні ў гной не надаецца, вон выкідаюць яе. Хто мае вушы слышаць, няхай слухае.

РАЗЬДЗЕЛ 15.

Падыходзілі да Яго ўсе мытнікі і грэшнікі слухаць Яго.

І наракалі фарысэі і кніжнікі, кажучы: Ён прыймае грэшнікаў і есьць разам з імі.

Але ён сказаў ім вось гэткую прыповесьць:

Хто з вас, маючы сто авец і згубіўшы адну з іх, не пакіне дзевяцьдзесят дзевяць у пустыні і ня пойдзе за прапаўшай, пакуль ня знойдзе яе?

А, знайшоўшы, возьме яе на плечы свае з радасьцю;

і, прыйшоўшы дамоў, скліча сяброў і суседзяў ды скажа ім: пацешцеся са мною: я знайшоў маю прапаўшую аўцу.

Кажу-ж вам, што так на нябёсах балей будзе радасьці з аднаго каючагася грэшніка, чымся дзевяцьдзесятдзевяцёх праведнікаў, ня маючых патрэбы ў пакаяньні.

Ці якая жанчына, маючая дзесяць драхмаў, калі згубіць адну драхму, не засьвеціць сьвечкі й не пачне мясьці пакою і шукаць пільна, пакуль ня знойдзе?

А, знайшоўшы, скліча сяброўак і суседак ды скажа: пацешцеся са мною, я знайшла згубленую драхму.

Так кажу вам: бывае радасьць у ангелаў Божых з аднаго грэшніка, які каецца.

Яшчэ сказаў: у аднаго чалавека былі два сыны;

і сказаў малодшы з іх айцу: Бацька, дай мне належную мне частку маемасьці. І ацец падзяліў ім маемасьць.

І праз нейкі час малодшы сын, сабраўшы ўсё, пайшоў у далёкую старану і там змарнаваў маемасьць сваю, жывучы распусна.

Калі-ж пражыў усё, настаў вялікі голад у гэнай старане, і ён пачаў галадаць;

і пайшоў прыстаў да аднаго з жыхароў стараны гэнае, а той паслаў яго на поле сваё пасьвіць сьвіней;

і ён рады быў бы наесца ражкамі, што елі сьвіньні, але ніхто не даваў яму.

І, апамятаўшыся, сказаў: колькі наймітаў у айца майго маюць лішку хлеба, а я ўміраю ад голаду!

Устану, пайду да бацькі майго і скажу яму: ацец! я саграшыў перад небам і перад табою,

і ўжо ня варты называцца сынам тваім; прыймі мяне, як аднаго з наймітаў тваіх.

Устаў і пайшоў да айца свайго. І калі ён быў яшчэ далёка, згледзіў яго ацец яго і зьлітаваўся, і пабегшы кінуўся яму на шыю і цалаваў яго.

Сын жа сказаў яму: ацец, я саграшыў проці неба і перад табою і ўжо ня варты называцца сынам тваім.

А ацец сказаў слугам сваім: прынясеце найлепшую адзежу і адзеньце яго, і дайце персьцень на руку яго і вобуй на ногі;

і прывядзеце кормнае цялё і закалеце: будзем есьці і весяліцца,

бо гэты сын мой быў умёршы і ажыў, прападаў і знайшоўся. І пачалі весяліцца.

Старшы-ж сын яго быў у полі; і, варочаючыся, як падыйшоў да дому, пачуў сьпевы і скокі.

І, паклікаўшы аднаго з слуг, спытаўся: што гэта такое?

Той жа сказаў яму: брат твой прыйшоў, і бацька твой закалоў кормнае цялё, бо прыняў яго здаровым.

Ён жа ўзлаваўся і не хацеў увайсьці, а бацька яго, выйшаўшы, клікаў яго.

Але ён сказаў у адказ бацьцы: вось я колькі гадоў служу табе і ніколі не пярэчыў прыказаньням тваім. Але ты ніколі ня даў мне і казьляці, каб мне павесяліцца з сябрамі маімі;

а калі гэты сын твой, марна страціўшы маемасьць сваю з блудніцамі, прыйшоў, ты закалоў для яго кормнае цялё.

Ён жа сказаў яму: сын мой! ты заўсёды са мною, і ўсё маё — тваё;

а з таго трэба было цешыцца і весяліцца, што брат твой гэты быў умёршы і ажыў, прападаў і знайшоўся.

*Ганарар за ілюстрацыю аўтар пералічвае на рахунак № 702301 Белжылсацбанка г. Мінска на помнік Францыску Скарыне.*



## СЛУЖБА



## ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**ПАРАДАКСАЛЬНА, ЯК ГАВОРЫЦЦА, АЛЕ ФАКТ: ЧЫТАЧЫ ДА РАДКА, ДА ЛІТАРКІ ВЫВУЧАЮЦЬ АБ'ЯВЫ НАШЫХ АБАНЕНТАЎ, АКТЫЎНА АДГУКАЮЦЦА НА ІХ, А ВОСЬ ТОЕ, З ЧАГО ВАРТА ПАЧЫНАЦЬ ЗНАЁМСТВА З «УЗАЕМАДАПАМОГАЙ»,— УМОВЫ ЯЕ РАБОТЫ,— ВЕЛЬМІ ЧАСТА ПАКІДАЮЦЬ ПА-ЗА ЎВАГАЙ. МОЖА, МЫ І НЕ ПРЫГАДВАЛІ Б ГЭТЫ ПРЫКРЫ ФАКТ, КАЛІ Б ЁН ЧАС АД ЧАСУ НЕ ВЫКЛІКАЎ СУР'ЁЗНЫЯ НЕПАРАЗУМЕННІ ПАМІЖ РЭДАКЦЫЯЙ І ЧЫТАЧАМІ.**

**ТАМУ МЫ МУСІМ ПЕРЫЯДЫЧНА ПАЎТАРАЦЬ УМОВЫ РАБОТЫ «УЗАЕМАДАПАМОГІ», ШТО РОБІМ, ЯК АБЯЦАЛІ Ў ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ, І СЁННЯ.**

■

**Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» створан у нашым часопісе, каб даць людзям магчымасць зрабіць адзін аднаму паслугу, аказаць дапамогу, знайсці сяброў.**

■

**Аб'явы ва «Узаемадапамозе» публікуюцца бясплатна.**

■

**Аб'явы могуць змяшчацца за подпісам аўтара ці, калі ён таго пажадае, мець лічбавы індэкс. У водгуках жа просім абавязкова пазначаць індэкс аб'явы, якая вас зацікавіла, што дазволіць нам у найкарацейшы тэрмін звязаць вас з патрэбным чалавекам.**

■

**Паколькі «Узаемадапамога» атрымлівае надзвычай многа пісьмаў, мы не можам весці перапіскі з асобнымі аўтарамі. Ды і мэта аддзела іншая: чытачы павінны самі адказваць адзін аднаму.**

■

**Адрасы тых, чые аб'явы былі надрукаваны пад кодам, рэдакцыя не дасылае. Калі вы вырашылі звязацца з тым ці іншым аўтарам надрукаванай аб'явы, дашліце пісьмо ў рэдакцыю і ўкажыце лічбавы індэкс ліста, які вас зацікавіў.**

■

**Калі вы адгукнуліся на аб'яву, якая была надрукавана ў часопісе, а адказу не дачакаліся, не трэба крыўдаваць на рэдакцыю — мы робім сваю справу дакладна і ўсе пісьмы знаходзяць сваіх адрасатаў. Значыць, сам чалавек, які вас зацікавіў, не знайшоў магчымасці вам адказаць.**

**Карыстаючыся выпадкам, заклікаем тых, чые аб'явы трапілі на старонку часопіса, абавязкова адказваць на ўсе лісты, якія мы вам дасылаем.**

### НЕ МАГУ ЗАБЫЦЬ ЦЯБЕ, БЕЛАРУСЬ!

Прайшло ўжо 25 гадоў з тае пары, як я развіталася з роднай Беларуссю. Але ніколі не забываю яе дарагі сэрцу вобраз, яе прыроды, яе людзей. Выпісваю шмат часопісаў і газет на роднай мове, з задавальненнем чытаю іх. Сачу за кожнай, хай нават і невялікай, інфармацыяй пра мой родны край, радуюся поспехам землякоў. Што год адпачываю ў бацькоў, якія жывуць у Беларусі.

Мне зараз 42 гады. У 30 пахавала мужа, засталася з двума сынамі — сямі і аднаго гадоў. З якімі цяжкасцямі выхоўвала іх, пры жаданні можа ўявіць сабе кожны. Але ў той час я вырашыла — буду жыць толькі для дзяцей. Між тым, прайшло 12 гадоў. Дзеці выраслі. Старэйшы сын служыць у арміі, у малодшага таксама з'явіліся свае інтарэсы. І я ўсё часцей застаюся дома адна. А ў мяне шмат інтарэсаў. Галоўныя з іх — вязанне і вырошчванне кветак. Я вельмі жадала б дзяліцца парадамі з сапраўднымі аматарамі гэтай прыгажосці. Хачу звярнуцца і да тых чытачоў «Беларусі», якія, мабыць, і не цікавяцца ні вязаннем, ні кветкамі, але ў іх проста з'явілася жаданне напісаць мне,— пішыце! Я буду рада кожнаму лісту з роднай Беларусі, на кожны абавязкова адкажу. Пішыце ўсе, хто хоча са мной пазнаёміцца.

**Валянціна.** г. Іванава. (260).

**«ЁСЦЬ ПРАПАНОВА!»**

### ЧАРОЎНАЯ «НАТАША»

Калі да вас прыйшлі госці ці вы проста захацелі зрабіць прыемнае сваім сябрам, блізкім і ў вас ёсць вольная часіна, раю вам зрабіць для ўсіх невялікі сюрпрыз — прыгожы і смачны торт, які мой муж назваў «Наташа».

Адразу зазначу: торт з чатырох каржоў, паміж якімі — крэм са смятаны. Упэўнена, што рэцэпт крэму ў кожнай гаспадыні свой, але я прапаную вось такі: шклянку смятаны ўзбіць з 3/4 шклянкі цукру.

А цяпер пра каржы. Адразу выпякаюцца два вялікія каржы, якія разразаюць напал, каб атрымаліся чатыры танейшых. Для аднаго вялікага каржа патрабуецца: па-



чак заварнога крэму (дарэчы, такі крэм прадаецца ў магазінах), 3 сталовыя лыжкі мукі, 1 сталовая лыжка цукру, 1/2 чайнай лыжкі соды, гашанай воцатам, 2/3 шклянкі малака. У другі корж, апроч названага, дадайце 2 чайныя лыжкі какава.

Вось каржы спечаны (а робіцца гэта ў гарачай духоўцы), астуджаны, разрэзаны. Цяпер неабходна добра змазаць іх крэмам і скласці ў стосік. Перад вамі напалову гатовы торт з белаю, як чысты кружок паперы, паверхняю. На яе так і просіцца цудоўны малюнак! І яго трэба стварыць. «Твар» свайму торту прыдумайце самі. Упрыгожце яго раздробленым ядром грэцкіх арэхаў, чарнаслівам, разынкамі, шакаладам ці яшчэ чым — больш прыгожым, каштоўным, цікавым. Паспыталі? Падабаецца? Тады прыемнага апетыту, сябры!

А да вас, дарагія гаспадынькі, хачу звярнуцца з ініцыятывай: давайце дапамагаць адна адной, дзяліцца сваімі гаспадарчымі сакрэтамі і «вынаходствамі»! А «Узаемадапамога», спадзяюся, падтрымае нас!

**Наташа**, г. Мінск. (261).

## ПАРАІЛІ СЯБРЫ...

Да вас звярнуцца параілі сябры. Я спадзяюся на вашу дапамогу.

Найперш раскажу пра сябе. Мне 38 гадоў. Разведзены. Рост 170 см, сярэдняй камплекцыі. Па нацыянальнасці — яўрэй. Жыву ў невялічкім раённым цэнтры Беларусі. Апантаны кнігалюб і шахматыст. Захапляюся турызмам. Люблю хатнюю ўтульнасць. Не куру і не захапляюся спіртнымі напіткамі. Жадаў бы пазнаёміцца са статнай сімпатычнай жанчынай, якая не толькі любіць хатнюю ўтульнасць, але і ўмее яе стварыць. Узрост — у межах разумнага. Пажадана без дзяцей. З задавальненнем адкажу на кожную прапанову.

**Марк.** (262).

## ПАЧУЦЦЁ ГУМАРУ НЕ СТРАЧУ!

Ведаеце такія радкі: «Жизнь, пошли мне случайную встречу, соверши невозможный виток...»? Не ведаю, як жыццё, але «Служба ўзаемадапамогі», мабыць, нешта зменіць...

Рост 168, вага 68, узрост 35. Знешні выгляд сумненняў не выклікае. Была замужам, маю дачку і сына.

Пазнаёмлюся з мужчынам, які здолее даць мне шчаслівае пачуццё абароненасці — адно з галоўных падсвядомых пачуццяў, якімі адорвае жанчыну сапраўдны рыцар і без якіх жаночае каханне памірае.

Ад шматлікіх пісьмаў пачуццё гумару не страчу.

**Алена.** (263).

## СПОРТ, СПОРТ, СПОРТ...

Мне 30 гадоў, завуць Леанід. Страсны аматар і калекцыянер футбольных і хакейных атрыбутаў (значкі, вымпелы, праграмкі...). У мінулым — сам быў спартсменам, нават чэмпіёнам БССР па кіданню молата сярод юніёраў. Значкі збіраю ўжо 20 гадоў.

Хай напішуць мне тыя, хто падзяляе мае інтарэсы, каго зацікавяць мой вопыт і веды, хто нечым зможа ўзбагаціць мяне і маю калекцыю.

Мой адрас: 220050, Мінск-50, а/я № 329.
**ЖАВАРАНКАЎ Леанід Мікалаевіч.**

## НЕ ЦЕШЫЎ МЯНЕ ЛЁС

Выхоўвалася я ў школе-інтэрнаце. Нядаўна памерлі бацькі, і я засталася зусім адна ў вялікім вясковым доме. А ўсякіх хатніх спраў — процьма! У кожным, здаецца, куточку патрэбна пільнае мужчынскае вока. Паверце, ніколі не пісала б ў рэдакцыю, калі б не верыла, што недзе ёсць чалавек, якому я патрэбна. А пакуль нібы адна іду супроць цячэння...

Я хоць знешне і прывабная, але не прыгажуня. Добраму, сціпламу, сур'ёзнаму чалавеку аддала б руку і сэрца. Пажадана, каб ён быў ва ўзросце 30—40 гадоў. Я сірата, за мяне няма каму заступіцца, а так хочацца, каб у жыцці хоць крышку пашчасціла.

Маю вышэйшую адукацыю, вельмі добрую любімую работу (працую ў Мінску). Неблагая гаспадыня, вельмі люблю дзяцей.

Пра мае іншыя вартасці даведаецца той, хто мне напіша.

Мой адрас: 220050, г. Мінск, Галоўпаштамт, уладальніку пашпарта Х-ВН № 550786.

## ЗНАЙСЦІ ЖАНЧЫНУ!

Дасціпна гавораць французы: «Шукайце жанчыну!». Вось і я звяртаюся да вас: дапамажыце яе знайсці. Ужо дзесяць гадоў халасцякую (жонка памерла ад сардэчнага прыступу). Пакуль дзеці былі малыя, не адчуваў адзіноты, не заўважаў, які хуткаплынны час. А зараз на ўласным вопыце пачынаю ўсведамляць, што гэта такое — адзінота.

Мне 48 гадоў, рускі. Адукацыя вышэйшая, да спіртнога раўнадушны, тым больш, што часта даводзіцца ездзіць на аўтамашыне.

Дарагая рэдакцыя! Калі гэта магчыма, дапамажы знайсці жанчыну, можа, яна дзе-небудзь зусім побач і адгукнецца.

**Павел Рыгоравіч.** (264).

Падрыхтавала Алена **ШАБАЛІНА.**
Фота Віктара **МІКАЛАЕВА.**





«Зразумейце, нельга да апошняй хвіліны чакаць свайго выязнога пашпарта або, дапусцім, хадзіць і тлумачыць нейкаму чыноўніку, навошта табе трэба тры разы выехаць, а не два, восем разоў, а не сем... Многія нашы спартсмены і артысты прывязджаюць за мяжу ў стане, калі яны ўжо не думаюць пра тое, навошта, уласна, яны прыехалі. Гэта, вядома, прыносіць непапраўную шкоду. Нехта проста губляе прафесіяналізм, або скочваецца ў п'янства, нехта ідзе на кампраміс і становіцца чыноўнікам уласнай кар'еры, якая завяршаецца пяціканцовай зорачкай к 60—70 гадам. Гэта таксама канец. Канец страшны. А трэцяе выйсце — гэта разрыў з сістэмай і ад'езд. Эміграцыя».

(З артыкула «Я — савецкі чалавек, які жыве свабодна». Часопіс «Наука и техника», № 2, 1989 г.)

# НЯЛЁГКІЯ ГУЛЬНІ

Так, ім прапаноўвалі застацца ў ЗША. Спачатку — асцярожна высвятляючы настрой і спрабуючы зазірнуць «усярэдзіну». Потым — замяніўшы не зусім шчырыя разважанні аб становішчы савецкіх спартсменаў на адкрытую прапанову: «Заставайцеся!». Не, не і яшчэ раз не! Марат Мікалаевіч Звераў пераканана і шчыра паўтарае: «Мы з Наташай і не думалі заставацца за акіянам. Навошта гэта? У імя чаго? Мы патрыёты Радзімы, і думка пакінуць СССР у нас нават не ўзнікала».

Чаму ж вакол падзеі (заключэнне Наталляй Зверавай кантракта з амерыканскай фірмай «Про Серв» без звычайнага пасрэдніка) разгарэліся гарачыя спрэчкі? Чаму (няхай даруюць мне калегі з некаторых цэнтральных органаў друку) прэса, няхай і не ў большасці сваёй і не вельмі дружна, але ўсё ж паставіла пад сумненне разважлівасць і прыстойнасць адной з мацнейшых ракетак свету, васемнаццацігадовай выхаванкі мінскага СКА майстра спорту міжнароднага класа Наталлі Зверавай.

Магчыма, збянтэжыла неардынарнасць падзеі. Магчыма, давайце скажам пра гэта адкрыта, кантакт, устаноўлены асабіста, балюча закрануў нейчыя інтарэсы. Меркаванняў можа быць мноства. Але мы пачнём з рэальнага факта: з 442 тысяч долараў, сумлення — уласнымі нервамі, розумам і майстэрствам — зароблены за 1988 год, Наталля Зверава атрымала на рукі (ну, смялей у меркаваннях!)... 14 тысяч. Які гэта мізэр у працэнтах — падлічыць нескладана. Падлічыць і падзівіцца несправядлівасці.

Для параўнання прыгадаем закон, які дзейнічае ў нашай краіне: чалавек, які знайшоў клад, здае яго дзяржаве. А за прыстойнасць і сумленне, за своеасаблівую матэрыяльную падтрымку грамадства атрымлівае чвэрць ад агульнай сумы знойдзенага, што ў лічбах выглядае іншы раз вельмі самавіта. Распараджаецца гэтымі грашамі шчаслівчык па свайму жаданню. Чаму ж тады, напрошваецца пытанне, спартсмен не можа асабіста распарадзіцца нават не тым, што выпадкова знайшоў, а сваім кроўным, што зарабіў салёным потам, большую частку жыцця правёўшы, як у дадзеным выпадку Наташа Зверава, на кортах?

Паведамленне са ЗША аб заключэнні кантракта з «Про Серв» на многіх зрабіла «моцнае» ўражанне. Да гэтага ніхто з нашых спартсменаў не падпісваў нічога падобнага. Усе перагаворы ад іх імя вёў Дзяржкамспорт СССР або яго падраздзяленне — «Савінтэрспорт». Іх дзейнасць у гэтай галіне дастаткова актыўная, хоць нярэдка сур'ёзна крытыкуецца як самімі спартсменамі, так і сродкамі масавай інфармацыі. Аднак... Ніякая іншая арганізацыя ў абарону, напрыклад, тэнісістаў не выступае, ніхто іншы не бярэцца прадстаўляць інтарэсы спартсменаў.

Наташа не ўтойвала матывы свайго рашэння. Магчыма з той прычыны, што ёй толькі-толькі споўнілася 18 гадоў, а ў гэтым узросце чалавек бывае адкрытым і смелым. Яна заявіла, што не жадае, іграючы як роўная з «зоркамі» жаночага прафесійнага тэніса, заставацца ў становішчы «беднай сваячкі». Жадае поўнасцю атрымліваць прызавыя сумы, якія ёй належаць, а не ў шмат разоў меншыя прэміяльныя. Да таго ж, дадала, яна мае намер і надалей цесна супрацоўнічаць з Федэрацыяй тэніса СССР у розных галінах і падтрымліваць сваю краіну як у фінансавых адносінах, так і ва ўсіх міжнародных спаборніцтвах.

Дарэчы (а можа, і не зусім дарэчы) — пра «бедных сваякоў». Былі моманты ў жыцці бацькі і дачкі Зверавых, ну, проста незразумелыя... Яго, трэнера, за мяжу не выпускалі. Заслужаны трэнер БССР застаўся... без работы.

Вядома, работы па спецыяльнасці ні з таго ні з сяго ніхто не пазбаўляецца. Павінна быць прычына або сукупнасць прычын. У чым жа справа? Магчыма, характар? Магчыма. І амаль напэўна. Ніхто не пярэчыць, характар у яго складаны. Але навошта ж ахутваць чорным покрывам тайны падзеі, якія цяжка вытлумачыць? Ці не лепш дадаць да вызначэння «складаны характар» сінонімы, якія найбольш яго характарызуюць, неспакойны, арыгінальны, самабытны?..

Прынамсі, у самабытнасці цяжка адмовіць абодвум членам гэтага непараўзыдзенага ў пэўным сэнсе сямейнага дуэта. За што іх асудзілі? За тое, што людзі зрабілі так, як хацелі, нікому пры гэтым не пашкодзіўшы? За паводзіны, уласцівыя кожнаму, свабоднаму ў мысленні і ўчынках, чалавеку? За тое, урэшце, што яны крышачку апярэдзілі свой час?

Адзін з дзяржтрэнераў СССР па тэнісу выказаўся з усёй пэўнасцю: «Зверава апярэдзіла падзеі. «Савінтэрспорт» вёў перагаворы з замежнымі фірмамі аб тым, каб яны прадстаўлялі інтарэсы і Федэрацыі СССР, і саміх спартсменаў. Узніклі меркаванні, што ў адносінах да Наташы будуць прыняты нейкія меры. Але ні пра якія санкцыі і размовы не было. Больш таго, міжнародны каляндар спаборніцтваў, у якіх яна прадстаўляе савецкі тэніс, стане яшчэ больш насычаным. Дарэчы, план гэты складалі разам бацька Наташы, Марат Звераў, і старшы трэнер зборнай краіны Вольга Марозава».

У сваю чаргу, Вольга Марозава адзначыла: «Лічу, што кожны спартсмен павінен адчуваць у асобе «Савінтэрспорту» свайго памочніка, партнёра. Арганізацыю, якая змагаецца за іх правы, а не арганізацыю, з якой трэба змагацца».

Між тым, многія гавораць Зверавым: правільна зрабілі! Нават дзякуюць, бо разумеюць, што самае цяжкае — зрабіць першы крок. Тым больш крок, які немінуча выклікае станоўчыя перамены. Але гавораць і дзякуюць чамусьці ціха, пераважна без сведак, з аглядкай — «А раптам?». А чаго баяцца? Вы ж не са злоснымі палітэмігрантамі справу маеце. Ды і часы застою, здаецца, мінулі. І чаму б свабоднаму чалавеку, які жыве ў свабоднай краіне, не рашыцца на ўчынак, ад якога, паўтаруся, нікому горш не стала?

З грошай, на мой погляд, усё пачалося, з таго самага дня самавольнага (няхай будзе так!) падпісання кантракта. Божа ж мой, якая бура ўзнялася! Паважаны «Советский спорт» аб'явіў Наталлі і Марату Мікалаевічу сапраўдную, маральную і псіхалагічную, вайну! Як гэта? Хіба так можна!

Скажыце, калі ласка, ці можа юны спартсмен стаць мільянерам? Напэўна, так, скажаце вы, калі сваімі рукамі і розумам зарабіць гэты мільён. Усё проста. Але толькі на першы погляд. Пытанне гэта дыскусіруецца вельмі даўно, але бацькі педагагічнай навукі ніяк не могуць вырашыць: ці мае права дзіця пасільна працаваць і зарабляць пэўную суму грошай, скажам, у час летніх канікулаў? Некаторыя лічаць гэта недапушчальным. Астатнім жа даводзіцца пры-

знаць, што гэта — свайго роду ненармальная рэальнасць, з якой даводзіцца лічыцца.

А што ж рабіць з Наталляй Зверавай, з той сумай грошай, якія яна зарабіла, няхай не на летніх канікулах, але сваёй катаржнай працай на лепшых кортах свету, у самых прэстыжных турнірах? Прасцей за ўсё было б, вядома, сказаць, што гэта — яе грошы і яе асабістая справа, а ў чужую кішэню, дарэмна, няёмка зазіраць. Але тут ёсць мноства момантаў, якія нельга скінуць з рахунку. Напрыклад, той факт, што навучанне тэнісу абышлося Наталлі і яе бацькам бясплатна. Жыла б яна ў ЗША або Канадзе, Вялікабрытаніі ці Швецыі, і Зверавым давялося б выдаткаваць немалую суму, перш чым талент дачкі пачаў прыносіць шалёныя даходы.

Але было б несумленна не прыгадаць і той нялёгкі час, калі Звераўтата вымушаны быў працаваць дзеля дачкі на стаўцы мастака-афарміцеля СКА, а на зарплату ў 95 рублёў «цягнуць» усю сям'ю, уключаючы і будучую чэмпіёнку свету. Хто падлічыў, у што абышліся яму тыя цяжкія дні, якія матэрыяльныя затраты панёс трэнер тады?

Дзе ж выйсце ў гэтай няпростай сітуацыі? А выйсце ў праўдзе. У прыняцці закона, які б расставіў усе кропкі над «і», у якім бы ясна, чорным па белым былі агавораны правы і абавязкі савецкіх спартсменаў, што зарабляюць немалую валюту, і згодна якому ніхто не стаў бы абвінавачваць, напрыклад, майстра спорту міжнароднага класа Наталлю Зверава ў драпежніцка-мільянерскіх замашках. У законе, які б дакладна вызначаў: столькі працэнтаў сумы належыць спартсмену, а столькі — дзяржаве, якая яго выхавала.

...Размова наша блізіцца к канцу, а кропку, як кажуць, ставіць рана. Подпіс пад кантрактам у сярэдзіне красавіка 1989 года Наталлі Зверавай яшчэ доўга будзе непакоіць розумы супрацоўнікаў Дзяржкамспорту, спартсменаў, трэнераў, арбітраў. Трэба меркаваць, справядлівасць пераможа. Для пачатку быў зламаны і выкінуты на звалку спартыўнай гісторыі яшчэ адзін бюракратычны бар'ер, які перашкаджаў таленавітым грамадзянам нашай краіны свабодна, без «ціску» зверху тварыць. А творчасць, як вядома,— стрыжань прафесійнай дзейнасці.

**Ірына КУЗНЯЦОВА.**

**АД АЎТАРА. Не выпадкова ў пачатку артыкула я прывяла цытату з часопіса для інжынераў. У тым жа артыкуле пра піяніста з сусветна вядомым імем Андрэя Гаўрылава ёсць яшчэ адна фраза, якая здольна зацікавіць: «Пакуль яшчэ выпадкі свабоднай работы і заключэння кантрактаў — выключэнне. Многія гіганты, якіх дала савецкая школа, жывуць за мяжой. Страшная рэальнасць прывяла да таго, што многія вялікія парвалі з сістэмай часоў застою».**

**...Трэнер і спартсменка, Марат Мікалаевіч і Наталля Маратаўна Зверавы, яшчэ раз паўтарылі: «Нікуды мы не паедзем і ехаць не збіраемся. Хочам толькі, каб нам далі свабоду творчасці. Мы не адмаўляемся матэрыяльна дапамагчы беларускаму тэнісу, калі ў нас будзе магчымасць распараджацца пэўнай доляй сваіх валютных даходаў. Было б чым распараджацца... Што выйдзе на самай справе! Пажывём — пабачым. Хацелася б, каб наш выпадак прынёс карысць — і спорту, і самім спартсменам...».**



**Пад рэдакцыяй міжнароднага грасмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.**

# ДУЭЛІ, ЯКІМ НЯМА КАНЦА,

## АБО АДЗІН ПОГЛЯД НА ДЗВЕ НОВЫЯ КНІГІ НА ШАХМАТНУЮ ТЭМУ

Чалавек у спорце.

Чалавек у адносінах да спорту.

Спорт як сацыяльна-гістарычную катэгорыю сёння вывучаюць філосафы і псіхолагі, гісторыкі і сацыёлагі. І гэта зразумела: сучасны спорт — люстэрка грамадскага жыцця, ягоны працяг. Ну, а што тычыцца шахмат,— то тут і ўвогуле мы бачым дуэлі, якім няма канца.

Пра шахматы і шахматыстаў ёсць шмат вусных апавяданняў, акцёраў шахматнай сцэны мы разглядаем у твар у часе турніраў і чэмпіянатаў, бачым на экране тэлевізара. А калі ў выдавецтве выходзіць чарговы «шахматны дэтэктыў» — тут ужо для завадатараў і аматараў старажытнае гульні існае свята.

Днямі на кніжных паліцах з'явіліся дзве кнігі. Адна мае назву — «Безлимитный поединок». Выдавецтва маскоўскага «Физкультура и спорт». Аўтар — чэмпіён свету Гары Каспараў. Другая кніга выйшла ў выдавецтве «Полымя» і называецца «Логика современных шахмат». Напісаў гэты падручнік міжнародны майстар з Мінска Вячаслаў Дыдышка.

Перагорнем некалькі старонак «Безлимитного поединка».

Неверагодна, але факт: чэмпіён свету Гары Каспараў апавядае пра бескампрамісную, часам жорсткую барацьбу за шахматную карону, пра закулісныя інтрыгі, пра тое, што застаецца «за кадрам» біятвы ў шахматным каралеўстве, і ў самых розных раздзелах аўтабіяграфічнай аповесці знаходзіць падставу і месца для прызнання ў любові сваёй матулі! І калі на шахматных прэс-канферэнцыях у Гары Каспарава пытаюцца, каму ён абавязаны сваімі поспехамі,— адказ нараджаецца амаль аўтаматычна: «Экс-чэмпіён свету Міхаіл Бацвіннік, галоўны трэнер і кансультант, заслужаны трэнер СССР Аляксандр Нікіцін. І канечне ж, матуля, Клара Шагенаўна».

Бацвіннік даў юнаму Гарыку пуцёўку ў шахматнае жыццё, Нікіцін — дбайны настаўнік і сябар, ну, а матуля — і псіхолаг, і дарадца, і ўвогуле чалавек, які заўсёды побач у цяжкую хвіліну, у хвіліну адчаю. Журналісты, асабліва з-за мяжы, з ахвотаю «атакуюць» Каспарава, бо ўпэўнены: ад яго абавязкова пачуеш нешта сенсацыйнае. «Атакуюць» і... выйграюць. Шмат сенсацыйнага ёсць і ў каспараўскай кнізе. Сярод яе герояў і антыгерояў прэзідэнт ФІДЕ Ф. Кампаманес і лётчык-касманаўт В. Севасцьянаў, старшыня ВЦСПС С. Шалаеў, былы член Палітбюро Г. Алієў і былы міністр культуры СССР П. Дземічаў, ну, і, канечне ж, сусветна вядомыя грасмайстры — В. Смыслоў, М. Таль, Б. Спаскі.

«Калі я выйграў 9 лістапада 1985 года сваю самую галоўную шахматную партыю, не думаў нават, што жыццё лагічна ўцягне мяне ў барацьбу грамадскіх сіл, пачаткам якой стане перабудова. І ў адрозненне ад шахмат гэтую біятву аднаму не выйграць. Таму я і напісаў гэтую кнігу...» З цікавасцю чытаюцца раздзелы «Безлимитного поединка»: «Взрослые игры», «Да здравствует король!», «Цирк Кампо», «Нож в спину», «Второй фронт», «Дитя перестройки»...

Не абышоў бокам Гары Каспараў і свайго партнёра Анатоля Карпава. І яму — свайму шахматнаму праціўніку — прысвяціў вось якія радкі. Цытую: «Мне пашчасціла, што сустрэў на сваім шляху шахматыста, як Анатоль Карпаў. Матчы з ім — гэта цэлая школа, бясконцыя сустрэчы. І я хацеў бы яшчэ неадноўчы сустрэцца з гэтым шахматыстам і чалавекам».

Вядомы рускі грасмайстар Аляксандр Алёхін сцвярджаў: «Шахматы дапамагаюць выхоўваць характар». Што тычыцца Гары Каспарава, то ягоны характар выхоўвае... шахматы. Пра гэта вы таксама прачытаеце ў кнізе чэмпіёна свету.

А цяпер — пра кнігу нашага земляка міжнароднага майстра Вячаслава Дыдышкі «Логика современных шахмат». Я ўпэўнены, што гэтае даследаванне неадназоваага чэмпіёна Беларусі зацікавіць і тых, хто робіць першыя крокі на шахматным полі, і тых, хто мае ўжо той ці іншы шахматны разрад, і тых, хто заўтра пачне барацьбу за тытул чэмпіёна рэспублікі. Пра гэтую кнігу мы раскажам у чарговым шахматным выпуску.

...І апошняе. Наведайце кнігарні, спытайце новыя кнігі — «Безлимитный поединок» і «Логика современных шахмат».

Р. S. А зараз падаём дыяграму для... роздуму.



Да пазіцыі, якую вы бачыце на дошцы, прыйшлі Г. Каспараў і З. Рыблі. Чэмпіён свету (ён гуляў белымі) працягваў: 26. Л : b5, і... прапанаваў нічыю. Рыблі, канечне ж, пагадзіўся. А вось аналіз сведчыць, што ў Каспарава быў шанс літаральна ў адзін ход дамагчыся перамогі.

Пашукайце і вы, паважаныя чытачы, гэтыя таямнічы «суперход».

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Беларускі савецкі харэограф, заслужаная артыстка БССР. 6. Самалёт з дзвюма плоскасцямі, размешчанымі адна пад другой. 9. Від выяўленчага мастацтва. 10. Вайсковае падраздзяленне. 12. Адно з пяці знешніх пачуццяў. 13. Сталіца азіяцкай дзяржавы. 14. Ступень дыятанічнага гукарада (муз.). 15. Дасканалы ўзор чаго-небудзь. 17. Беларускі савецкі кінарэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. 18. Востры стрыжань. 22. Горад у Брэсцкай вобласці. 23. Народная артыстка СССР, Герой Сацыялістычнай Працы. 24. Метрычная мера вадкасці. 27. Жывапісны, скульптурны ўзор. 29. Марская палярная птушка. 30. Рэзкі, імклівы рывок перад фінішам. 31. Зборнік малюнкаў, чарцяжоў, схем. 35. Сорт марожанага. 36. Беларускі савецкі мастак тэатра, графік, народны мастак БССР. 38. Частка рабочага цыкла механізма. 39. Каралавы востраў. 40. Літаратурны жанр. 41. Кантынент. 42. Тонкая бавоўняная тканіна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Беларускі савецкі пісьменнік. 2. Маторнае турысцкае судна. 3. Драпежнік сямейства кашэчых. 4. П'еса І. Гурскага. 5. Абойны матэрыял. 6. Беларускі савецкі спявак, народны артыст БССР. 7. Паўднёваамерыканская ўючная жывёліна. 8. Хімічны элемент, метал. 11. Балет А. Эшпая. 12. У міжнародным праве — становішча, стан. 16. Жаночае галаўное ўпрыгожанне. 19. Вечназялёная пахучая расліна. 20. Дзяржава ў Паўночнай Афрыцы. 21. Грашовая адзінка рада краін. 25. Кустовая садовая ягада. 26. Інструментальны твор на тэмы народных песень і танцаў. 27. Беларускі савецкі жывапісец, народны мастак БССР. 28. Прылада для рыхлення глебы. 29. Карціна К. Касмачова. 32. Грызун, шкоднік пасеваў. 33. Аўтар вершаванай казкі «Вавёрчына гара». 34. Духавы клавішны музычны інструмент. 35. Геадэзічны інструмент. 37. Пакладзеныя слаямі адзін на адзін прадметы.

**Склаў Канстанцін ЖУК.**

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 4

1. «Канцэрт». 2. Тактыка. 3. Бастыён. 4. Марціра. 5. Танкіст. 6. Каралёў. 7. Казінец. 8. «Ташкент». 9. Эскадра. 10. Эсмінец. 11. Застава. 12. Наганаў. 13. Рэгаліі. 14. Шэфства. 15. Бінокль. 16. Пілатаж. 17. Лакатар. 18. Патруль. 19. «Тачанка». 20. Мазанік. 21. Талаш. 22. Штурм. 23. Старт. 24. Тайна. 25. Мінск. 26. Мінай. 27. Шторм. 28. Устаў. 29. Коцін. 30. Армія.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 5 (617)
МАЙ
1990 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: мітынг на плошчы Леніна ў Мінску (глядзіце тэкст на 2-й стар.)

Фота Віктара ЖУКА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.03.90.
Падпісана да друку 15.04.90.
АТ 01596.
Фармат 70×108 1/16.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,5.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 18 500 экз.
Зак. 655.

Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



ФОТАНАРЫС

# ЛЮДЗІ І КОНІ















Гадоў пяць — шэсць назад (калі ўжо не ў кожным калгасе можна было ўбачыць хоць бы маленькую канюшню) найбольш разумныя і гаспадарлівыя людзі пачалі барацьбу за «рэабілітацыю» каня. І «рэабілітацыя» гэта цяпер ідзе няхай не хутка, затое — незваротна. Сёння, здаецца, не трэба нікому даводзіць, што ў каня ёсць свае перавагі перад трактарам, аўтамабілем. Што на пэўных работах больш эканамічна выкарыстоўваць менавіта коней, а не тэхніку. Тым больш — магутную і дарагую. Словам, няма нічога дзіўнага ў тым, што нашы першыя арандатары, фермеры ахвотна купляюць коней і ў іх дварах побач з матацыкламі, аўтамабілямі цяпер стаяць драбіны.

Разам з канём у вёскі і хутары вяртаецца тая асаблівая прыгажосць, гармонія, ад якой мы паспелі ўжо адвыкнуць.

«Як чалавек, толькі не размаўляе» — гэта ходкая «характарыстыка» даецца намі нашым свойскім «братам меншым». Сабакі, кошкі, коні... Калі прыглядзецца, сапраўды, яны такія розныя — разумныя і не, добрыя і злыя — і так у нечым падобныя на нас... Віктар Жылін зразумеў гэта, убачыў і зрабіў здымкі, якія — перад вамі.

Можна павіншаваць фотамайстра з творчай удачай. Але ў першую чаргу мы віншуем нашага пастаяннага аўтара з яго юбілеем — 50-годдзем.



МІС ФОТА СССР

У ШТО АПРАНУЦЬ ПРЫГАЖУНЮ?





Фота Альгімантаса АРМОНАСА.

| ЧЭРВЕНЬ | П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | ☽1 | 2 | 3 | 4 | 5 | ○6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | 11 | 12 | ☾13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | ●20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | 25 | 26 | ☽27 | 28 | 29 | 30 | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ☽ — 1—5 — сход, ○ — 6—12 — поўня, ☾ — 13—19 — ветах, ● — 20—26 — маладзік, ☽ — 27—4 ліпеня — сход.